ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА

# Культура

№ 48 (361)
25 — 31 снежня
1998 г.
КОШТ
6000 РУБЛЁЎ


*Віншуем усіх вернікаў-каталікоў з Раством Хрыстовым і ўсіх чытачоў "К" з надыходзячым Новым годам!*









*Наступны нумар "Культуры" выйдзе ў свет 7 студзеня 1999 года.*

Удзячны ўсім, хто нас павіншаваў!

***Цырк рыхтаваўся да сваёй чароўнай пераднавагодняй казкі. Ледзяная арэна зіхацела ў промнях сафітаў мірыядамі люстэркавых сняжынак, а закуліссе жыло сваімі імпульсамі. Ішла генеральная рэпетыцыя. Заўтра — прэм'ера...***

***Дырэктар Мінскага дзяржаўнага цырка Таццяна Бандарчук падалася нам у гэтай казачнай атмасферы чароўнай... Снягуркай. І нават прапанавалі ёй апрануцца для фотаздымка ў серабрыста-блакітны касцюм-імідж. Але чыноўнік усё ж перамог жанчыну ў Таццяне Мікалаеўне, і мы скіраваліся ў дырэктарскі кабінет.***

# НА "ІЛЬДЗІНЕ" ГАРАЧАЙ АРЭНЫ

*— Мяркуючы па занатаваных фотаімгненнях вашага жыцця, вы ў мінулым — артыстка цырка?*

**— Зусім у недалёкім мінулым, нават і цяпер не супраць папрацаваць артысткай, але... Будынак адымае шмат часу, два гады без адпачынку, бо цырк вельмі стары, адсюль шмат праблем. Хачу паспець зрабіць тое, што бачыцца.**

*— Адыходзіць у нябыт год Тыгра... А вось гэты тыгр, на якім вы так нязмушана размясціліся...*

**— Мяне на ім сфатаграфавалі ў Егіпце, калі Беларускі цырк упершыню там гастраляваў. Праўда, раней цырк існаваў толькі як будынак пад гэтай назвай. Але цяпер, і, дарэчы, на гэтым настойвае Прэзідэнт краіны, у нас будуць свае артысты, свае айчынныя праграмы. І Аляксандр Рыгоравіч дапамагае ажыццявіць гэты праект. Мы адкрылі курс у вучэльні, дзе рыхтуем моладзь. Ёсць ужо беларуская праграма, якую мы заявім у наступным годзе. Але частка артыстаў абкатвае яе на гастролях сёння, так што будзе цалкам нацыянальная праграма ў двух аддзяленнях... Я ж не толькі дырэктар, але яшчэ і мастацкі кіраўнік, і рэжысёр...**

*— Таццяна Мікалаеўна, у навагодняй праграме дзеці ўбачаць белых мядзведзяў...*

**— І гэтыя драпежнікі, дарэчы, разумеюць, калі выходзяць на сцэну, што ім трэба выконваць пэўныя трукі. Вядома ж, белы мядзведзь пакутуе, бо не на ільдзіне ён, а ў нас, у цырку. Як і любы іншы звер. Але па вялікім рахунку, на Захадзе Грынпіс ужо забараняе ўводзіць у цыркавыя праграмы не толькі драпежнікаў, а нават сабак, і ў публікі гэтыя нумары цяпер не каціруюцца, бо людзі разумеюць пакуты братоў сваіх меншых...**

(Заканчэнне на стар. 3.)




Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# РЭДАКЦЫЙНАЯ ІМПРЭЗА



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# "У ЕЛІЗАР'ЕВА"

Рэдакцыйны марафон

***Па запрашэнні сябра нашай рэдкалегіі народнага артыста СССР і Беларусі Валянціна Елізар'ева апошняе пасяджэнне года мы праводзілі ў яго рабочых апартаментах Нацыянальнага тэатра балета. Жартаўліва назвалі сустрэчу "перасоўнай рэдкалегіяй", але калі сур'ёзна, дык гаворка "культура"ўцаў з сябрамі грамадскага органа газеты атрымалася грунтоўнай. Падводзілі вынікі года, раіліся пра тое, як будзем жыць далей, у 99-м... Трэба сказаць, што наша рэдкалегія — не мёртвы дадатак да выходных дадзеных на апошняй паласе, і сябрам яе зусім не абыякавы наш лёс. Нягледзячы на тое, што людзі ў рэдкалегіі — усе творчыя асобы, ды яшчэ абцяжараныя высокімі дзяржаўнымі пасадамі, наша шаноўная рада працавала на "Культуру" ўвесь год.***

***У публіцыстычнай калонцы "Пра набалелае..." выступілі амаль усе сябры. Акрамя гэтага, яны пісалі эксклюзіўныя артыкулы па гісторыі і сённяшніх праблемах нацыянальнай культуры. Ды і абодва намеснікі міністра культуры, таксама сябры рэдакцыйнай рады, акрамя публікацый, прымалі дзейсны ўдзел у аснашчэнні "Культуры" камп'ютэрнай тэхнікай і фотаапаратурай, дзякуючы якім мы можам выходзіць на колеры.***

***Словам, 19 снежня пасяджэнне "У Елізар'ева" ператварылася ў творчы "круглы стол". Сёння мы друкуем некаторыя фрагменты гаворкі, на наш погляд, найбольш канцэптуальныя. І адно з вастрэйшых пытанняў пра будучыню газеты — павелічэнне яе накладу...***

***А яшчэ мы папрасілі нашых суразмоўцаў колькі слоў сказаць пра сябе...***

## "ПРА НАС..."

**Валерый ГЕДРОЙЦ, намеснік міністра культуры Беларусі:** Думаю, набыць новага падпісчыка газеце дапаможа ў пэўнай ступені тое, што з наступнага года Міністэрства культуры будзе друкаваць у ёй нарматыўныя дакументы. Прычым гэта будзе эксклюзіўнае права "Культуры", бо ў іншыя выданні дакументы не трапяць.

Нашы дзяржаўныя масавыя газеты робяць конкурсы сярод падпісчыкаў...

**Юрый ЦВЯТКОЎ, намеснік міністра культуры Беларусі:** Дарэчы, для тых "камісараў" у рэгіёнах, у якіх найбольш падпісваюцца на "Культуру", могуць быць заснаваны прызы. Напрыклад, міністэрства для гэтай мэты можа набыць тэлевізар...

Але я хацеў бы сказаць вось пра што. Здзіўляешся, калі прыязджаеш на Палессе: там выпісваюць не толькі "Культуру", але і часопіс "Мастацтва". Асабліва ў Лельчыцкім раёне, дзе гэтыя выданні я бачыў амаль у кожнай сельскай бібліятэцы.

**Аляксей ДУДАРАЎ, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, галоўны рэдактар часопіса "Мастацтва":** Наконт нарматыўных дакументаў. Мне здаецца, што яны цяжка будуць упісвацца ў кантэкст газеты. А ці не зрабіць які-небудзь дадатак? Напрыклад, раз на месяц або на два месяцы друкаваць у асобным ад асноўнай газеты сшытку тыя дакументы? А ўвогуле мы павінны займацца перш за ўсё творчасцю. Газетчыкам наканавана займацца газетай, а не думаць пра тое, як падпісаць лішнія дзесяць экземпляраў. І я, прыкладаўшы ўсе свае намаганні, больш чым сто экземпляраў часопіса не падпішу. Бо каштуе ён дорага!

**В.ГЕДРОЙЦ:** Возьмем тыя ж святы, напрыклад, пісьменства і друку. У адрозненне ад іншых выданняў, мы маем магутны атрад творчых работнікаў, якія займаюцца гэтым святам і маглі б газету паставіць наперадзе...

**Уладзімір ГІЛЕП, старшыня Беларускага фонда культуры:** А ў кіёсках "Культуру" знайсці немагчыма, калі своечасова не набудзеш у дзень яе выхаду ў свет. Памятаю, па ўсім горадзе шукалі, каб даслаць у Польшчу, Літву, бо ў газеце былі надрукаваны матэрыялы з нагоды заснавання Міжнароднага фонду Крэва. Я прайшоў 7 кіёскаў і не знайшоў, бо часам у шапікі трапляюць толькі па адным экземпляры. Я думаю так: аднаго нейкага рэцэпта — што зрабіць, каб палепшыць сістэму распаўсюджвання газеты, — няма. І колькі б мы зараз ні вынаходзілі гэты рэцэпт, яго не будзе. Так, патрэбны і паездкі ў рэгіёны, і сустрэчы з работнікамі культуры, і нарматыўныя дакументы друкаваць неабходна. Але друкаваць толькі не за кошт страты прывабнасці гэтай газеты, бо можна сапсаваць, парушыць яе аўру. І ўсё ж магу прапанаваць адзін з маленькіх рэцэпцікаў. Спадзяюся, што з мая наступнага года ў Траецкім прадмесці пачне працаваць "Траецкі кірмаш". І ў кожную новую суботу там будзе прадстаўлены новы раён. І калі мы прапусцім праз летнія месяцы недзе 30—40 раёнаў, то на кірмашы будзе мець магчымасць працаваць і газета "Культура". Гэта і рэалізацыя, і падпіска, і прапаганда выдання.

Ну, а тое, што тычыцца газеты, то я з велізарным задавальненнем магу сказаць, што бяру "Культуру" з цікавасцю, бо ведаю: хоць адзін, два матэрыялы ў ёй будуць для мяне карысныя. Але пакуль не заўсёды газета аператыўная, а яна павінна ісці яшчэ больш шпарка наперадзе падзей.

**В.ГЕДРОЙЦ:** Улічваючы нашыя абставіны, з аднаго боку, газета павінна быць папулярнай, а з другога — трэба больш інфармацыі даваць з замежжа: Расіі, Украіны, Літвы. Чым там жыве культура?

**Вольга ІПАТАВА, намеснік старшыні Беларускага саюза пісьменнікаў:** Безумоўна, калі яшчэ нараджалася газета, нам хацелася, каб яна прыносіла карысць больш шырокаму колу чытачоў. Але так склалася, што яна стала элітарнай, і, можа быць, у гэтым яе вартаснасць на сённяшні час ёсць. Яна не масавая і ўвогуле не можа быць масавай. І ўсё ж, мне здаецца, ёсць вялікі патэнцыял творчых работнікаў, пісьменнікаў, журналістаў, якія, відаць, маюць патрэбу ў тым, каб іх больш варушылі, прасілі напісаць публіцыстыку, нагадвалі. А ім ёсць што напісаць. Я сама як пісьменніца часам адчуваю, што без запрашэння не стану пісаць, а вось па замове села б за машынку і нейкія думкі выклала б, асабліва публіцыстыку. Бо раманы і вершы пішуцца самі па сабе, і для гэтага ніякага запрашэння не трэба атрымліваць. Многія пісьменнікі маюць нешта за душой, апроч уласнай творчасці. Аднойчы я вярталася з пісьменнікам, радыёжурналістам Уладзімірам Дзюбам з адной паездкі. Дык ён дзве гадзіны расказваў мне вялікую філасофскую сістэму пра пуп зямлі, які знаходзіцца, на яго думку, у Гомелі. Я спачатку гумарыстычна ўспрымала ягоную канцэпцыю, а пасля, ужо на другой гадзіне зразумела: гэта цікава! І, напрыклад, прачытаўшы яго развагі ў газеце "Культура", я магла б асэнсаваць іх і ўсур'ёз паставіцца да яго канцэпцыі. Падобныя філасофскія ўласныя канцэпцыі ёсць і ў іншых пісьменнікаў. Лічу, што і яны, і сам Саюз пісьменнікаў павінны браць большы ўдзел у газеце яшчэ і ў сілу сваёй грамадскай дзейнасці. А ўвогуле, з пэўных публікацый газеты можна ўжо скласці кнігі, асабліва з тых, што тычацца выяўленчага мастацтва, гістарычнай тэматыкі.



Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ.



Аляксей ДУДАРАЎ.

**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, народны артыст СССР, народны артыст Беларусі, дырэктар — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета:** Мне вельмі блізкае выступленне папярэднікаў і я гранічна падзяляю тую думку, што рабіць з газеты нейкае камерцыйнае выданне, ды тое, што прыносіць прыбытак, ды тое, што працоўнікаў газеты, якія самі займаюцца падпіскай, стоячы на рагу вуліцы, проста смешна. Справа ў тым, што і заснавальнікі, і ўсе мы павінны добра ўсведамляць, што мы пайшлі на вельмі элітарнае выданне. А за гэта трэба плаціць і ўсім думаць, які лакаматыў павінен усё гэта цягнуць. Без лакаматыва — нікуды. Пытанне вельмі тонкае... Другое. Я ўжо казаў на мінулым пасяджэнні рэдкалегіі, што "Культуры" патрэбна большае вакно ў свет. Я вельмі люблю гэтую газету, і мне здаецца, што яна вартасна асвятляе працу музычных тэатраў Рэспублікі Беларусь, і нейкі, так бы мовіць, узважаны, асцярожны, патрабавальны тон газеты мне падабаецца. У ёй няма "шарахання" з боку ў бок, няма абразлівасці ў адносінах да творцаў...

Што тычыцца "акна", дык сапраўды трэба больш ведаць пра свет, пра сябе, пра сваіх продкаў. Вось 6 лютага ў тэатры адбудзецца прэм'ера балета на музыку Стравінскага. "Фамілія" Стравінскіх ёсць у Беларусі. Чаму ніхто ніколі пра гэта не гаворыць? Былі б яны не беларусамі, а літоўцамі або палякамі, даўно б раскруцілі гэтую тэму. А тое, што бацька Стравінскага нарадзіўся ў вёсцы Новы Двор Мінскай губерні, пра гэта ніхто не ведае...

І яшчэ. Паўтаруся, але музычнаму тэатру грэх крыўдзіцца на газету: прэм'еры аператыўна рэцэнзаваліся, друкаваліся цікавыя партрэтныя матэрыялы... Але варта звярнуць увагу на тое, што і ў оперы, і ў балеце з'явілася шмат моладзі, якой яшчэ публіка не ведае, і надрукаваць адзін або некалькі артыкулаў на гэтую тэму, каб шырокая грамадскасць пазнаёмілася з новымі імёнамі, якія выпеставалі абодва тэатры.

**Леанід ШЧАМЯЛЁЎ, народны мастак Беларусі:** Перш за ўсё гаворка ідзе пра газету. Што яна асабіста для мяне, для тых людзей, каго я ведаю. Мне здаецца — гэта цікавая з'ява. За гэты год "Культура" стала адметнай, і не толькі, дарэчы, яе выяўленчы рад, а менавіта паведамленні газеты, прапановы і, нават, адкрыцці ў бок гісторыі, музычнай культуры. Мне здаецца, што аператыўнасць газеты на добрым узроўні. У мяне асабіста няма заўваг, я задаволены ўсім, што сустракаю на старонках "Культуры", бо ў іншых газетах я гэтага не бачу. Што тычыцца выяўленчага мастацтва, дык рубрыка "Мастыхін" вельмі годна падае тыя плыні, пошукі, напрамкі, што ёсць сёння ў краіне. Гэта робіць газету папулярнай у нашым мастацкім асяроддзі, бо, на маю думку, менавіта мастацкая культура, як кажуць, у "нулявым варыянце" трапляе і ў школы, і ў ВНУ з пункта гледжання мастацтвазнаўчай падачы. А таму гэтая газета дае спажыву не толькі для роздуму пра тое, што сёння робіцца ў нас у Мінску, але і што робіцца і рабілася да нас; 20-я гады цікава прадстаўлены, і тыя сусветнавядомыя мастакі, што выехалі з Беларусі, але калісьці вучыліся тут, на гэтай зямлі.



Уладзімір ГІЛЕП.



Юрый ЦВЯТКОЎ.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ, заслужаны артыст Беларусі:** Што тычыцца газеты і адлюстравання ў ёй тых накірункаў, пра якія ідзе гаворка сёння, дык мне здаецца дарэмна і марна марыць пра тое, каб яна была масавай. Навошта? Я не бачу ў гэтым ніякага сэнсу. Газета накіравана сваім адрасатам — дзеячам культуры і мастацтва. Не можа быць усё насельніцтва краіны дзеячамі і не павінна быць, бо гэта было б ненармальна. Пра гэта марыць можна на тысячу гадоў наперад. А сёння, калі пайсці шляхам, пра які гаварыў Валянцін Мікалаевіч, да шырокага чытача, гэта значыць, згубіць пласт чытача элітарнага. Той, які і складае славу і гонар мастацтва сённяшняй Беларусі. Яшчэ адносна прапановы "пра адлюстраванне" пэўных імёнаў на старонках газеты. Па-першае, гэты працэс ідзе: да мяне звярталася рэдакцыя, і тры гістарычныя матэрыялы я даў менавіта з яе падачы. Але і ў сённяшнім нашым дні ўжо ёсць такія імёны, якія павінны фіксавацца як гонар і слава нацыі.



Вольга ІПАТАВА.



Валянцін АКУДОВІЧ.



Віктар СКОРАБАГАТАЎ.

**Валянцін АКУДОВІЧ, загадчык аддзела філасофіі, культуралогіі і замежнай літаратуры часопіса "Крыніца":** Гэты год для газеты быў адным з найбольш плённых за ўсе гады яе існавання. Выданне зноў зрабілася шаснаццаціпалосавікам, да таго ж стала каляровым. Ведаю, як няпроста рабіць такія рэформы ў наш час. Шчыра віншую! Вы вартыя самых высокіх эпітэтаў, але дасканаласць не ведае межаў. Таму я ў пэўным сэнсе згодны з Вольгай Іпатавай, што газета не ў дастатковай меры выкарыстоўвае патэнцыял беларускіх літаратараў. Больш за тое, я мяркую, што газеце "Культура" мо', на карысць стварыць "літаратурны аддзел". Так склалася, што беларуская нацыя і беларуская культура, прынамсі "прафесійная", фармаваліся на падмурку літаратуры. Культура і літаратура ў нас — з'ява непадзельная. Іншая рэч, што "культура"ўская літаратура не павінна дубляваць "ЛіМ", як і іншыя літарацкія выданні. Трэба знайсці свой адметны ракурс і ў падборцы, і ў падачы тэкстаў. Але мая прапанова звязана не з нейкай там абстрактнай гармоніяй — яна звыш прагматычная. Пастаянная прысутнасць літаратуры на старонках газеты, спадзяюся, прылучыць да яе аматараў красамоўства, а іх кола — больш шырокі асяродак беларускамоўнага чытача.

**Рэдакцыя "Культуры" ўдзячная ўсім сябрам за выказаныя думкі і прапановы. А яшчэ за тое, што наладзіць у сябе наступную сустрэчу "перасоўнай рэдкалегіі" прапанаваў Аляксей Дудараў. І было вырашана: збіраемся "У Дударава"!**


Падчас сустрэчы югаслаўскіх і беларускіх пісьменнікаў.

# ПАД ЗНАКАМ ЗНАЁМСТВА І СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Да завяршэння Дзён культуры Югаславіі ў Рэспубліцы Беларусь**

Як ужо вядома, з 10 па 16 снежня на Беларусі прайшлі Дні культуры Саюзнай Рэспублікі Югаславіі (пра адкрыццё іх "Культура" пісала ў мінулым нумары).

Госці былі прадстаўлены афіцыйнай дэлегацыяй на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Саюзнага ўрада Югаславіі Данілам Вуксанавічам і шматлікімі творчымі калектывамі, вялікай групай сербскіх і чарнагорскіх майстроў культуры, літаратуры і мастацтва — музыкантаў, спевакоў, пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў культуры і кіно (усяго каля 200 чалавек). У святочных мерапрыемствах узялі ўдзел, у прыватнасці, Бялградскі сімфанічны аркестр, салісты Бялградскай філармоніі, Бялградскі камерны хор, фальклорныя ансамблі.


*Старшыня югаслаўскай дэлегацыі, намеснік прэм'ер-міністра Саюзнага ўрада Югаславіі Даніла Вуксанавіч.*

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшоў літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння славутай югаслаўскай паэтэсы Дэсанкі Максімовіч. У вечары прынялі ўдзел госці — югаслаўскія пісьменнікі Драгамір Брайкавіч, Мілаван Віцэзовіч, Наталі Дудаш (яна ж і намеснік міністра культуры Сербіі), Мілісава Міленковіч, Міліца Ноўкавіч, Слабадан Йокавіч, Слабадан Станішыч, а таксама навуковец, дырэктар Інстытута міжнародных літаратурных сувязей Барыс Ільенка. У Доме дружбы адбылася таксама сяброўская сустрэча актыву таварыства "Беларусь — СРЮ" з членамі афіцыйнай дэлегацыі, падчас якой быў падпісаны Дагавор аб супрацоўніцтве з таварыствам "СРЮ — Беларусь".

У Доме літаратара югаслаўскіх пісьменнікаў прымалі іх беларускія калегі па пяры. Госці дзяліліся сваімі думкамі пра становішча ў роднай краіне (часта гучалі словы "вайна", "Косава"), сваімі беларускімі ўражаннямі, чыталі новыя творы. Выказвалася шкадаванне, што мы недастаткова ведаем адзін аднаго, і ўносіліся прапановы наконт творчага супрацоўніцтва — мастацкага перакладу і выдання анталогій паэзіі, вывучэння моваў, абмен студэнтамі і г.д.

Завяршыліся Дні культуры вялікім канцэртам у Палацы культуры трактарнага завода. Яны сталі, несумненна, значнай падзеяй у культурным і грамадскім жыцці краіны, далі адчувальны імпульс для далейшага развіцця сяброўства і супрацоўніцтва паміж нашымі народамі.

**Ул.інф.**

# ЁСЦЬ ТАКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ...

***І называецца яна так: "Беларуская маладзёжная асацыяцыя "Кітай—2000". Ініцыятыўная група па стварэнні яе ўзнікла на пачатку гэтага года і аб'ядноўвала студэнтаў вядучых ВНУ сталіцы, якія цікавяцца гісторыяй і сучасным жыццём КНР, яе культурай, традыцыямі, эканомікай. 12 жніўня г.г. асацыяцыя была зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі і набыла статус аднаго з паўнапраўных грамадскіх аб'яднанняў краіны.***

На рахунку новай маладзёжнай асацыяцыі — шэраг самых розных мерапрыемстваў, у прыватнасці, такія, як актыўны ўдзел у правядзенні "круглага стала" на тэму "Беларуска-кітайскія адносіны на сучасным этапе: праблемы і перспектывы" (сумесна з Таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі), правядзенне фотавыстаў, семінараў, вечароў беларуска-кітайскай дружбы, паказ відэафільмаў, стварэнне маладзёжнага клуба "Дзелавы кантакт", арганізацыя конкурснага адбору перакладчыкаў для "Дзён навукі і тэхнікі Кітая ў Рэспубліцы Беларусь" і інш.

А нядаўна ажыццявілася яшчэ адна каштоўная ініцыятыва БМА "Кітай—2000". Пры садзеянні Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, пасольства КНР у Беларусі і Клуба кітайскіх студэнтаў адбылося адкрыццё беларуска-кітайскага інфармацыйнага цэнтра. На адкрыцці цэнтра выступілі прэзідэнт асацыяцыі, студэнт БДПА Ян Розум, прарэктар акадэміі, прафесар Анатоль Скайбеда, а таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР У Сяоцю. Прысутнічалі прадстаўнікі таварыства "Беларусь — Кітай".

Пасольства Кітая ўручыла прызы студэнтам факультэта міжнародных зносін БДУ, якія перамаглі ў віктарыне, прысвечанай жыццю кітайскага народа. Завяршылася цырымонія невялікім канцэртам: кітайскія студэнты выканалі некалькі твораў класічнай музыкі.

**Наш кар.**



# ПРА КАНТАКТЫ, КАНТРАКТЫ І КІНО

***У рамках Дзён югаслаўскай культуры асобае месца займае мастацтва кінематаграфістаў, майстэрства якіх на працягу тыдня мінчукі мелі магчымасць бачыць у кінатэатры "Перамога". Дый дэлегацыю з братняй славянскай краіны прадстаўлялі гучныя імёны культуры і высокія чыны дэпартаментаў і міністэрства.***

***Сярод гасцей імя кінадраматурга Івана Маркавіча даўно вядома аматарам сінета. На пачатку 80-х гадоў стужкі "Прыйшоў час кахаць" і "Жыкіна дынастыя" былі лідэрамі ў пракатнай сістэме СССР. Гэтыя камедыі першымі паказалі сучасных Рамэа і Джульет і канфлікт бацькоў і дзяцей без навязлівай маралі. Стужка "Прыйшоў час кахаць", калі не распачала сексуальную рэвалюцыю ў СССР, дык "справакавала" шэраг айчынных кінамайстроў на стварэнне стужак на адпаведную тэматыку. Такім чынам, мы, камсамольцы 80-х, убачылі айчынныя карціны: "Вам і не снілася", "У маёй смерці прашу вініць Клаву К..."***

***Як вы здагадаліся, з піянерам руху "Прыйшоў час кахаць — кахайце на здароўе" Іванам Маркавічам, аўтарам каля 30 ігравых і 200 дакументальных карцін, заўсёды ёсць тэма, на якую прыемна размаўляць. Дарэчы, каб не надта трывіяльна выглядала інтэрв'ю, дадам: карціны Маркавіча маюць 30 узнагарод, сярод якіх і "Залаты мядзведзь" берлінскага фэсту, і "Дэбют" канскага форуму...***

**— Спадар Іван, мінчукі ведаюць вас як майстра камедыйнага жанру кіно. Ці спрабавалі вы пісаць для драматычных тэатраў?**

— Класічнага драматургічнага твора я не напісаў. Хаця, у Югаславіі тэатральнае мастацтва папулярнае. Дастаткова ўзгадаць міжнародны фестываль "Бітэф"... Лёс мне падарыў шанец дакрануцца да тэатра толькі аднойчы: з нагоды юбілею кампартыі я напісаў сатырычную камедыю "Прашу прыняць мяне ў рады партыі...", якую разыгралі артысты перад нашымі палітычнымі лідэрамі таго часу. І Броз Ціта таксама глядзеў той спектакль. Толькі твор атрымаўся не на тэму "ура — патрыёты-камуністы!", а якраз наадварот. З іранічным падтэкстам. Вы ж павінны памятаць, што Югаславія вылучалася і эканомікай і палітыкай сярод краін, якія складалі сацыялістычны лагер. І таму многія рэчы ў мастацтве былі дазволенымі ў нас і недаравальнымі ў вас.

**— А югаслаўскім гледачам кіно і тэатральнае мастацтва "краін саветаў" падабалася? Яны знаёмыя, увогуле, з творамі, якія вызначаюць сёння эпоху стагоддзя?**

— Безумоўна! Да прыкладу, гастролі савецкіх тэатраў у незабыўныя часы не спыняліся... Сістэма кінапракату таксама функцыяніравала, і югаслаўскія гледачы бачылі лепшыя стужкі, зробленыя ў СССР. Між іншым, нашыя функцыянеры ад мастацтва адразу ж узялі курс на ангажэмент "лепшага сярод лепшых" ва ўсіх відах мастацтва як капіталістычных краін, так і сацыялістычных. На густы гледачоў ніколі не ўплывала чыясьці ідэалогія ці прапаганда пераважнасці грамадскага ладу аднаго перад другім ці трэцім. Таму, я лічу, што наш глядач адукаваны. Яго не накорміш "ширпотребом" галівудскіх кампаній ці казкамі пра светлую камуністычную будучыню. Дарэчы, сёння падчас дэманстрацыі стужак у мінскай зале мала гледачоў... А ў бялградскіх кінатэатрах, нягледзячы на сучасны палітычны стан краіны, на кошт квіткоў, цана якіх значна вышэй за вашу, палюбіць гледачоў. Асабліва падчас такіх міні-кінафестываляў.

**— Эканамічны крызіс суседняй Расіі закрануў і беларусаў. Відаць таму, мае суайчыннікі зараз занятыя пошукамі заробкаў, каб хаця прыстойна сустрэць Каляды...**

— Я не хачу нікога пакрыўдзіць, бо ў Мінску я не ўпершыню і паважаю ваш народ і краіну.

**— Дарэчы, адкуль вы так выдатна ведаеце рускую мову?**

— Мая жонка прафесар-лінгвіст па ўсходнеславянскіх мовах. Адразу агаваруся, мову я вучыў самастойна і толькі некаторыя нюансы вывяраў на яе выданнях. І потым, я часта бываў на "Масфільме" і маю сяброў сярод расійскіх рэжысёраў. А ўвогуле, вам не здаецца, калі паслухаць любую славянскую мову, дык заўсёды зразумееш тэму размовы па некалькіх агульнавядомых словах?

**— Ці знайшлі агульнае разуменне творчага праекта кінадраматург Іван Маркавіч і рэжысёр Міхаіл Пташук?**

— Вось за што я паважаю газетчыкаў, дык за тое, што яны ідуць наперадзе падзей, пра якія ты толькі марыш! Мушу папярэдзіць, што пакуль такі тандэм існуе тэарэтычна, на ўзроўні перамоў. Я паважаю майстэрства кінематаграфіста Міхаіла Пташука і таму менавіта яму прапанаваў свае сцэнарныя распрацоўкі камедыі "Вечны камбінатар". Бачу гэтую стужку ў жанры так званай "чорнай камедыі", дзе аўтарская іронія дамінуе над звычайнымі камедыйнымі трукамі. Шчыра кажучы, я пішу толькі пра тое, што мне блізка і зразумела. Прычым гэта неабавязкова сюжэты ўзроставых катэгорый ці палітычная падзея. Іронія над самім сабой, спроба сур'ёзнага аповеду пра дарослае жыццё вачыма балагура... Больш канкрэтна, на жаль, сёння гаварыць пра такія планы яшчэ рана. Мяркую, што гэта будзе двухбаковы праект — Беларусі і Югаславіі.

**— А што здарылася з вашым ранейшым праектам з "Масфільма"?**

— Будзеце смяяцца, толькі і гэтую тэму я не закінуў на далёкую паліцу. У студзені прылячу ў Маскву для вырашэння лёсу фільма пра героя сербска-турэцкай вайны Раеўскага — вядомага рускага арыстакрата і военачальніка. Шмат хто з рускіх літаратурных крытыкаў лічылі Раеўскага прататыпам вобраза Вронскага з рамана Льва Талстога "Ганна Карэніна". Памятаеце, у канцы твора, не вытрымаўшы болю страты каханай, князь Вронскі ад'язджае ў славянскую краіну на вайну з туркамі?

**— У амерыканскай версіі кінарамана "Ганна Карэніна" гэты эпізод — эпілог фільма.**

— Так. І ўсяго — эпізод. А вось падзеі, якія адбыліся з Раеўскім у Сербіі, — кавалак гісторыі краіны, кавалак, які варты мастацкага ўвасаблення. Нават на месцы баёў на дабрачынных умовах сербы паставілі царкву і тым самым ушанавалі памяць не толькі Мікалая Раеўскага, але і іншых рускіх, якія загінулі за незалежнасць славянскай нацыі.

**— Такое эпічнае кінапалатно сёння будзе каштаваць, як стужкі вашага суайчынніка Эміра Кустурыцы ў кінакампаніі "Paramount".**

— У 1984 годзе я за адзін год зняў 9 карцін. Можна сказаць, быў казачна-багатым чалавекам. Натуральна, я пакінуў грошы ў Маскве на рахунку Гільдыі кінаакцёраў СССР, бо збіраўся здымаць гістарычную сумесную стужку, пра якую ўжо ўзгадвалі. Нават і амерыканцы адгукнуліся і вырашылі матэрыяльна дапамагчы, каб ажыццявіць экранізацыю майго сцэнарыя. Адзінае, што нам перашкодзіла — ваенныя падзеі ў Югаславіі. І менавіта амерыканцы ведалі пра тое, што будзе вайна ў Югаславіі, бо аніводная заакіянская кампанія не бралася страхаваць грошы, выдадзеныя на фільм. А без "страхоўкі" па міжнародных правілах мы не мелі права пачынаць здымкі...

Такім чынам, маіх мільёнаў, якія засталіся ў Расіі, наўрад ці хопіць сёння на вячэру для дзвюх асоб. Але ж я не адчайваюся, бо задаволены справай, на якую пайшлі мае кроўныя: Гільдыя кінаакцёраў правяла свой ўсесаюзны Першы фестываль акцёраў у Смаленску, у Кіеве аднавілі Дом кіно. І за ўсё гэтае, чаму радуюцца і чым карыстаюцца, людзі мне дзякуюць. Нават і рэжысёр — югаслаў, калі вучыўся ва "ВГИК"е, то зняў дзве свае карціны, пастаноўцы якіх я таксама дапамог матэрыяльна. Не толькі любімая праца здольна захапляць чалавека, ахвяраванне — таксама наркотык для душы.

**— Ваш прыезд у беларускую сталіцу, акрамя знаёмства з публікай, меў і іншыя мэты?**

— Вядома. Нашая дэлегацыя пазнаёмілася з установамі, якія тычацца кінаіндустрыі. Потым, самае каштоўнае — знаёмства з творцамі і з супрацоўнікамі Міністэрства культуры РБ, што заўсёды дае плённыя вынікі для далейшай сумеснай працы. Мы выпрацавалі праграму мінімум і максімум. Як min — пазнаёміць з культурай Беларусі югаслаўскі народ, а як max — супрацоўнічаць не на паперы, а на справе. І ў нас, і ў вас ідзе масіраваная атака на гледачоў галівудскімі стужкамі сярэдняга ўзроўню. І вялікія грошы ад пракатных і відэакопій плывуць за акіян — зноў жа на стварэнне фільмаў другога гатунку ці пірацкіх копій. Я ўжо не кажу пра кантракты на TV. Тэлебачанне — магутная індустрыя для прапаганды кінамастацтва і даступная ўстанова, бо на TV існуюць каналы і дзяржаўныя, і прыватныя. Міжнародныя кінафестывалі, на якіх мне пашчасціла пазнаёміцца з дакументальным кіно Беларусі, адкрываюць вялікую перспектыву стужкам на югаслаўскім TV. Мяркую, і з нашага боку шмат фільмаў здольныя зацікавіць беларускага гледача. У рэшце рэшт, навошта купляць дрэннае кіно Галівуда, калі мы можам дамовіцца і развіваць галіну кінамастацтва сумеснымі сіламі. Тым самым дапамагаць адзін аднаму. Тым больш, мы не маем на мэце заахвоціць ці падмяць амерыканскі кінарынак. Але ж ад свайго фірменнага кіно нам не трэба адмаўляцца. А намагацца ствараць копіі "баевікоў", "страшылак" ці казак пра Папялушак нам, еўрапейцам, такое cinema прэстыжу не надасць.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

Аўтар матэрыялу выказвае падзяку супрацоўнікам аддзела кінавідэамастацтва МК РБ і дырэктару кінатэатра "Перамога" за дапамогу ў арганізацыі інтэрв'ю.

# ІНСІТА — ГЭТА ФАНТАСТЫКА

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прайшла выстава, прадстаўленая Музеем наіўнага мастацтва ў Ягодзіне ў межах праграмы Дзён культуры Югаславіі ў Беларусі.

Менавіта ў Югаславіі нарадзілася цікавасць да таго віда мастацтва, які прынята называць наіўным, альбо інсіта, і якое прываблівае ўсё больш інтарэс спецыялістаў і публікі.

Гэта — фантастычны сплаў найярчэйшых вобразаў, надзвычайнага каларыту, элементаў фальклору і разам з тым вельмі індывідуальная творчасць кожнага аўтара, які адлюстроўвае непаўторнасць духу і своеасаблівасць уяўлення.

Музей наіўнага мастацтва ў Ягодзіне, заснаваны ў 1960 годзе як Галерэя мастакоў-самавукаў са Светазарава, цяпер валодае багатай калекцыяй з больш за дзве тысячы твораў. Экспануючы творы наіўнага мастацтва, даследуючы іх, публікуючы каталогі і манаграфіі, музей спрые высокай павазе ў свеце да айчыннага наіўнага мастацтва і абуджэнню цікавасці да гэтага віда творчасці ў іншых краінах.

**Ул. інф.**

# З НАДЗЕЯЙ НА НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ

Для тых аматараў музыкі, каго цікавіць сучаснае мастацтва, для тых прафесіяналаў, хто не страціў цікавасці да арыгінальных кампазітарскіх тэхнік і новых твораў сваіх замежных калег, а таксама для тых, каму наогул цікавыя неардынарныя асобы, тры дні знаходжання ў Мінску польскіх кампазітараў Крысціны Машуманьскай-Назар, Марэка Стахоўскага і квартэта "Краковія" былі сапраўдным святам!

Нашыя сувязі з польскімі калегамі яшчэ толькі ўсталёўваюцца. І цалкам натуральна, калі мы імкнемся ў Кракаў — у цудоўны Кракаў з ягонай старажытнай цывілізацыяй, ягонай вялікай культурай, надзвычайнай архітэктурай, з чароўным водарам старажытнасці і ягоным музычным жыццём, уладкаваным на такім найвышэйшым міжнародным узроўні, што, наведаўшы горад, адчуваеш сябе выцягнутым на сонца з цёмнай пячоры. Такім чынам, нашае імкненне ў Кракаў зразумелае. Але тое, што найвыбітныя польскія кампазітары-кракавяне пагадзіліся прыехаць у Мінск, было, на маю думку, сапраўдным цудам.

Праграма іхняга знаходжання ў Мінску складалася з дзвюх творчых сустрэч (26 лістапада з пані Машуманьскай-Назар, 28-га — з панам Стахоўскім), канцэрта кракаўскага квартэта і майстар-класаў, якія пан Стахоўскі вельмі тактоўна і далікатна правёў са студэнтамі Акадэміі музыкі і маладымі кампазітарамі ў Беларускім саюзе кампазітараў.

Пані Крысціна Машуманьска-Назар уразіла нас ужо сваім выглядам — прыгожая полька з цудоўнай паставай (нягледзячы на паважны ўзрост), маладым бляскам вачэй, красамоўная, таленавітая, надзвычай самабытная. Яе творчасць (а паказала яна Рапсодыю для сімфанічнага аркестра і Два дыялогі для інструментальнага септэта) пакінула моцнае ўражанне найвышэйшым узроўнем тэхнікі, вынаходлівасцю і фантазіяй — смелай, нечаканай, карацей, менавіта тымі якасцямі, якія і зрабілі польскую музыку найцікавай з'явай сучаснасці і вывелі яе ў другой палове XX стагоддзя на адно з першых месцаў у свеце.

Творчасць пана Марэка Стахоўскага, асабліва ягоныя камерныя творы (хаця паводле маштабу развіцця іх цяжка прылічыць да камерных), знайшлі глыбокі водгук у сэрцах слухачоў, перадусім, далікатнасцю і нават трапятлівасцю лірычнага выказвання, шчырасцю псіхалагічнага перажывання і найтонкай "аздобай" кожнага кампанента далікатнай музычнай фактуры. Яны ўвасобілі складаны свет пачуццяў — рамантычных і высакародна-ўзвышаных. І ўжо зусім уразіла (як гэта ні дзіўна ў аповедзе пра музыку) нейкая звышмузыкальнасць кожнага нюанса паэтычнага вобраза, увасобленага ў ягонай музыцы, звязанай з імёнамі Сафо і Габрыэля д'Анунцыо. З захапленнем гартаючы партытуру Сімфоніі Стахоўскага, цяжка ўтрымацца ад узнёсласці з нагоды тэхнічнага майстэрства, але маштаб кампазітарскай асобы і мастацкі вынік такія, што размова пра тэхніку здаецца проста недарэчнай.

Квартэтны вечар, які адбыўся 27 лістапада ў касцёле святога Роха, выклікаў узнёслыя воклічы "брава!" нават у тых, хто, наколькі мне вядома, ніколі ў сваім жыцці нікому "брава" не крычаў. Уразіла не толькі тэхнічнае майстэрства зусім маладых музыкантаў квартэта "Краковія" (хаця яны ўжо лаўрэаты некалькіх прэстыжных конкурсаў), але і іх стаўленне да выконваемай музыкі — іх закаханасць у яе, а адсюль і дакладнае "пападанне" ў стыль, ці то гэта была ўскладнёна-вынаходлівая партытура К.Машуманьскай-Назар, ці вытанчаныя перажыванні рамантыка канца стагоддзя ў Квартэце М.Стахоўскага, ці пяшчотныя пастаралі А.Каржанеўскага, прагматычная віртуознасць К.Пендэрэцкага, ці найпразрыстыя імпрэсіяніцкія фарбы класіка польскай музыкі Караля Шыманоўскага.

Тры дні візіту нашых польскіх калег скончыліся, і разам з імі скончылася свята. Але засталіся запісы музыкі нашых таленавітых гасцей, іх партытуры... І засталася надзея на новыя сустрэчы.

**Галіна ГАРЭЛАВА**

## КАЛЯДНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ І ПАДАРУНКІ АД ПОЛЬСКАГА ІНСТЫТУТА

Дырэктар Польскага інстытута Томаш Нягодзіш напрыканцы мінулага тыдня запрасіў сталічную інтэлігенцыю на ўрачыстую вечарыну, прысвечаную надыходзячым калядным святам.

У сваім уступным слове ён распавёў прысутным пра культурныя мерапрыемствы, якія адбыліся пад эгідай Польскага інстытута на працягу 1998 года. Апошняя імпрэза прайшла 19 снежня у Кафедральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі. Мужчынскі камерны хор "Унія" ўзяў удзел у канцэрце, у праграму якога ўвайшлі творы Паўла Часнакова, Міхаіла Бутома, а таксама дзве беларускія калядныя кантаты XVII стагоддзя.

А яшчэ ў адыходзячым годзе пры ўдзеле Польскага інстытута нарадзілася навучальная ўстанова "Беларускі калегіум", дзе студэнтам чытаюць лекцыі, праводзяць семінарскія заняткі вядомыя беларускія культуролагі, рэжысёры, пісьменнікі. Заняткі адбываюцца ў памяшканні бібліятэкі імя Янкі Купалы.

**Ж.В.**

# АД "ФІЛІП МОРЫС" — БЕЛАРУСКАМУ БАЛЕТУ

З чым у большасці з нас асацыіруецца кампанія "Філіп Морыс"? Безумоўна ж, з цыгарэтамі. А ўсё — з прычыны кепскай інфармаванасці. На самой справе "Філіп Морыс" — вядучая ў свеце кампанія фасаваных спажывецкіх тавараў, найбуйная — па вытворчасці тытунёвых вырабаў, другая — па вытворчасці прадуктаў харчавання і трэцяя — па вытворчасці піва.

Але чаму, спытаеце вы, пра гэта трэба пісаць у газеце "Культура"? Трэба, бо "Філіп Морыс" — шмат у чым і падмурак гэтай самай культуры. Учытайцеся ў радкі, якія фармулююць філасофію кампаніі: "Сродкі, атрыманыя ад грамадства, трэба аддаваць на карысць грамадства. Таму ўжо 40 гадоў "Філіп Морыс" з'яўляецца вядучым спонсарам праграм у галіне культуры і мастацтва больш чым у ста васьмідзесяці краінах свету. Як міжнародная кампанія, "Філіп Морыс" паслядоўна падтрымлівае праекты, што спрыяюць развіццю культуры краіны, дзе яна працуе".

Пачынаючы з 1996 года на Беларусі спонсарскай увагай "Філіп Морыс" ахоплены ўжо некалькі праграм: у снежні 1996 года з яе ўдзелам прайшлі фестываль "Блюз жыве ў Мінску" і рэтраспектыва брытанскага кіно "Дзённыя сны". Кампанія падтрымала арганізацыю выставы твораў Марка Шагала (увесь наклад каталога твораў мастака, выдадзенага да адкрыцця выставы, быў бясплатна перададзены Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі).

Летась кампанія заснавала спецыяльны прыз за лепшае выступленне ў балетным спектаклі (у іншых краінах свету —Фінляндыі, Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Швецыі — яе прысуджаюць з 1997 года), які атрымала Кацярына Фадзеева.

20 студзеня 1999 года ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета будзе ўручана новая балетная прэмія (пяць тысяч долараў і арыгінальны прыз з каляровага шкла) — "Філіп Морыс" — дэбют". На працягу года аўтарытэтнае журы разглядае ўпершыню выкананыя партыі пяці маладых артыстаў тэатра: Руслана Мініна (партыя Кашчэя Несмяротнага ў балеце "Жар-птушка"), Таццяны Ерахавец (партыя Рагнеды ў балеце "Страсці"), Ігара Сядзько (партыя Пятра ў балеце "Прывал кавалеры"), Аляксея Турко (партыя Раба ў балеце "Карсар") і Вольгі Гайко (партыя Адэты-Адыліі ў "Лебядзіным возеры"). І таго, чый мастацкі ўзровень, акцёрскае майстэрства, балетная тэхніка будуць вышэйшымі, аўтарытэтнае журы ў складзе народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева, народнай артысткі Беларусі Людмілы Бржазоўскай, народнага артыста Беларусі Юрыя Траяна, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Юліі Чурко, кінарэжысёра Віктара Шавялевіча, народнай артысткі Марыяны Подкінай прызнае лепшым.

**Ганна АЛАДАВА**



*Справа налева: Мастакі Георгій Паплаўскі, пецярбуржац Алег Дзевяткін і мінчук Герман Пяхота.*

У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава сучасных пецярбургскіх мастакоў. Пачынаючы з часоў Пятра І, горад на Няве вядомы свету як прызнаны цэнтр мастацтваў, дзе рукамі таленавітых расійскіх дойлідаў ствараліся выдатныя архітэктурныя ансамблі, дзе працавалі І.Айвазоўскі, К.Брулоў, І.Рэпін, М.Рэрых, П.Філонаў і многія іншыя. Менавіта тут узнікла першая ў Расіі вышэйшая мастацкая навучальная ўстанова — Пецярбургская Акадэмія мастацтваў — альма-матэр многіх слынных майстроў.

Экспазіцыя, паказаная мінчукам, незвычайная тым, што яе аўтараў яднае жаданне захаваць у сваёй творчасці лепшыя традыцыі рускай рэалістычнай мастацкай школы. Тут прадстаўлены пейзажы, нацюрморты, жаночыя партрэты. Усе гэтыя палотны з поспехам экспанаваліся за мяжой.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

## Навагодняе віншаванне ад Ігара Губермана



Дорогие друзья — будьте свободны и счастливы! С Новым Годом! ИГ

# "БЕЛАРУСЬ І БАЛГАРЫЯ: ДАЎНЯЯ ДРУЖБА, НОВАЕ ЗНАЁМСТВА"

## ДНІ БЕЛАРУСІ Ў КАЗАНЛЫКУ

10 — 11 снежня ў балгарскім горадзе Казанлыку адбыліся Дні Беларусі, арганізаваныя пасольствам Рэспублікі Беларусь, Федэрацыяй дружбы з краінамі СНД у Балгарыі, таварыствам дружбы "Балгарыя — Беларусь", кмецтвам і абшчыннай радай горада Казанлыка.

Дні адкрыліся сустрэчай пасла Рэспублікі Беларусь у Балгарыі А.Герасіменкі з кметам абшчыны г.Казанлыка І.Гараломавым, яго намеснікамі і членамі абшчыннай рады горада. На ёй прысутнічалі гандлёва-эканамічны саветнік пасольства В.Рамяняка, балгарскія пісьменнікі і перакладчыкі Найдан Вылчаў, Стэфан Паптонеў і Алена Алекава. Чакаўся прыезд дэлегацыі з горада-пабраціма Наваполацка, але, на жаль, яна не змагла прыбыць па аб'ектыўных прычынах. Пасля гутаркі ў абшчыне ўдзельнікамі сустрэчы былі ўскладзены кветкі да помніка воінам, што загінулі за вызваленне горада і Балгарыі ў розныя часіны балгарскай гісторыі.

Затым у канферэнц-зале гатэля "Казанлык" адбылася сустрэча з кіраўніцтвам гандлёва-прамысловай палаты і бізнесменамі горада. Пасол А.Герасіменка і саветнік В.Рамяняка падрабязна расказалі пра сітуацыю ў Беларусі, пра яе эканамічны патэнцыял і экспартныя магчымасці, пра развіццё гандлёва-эканамічных адносін і культурных сувязей Беларусі і Балгарыі. Адказалі таксама на шматлікія пытанні бізнесменаў і кіраўніцтва палаты. Саветнік В.Рамяняка перадаў ім зборнік нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь у галіне знешнеэканамічнай дзейнасці і кнігу "Рэспубліка Беларусь — магчымасці дзелавога супрацоўніцтва".

У другой палове дня адбылося наведванне завода "Капроні", знаёмства з вытворчымі магчымасцямі прадпрыемства, а таксама абмеркаванне з кіраўніцтвам завода пытанняў далейшага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Мінскімі маторным і трактарным заводамі. Кіраўніцтвам "Капроні" было з задавальненнем адзначана ажыўленне супрацоўніцтва з беларускімі вытворцамі, паспяховы пачатак сумеснай працы з Фізіка-тэхнічным інстытутам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, добрыя перспектывы па супрацоўніцтве з Мінскім прыборабудаўнічым заводам.

Пасля наведання "Капроні" адбылася прэс-канферэнцыя нашага пасла і кмета горада для рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі, уключаючы радыё і кабельнае тэлебачанне. На прэс-канферэнцыі прысутнічала шмат журналістаў —прадстаўнікоў СМІ не толькі горада, але і цэнтральных газет Балгарыі і тэлебачання.

Наша дэлегацыя наведала прыватную мастацкую галерэю "Рувел", дзе адбыўся абмен думкамі аб арганізацыі ў Казанлыку выставы твораў беларускіх мастакоў. Вырашана разгледзець канчаткова гэта пытанне ў рамках пабрацімскіх сувязей з горадам Наваполацкам.

У той жа дзень адбылася сустрэча з выкладчыкамі і студэнтамі 4-га курса славянскага універсітэта, перад якімі з падрабязнай інфармацыяй пра Беларусь выступіў пасол А.Герасіменка. Выступленне выклікала вялікую цікавасць у студэнцкай моладзі. Было зададзена шмат пытанняў пра Беларусь, яе гістарычны шлях і сучаснае жыццё. Вялікую цікавасць выклікала, у прыватнасці, інфармацыя пра супрацоўніцтва Беларускага і Сафійскага універсітэтаў, пра сувязі паміж Славянскім універсітэтам і мінскім БДУ. Падчас сустрэчы была выказана і аднадушна падтрымана прапанова аб арганізацыі на базе Славянскага універсітэта аддзялення таварыства дружбы "Балгарыя —Беларусь" у горадзе Казанлыку.

У гэты ж час пісьменнікі Алена Алекава, Найдан Вылчаў і Стэфан Паптонеў правялі літаратурную сустрэчу са сваімі калегамі — членамі пісьменніцкіх арганізацый казанлыкскага і старазагорскага рэгіёнаў. Сустрэча была поўнасцю прысвечана літаратуры і культуры Беларусі і запісана на стужку для паказу па абласным і кабельным тэлебачанні.

У насычанай праграме Дзён мела месца і адкрыццё ў гарадскім Палацы культуры фота- і кніжнай выставы "Беларусь". У адкрыцці выставы прынялі ўдзел дэпутаты Народнага сходу Балгарыі І.Зынзаў, З.Златаў і І.Баталік. Прафесар Зынзаў праінфармаваў у сваім выступленні аб стварэнні ў Народным сходзе групы дэпутатаў колькасцю 41 чалавек па падтрымцы сяброўскіх сувязей з Рэспублікай Беларусь і аб выбранні яго старшынёй гэтай парламенцкай групы. Дамовіліся таксама, што А.Герасіменка выступіць неўзабаве ў Народным сходзе перад групай дэпутатаў.

У вялікай канцэртнай зале адбыўся вечар, прысвечаны Беларусі, на якім выступілі кмет І.Гараломаў, пасол А.Герасіменка, старшыня парламенцкай групы І.Зынзаў, старшыня таварыства дружбы "Балгарыя — Беларусь" С.Паптонеў. У выкананні Паптонева, Вылчава і Алекавай прагучалі творы беларускіх паэтаў, перакладзеныя на балгарскую мову. Сіламі мастацкай самадзейнасці горада быў дадзены вялікі канцэрт. Цікавая дэталь: сцэна залы была аформлена сцягамі Беларусі і Балгарыі, а таксама маляўніча выкананымі словамі: "Беларусь і Балгарыя: старая дружба, новае знаёмства".

Другі дзень мерапрыемства пачаўся знаёмствам з прыватным прадпрыемствам "Томі-Шоу" па вытворчасці касметычнай прадукцыі. Уладальнік яго спадар Томаў падрабязна расказаў пра станаўленне прадпрыемства і яго прадукцыю. У ходзе гутаркі выявілася цікавасць фірмы да поліэтылену высокага ціску беларускай вытворчасці. Бакі дамовіліся абмяняцца інфармацыяй аб патрабаваннях да поліэтылену і цэнах на яго. Акрамя таго, уладальнік прадпрыемства зацікавіўся магчымасцю ўдзелу ў кірмашах, што адбываюцца ў Беларусі.

Удзельнікі Дзён наведалі таксама дзіцячы садок і сярэднюю школу "Св.Кірыл і Мефодый", пазнаёміліся з храмам-помнікам "Шыпка".

Неабходна адзначыць, што напярэдадні Дзён у газеце "Седміца" быў апублікаваны вялікі артыкул А.Герасіменкі "Беларус има сини очи". Падчас правядзення Дзён вяліся рэпартажы па кабельным тэлебачанні, радыё, ва ўсіх мясцовых газетах. Прэс-канферэнцыя нашага пасла, саветніка пасольства і кмета г.Казанлыка была поўнасцю паказана па тэлебачанні і агучана па радыё. Інфармацыя прайшла таксама і па дзяржаўным тэлебачанні і радыё.

**Ніна ІВАНОВА, намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі.**

## 24 снежня — 200 гадоў Адаму Міцкевічу

# МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК, ЯКІ ПЕРАКЛАЎ "ДЗЯДОЎ"



***Ён лічыць, што кожны творчы чалавек, акрамя ўнёску ў культуру ўласных твораў, павінен не забывацца на вопыт сваіх папярэднікаў. Неабходна далучацца да твораў сусветнай класікі, найперш, перакладаючы іх на родную мову. Гэта асабліва актуальна для Беларусі, дзе дагэтуль няма перакладаў ні "Іліяды" і "Адысеі" Гамера, ні твораў Авідзія. Наша размова — з перакладчыкам паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды" Сяргеем Мінскевічам.***

**— Сяргей, нашы чытачы ведаюць цябе па тваіх артыкулах у газеце. Раскажы крыху пра сябе.**

— У 1995 годзе я скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, філалагічны факультэт, аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Падчас вучобы ў нас быў эксперыментальны семінар, які называўся "Практыка і тэорыя літаратурнай творчасці". Мелася на ўвазе, што з часам ён зможа перарасці ў штосьці накшталт літаратурнага інстытута. Вёў гэты семінар Сяргей Кавалёў, даволі знаны зараз драматург. Але ён з'ехаў працаваць у Люблін, і ўся справа неяк скурчылася. Ні беларускага літаратурнага інстытута, ні проста літаратурнага факультэта да гэтага часу ў нас так і не існуе. Хаця нельга адмаўляць асобных спроб і ва Універсітэце культуры, і на журфаку БДУ. Дагэтуль нашы літаратары ездзяць вучыцца ў Маскву.

**— Аднак, чым цябе прывабіла асоба Міцкевіча?**

— Падчас свайго студэнцтва я працаваў старшым рэдактарам Паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч". Менавіта тады і ўзнікла ідэя паставіць монаспектакль паводле "Дзядоў" Міцкевіча. Іду ў бібліятэку і здзіўляюся: за 200 гадоў "Дзяды" так і не пераклалі на беларускую мову, не пераклалі сусветна вядомы твор, які літаратуразнаўцы параўноўваюць з "Боскай камедыяй" Дантэ, з "Фаўстам" Гётэ. Шэкспір ставіць пытане: "Быць альбо не быць?" — Міцкевіч пытаецца: "Бог, а хто ты ёсць? Ты бацька свету альбо цар?" Міцкевіч вымушае думаць не толькі пра Бога, але і пра чалавека, пра яго месца ў жыцці. Нездарма Жорж Санд сказала, што Міцкевіч быў першым, хто паказаў змаганне народа за сваё нармальнае існаванне, змаганне да страты апошняй надзеі, да спрэчкі з Богам.

**— А на якой мове, на рускай ці на польскай ты ўпершыню прачытаў "Дзядоў"?**

— Калі я прыйшоў у бібліятэку, рускі пераклад стаяў свабодна на паліцы, а польскі тэкст захоўваўся ў аддзеле рэдкай кнігі. Пакуль я чакаў замоўлены польскі тэкст, я, канешне, прагледзеў рускі пераклад. Дарэчы, мне было нескладана чытаць "Дзяды" па-польску, бо мова Міцкевіча — гэта беларускі варыянт польскай мовы. Яна ж уся перасыпана беларусізмамі, і некаторыя спасылкі, прызначаныя для палякаў, мне не патрэбныя.

**— І як ты ацаніў рускі пераклад?**

— Шчыра кажучы, ён мяне не задаволіў. У першую чаргу, недакладнай і недасканалай перадачай ідэі Міцкевіча. Пераклад рабіўся як рэха ад 150-годдзя з дня нараджэння аўтара, а гэта быў час, калі проста немагчыма было пазбегнуць палітыкі. І перакладчыкі разумелі гэта. Магчыма, яны самі пазбягалі пэўных момантаў, магчыма, іх пераклад проста "парэзалі". Але ж у рускім перакладзе Міцкевіч — не цалкам Міцкевіч.

**— Чаму ніхто не пераклаў "Дзядоў" раней?**

— У царскія часы III частка "Дзядоў" увогуле была забароненая. Ёсць ускосныя сведчанні, што дзесьці ў 30-я гады ў Саюз пісьменнікаў Беларусі паступіла з Масквы рэкамендацыя не перакладаць "Дзядоў" на беларускую мову. Натуральна, што была яна вусная, хутчэй за ўсё па тэлефоне, таму пісьмовага пацверджання знайсці немагчыма.

**— А чаго баяліся?**

— А чаму сядзеў Тарашкевіч, перакладчык "Пана Тадэвуша"? Чаму яго расстралялі?..

**— Але ж былі пэўныя спробы перакладу "Дзядоў"?**

— Існуе шмат перакладзеных фрагментаў паэмы. Першай была, канешне ж, Наталля Арсеннева, яна пераклала другую частку паэмы, сам абрад Дзядоў. Сярод іншых перакладчыкаў — Максім Лужанін, Янка Сіпакоў.

Я лічу, што мы з Кастусём Цвіркам працавалі над перакладам аднachасова. Праўда, яму ўдалося раней выдаць фрагменты другой, чацвёртай і трэцяй частак, але ж у год 200-га юбілею Міцкевіча я маю поўны пераклад "Дзядоў" і нават пераклад урыўкаў II—IV частак, якія былі знятыя царскай цэнзурай.

**— Чым жа твой пераклад адрозніваецца ад іншых?**

— Калі ў 1994 годзе я пачаў працаваць над перакладам, паставіў перад сабою шэраг задач. Але найпершая з іх — як мага дакладней перакласці тэкст, захаваўшы стыль аўтара, яго думку, малюнак яго рыфмы. Думаю, у мяне гэта атрымалася. У сваёй кнізе, якая вось-вось маецца выйсці, я хацеў бы з аднаго боку змясціць свой пераклад паэмы, а на суседняй старонцы — тэкст на польскай мове, каб кожны чытач атрымаў магчымасць параўнаць іх. Да ўсяго, падчас працы над перакладам мне давялося зрабіць вялікую літаратуразнаўчую працу, якая таксама знойдзе сваё адлюстраванне ў кнізе.

**— Ведаю, што днямі ты атрымаў прэмію імя Адама Міцкевіча, і віншую цябе з гэтай падзеяй.**

— Дзякую. Аднак я думаю, што прэмію я атрымаў не толькі за свой пераклад "Дзядоў", а, увогуле, за актыўную літаратурную дзейнасць у гэты год, за мае шматлікія публічныя выступленні.

**— Аднак перакладанне — не адзіны твой талент...**

— Я заўсёды цікавіўся музыкай, пісаў песенькі. Яны самі прыходзяць у галаву, нават калі я еду ў тралейбусе ці перакладаю Міцкевіча. Я лічу сябе беларускім бардам. У 1996 годзе на фестывалі "Бардаўская восень" у Бельску-Падляшскім я стаў лаўрэатам і атрымаў прэмію за авангарднасць тэкстаў. Зараз ад бардаўскай песні я перайшоў да рок-песні. Працую і выступаю з гуртом "ЖАХ", пішу тэксты песень.

Ну, і канешне ж, я заўсёды быў празаікам. Я напісаў шэраг гумарыстычных апавяданняў, абсурдовых...

**— А я ад сябе хачу дадаць, што Сяргей не толькі перакладчык, літаратар і бард, а да ўсяго і журналіст, і проста цікавы чалавек.**

**Гутарыла**
**Таццяна КОМАНАВА**

# "ЁН БЫЎ І МЁДАМ, І МАЛАКОМ, І ЖОЎЦЮ, І ДУХОЎНАЙ КРЫВЁЮ..."

***Пра Адама Міцкевіча шмат пісалі, пішуць і будуць пісаць, мы маем цудоўныя пераклады яго выдатных твораў, сярод якіх — паэмы "Дзяды", "Гражына", "Конрад Валенрод", "Пан Тадэвуш", балады "Свіцязь", "Рыбка", "Тукай", "Пані Твардоўская", "Тры Будрысы", "Сон на кургане"...***

***Але вось мне ў рукі трапіла унікальная, надзвычай цікавая кніга вядомага польскага даследчыка творчай біяграфіі паэта — "Шлях Міцкевіча" (аўтар — Станіслаў Стрыумф-Вайткевіч), выдадзеная ў Варшаве ў 1955 годзе, да 100-годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча. Чытаў і перачытваў прыведзеныя ў ёй выказванні людзей, якія добра ведалі паэта, сябравалі з ім, слухалі яго імправізацыі, лекцыі, выступленні. Частку гэтых выказванняў прапаную ўвазе чытачоў.***



Помнік Адаму Міцкевічу ў Парыжы. Скульптар А. Бурдэль.



Г. Мясаедаў. "Адам Міцкевіч імправізуе ў салоне Зінаіды Валконскай".



Адам Міцкевіч. Мал. Шмелера, зроблены на просьбу Гётэ.

***Пётр ВЯЗЕМСКІ, рускі паэт:***

"Міцкевіч імправізаваў прозай па-французску і здзіўляў нас, канешне, не пабудовай фраз, але сілай, багаццем і паэзіяй сваіх думак... Гэта імправізацыя робіць дзівоснае ўражанне. Я сам быў глыбока расчулены, і ўсе слухалі з хваляваннем і слязьмі... Міцкевіч імправізаваў аднойчы трагедыю ў вершах, і тыя, хто прысутнічаў пры гэтым, запэўніваюць, што гэта цудоўнейшая і, уласна кажучы, адзіная польская трагедыя".

***Аляксандр ПУШКІН, рускі паэт:***

"Вялікая розніца між намі: ты — паэт прыгнечанага народа, адсюль твая перавага нада мной. Ты не паверыш, з якой радасцю я памяняўся б з табой".

* * *

Папулярны ў Расіі анекдот аб сустрэчы двух паэтаў на вуліцы. Пушкін, саступаючы Міцкевічу дарогу, як бы жартам сказаў: "З дарогі, двойка, туз ідзе!", на што Міцкевіч нібы адказаў не менш дасціпна і дабрадушна: "Казырная двойка і туза б'е!".

***Княгіня Зінаіда ВАЛКОНСКАЯ:***

"Высакародны ўчынак, узвышанае самаахвяраванне, усё, што праўдзівае і цудоўнае, — кранае яго і прыводзіць у захапленне. Хвалюючая і ўзвышаная гармонія радуе яго... Яго душа тады адпачывае, яго геній напаўняецца гучнымі акордамі, ён сам робіцца гармоніяй... Літоўскі вецер датыкнуўся струн эолавай арфы. Тады лясны бард заспяваў песню пушчы. Ён адкрывае свае думкі і душу. Ён звяртаецца да ўсіх без розніцы і бачыць перад сабой толькі братоў. Усхваляваная радзіма слухае яго, жывіцца яго паэтычнымі вобразамі і ганарыцца сваім таленавітым суродзічам. І толькі яна адна ёсць і заўсёды будзе ачагом, які асвятляе і грэе яго..."

***Зігмунт КРАСІНСКІ, польскі паэт:***

"Міцкевіч неяк ажывіўся і бліжэй пазнаёміўся з намі. О, як ілжыва меркавалі аб ім у Варшаве! Ён глыбока адукаваны, гаворыць па-польску, па-французску, па-італьянску, па-нямецку, па-англійску, па-лацінску і па-грэчаску. Цудоўна ведае еўрапейскую палітыку, гісторыю, філасофію, матэматыку, хімію і фізіку. А літаратуру, напэўна, ніхто так не ведае ў Польшчы. Калі слухаеш яго, здаецца, што ён прачытаў кожную кніжку. Меркаванні яго пра кніжкі вельмі разважныя, сур'ёзныя. Звычайна ён сумны і задумлівы: няшчасці ўжо пакрылі яго лоб зморшчынамі, а яму ўсяго трыццаць гадоў. Заўсёды спакойны, але па позірку бачна, што кінутая іскра запаліць полымя, якое дрэмле ў яго грудзях... Мне ён здаецца ідэалам чалавека адукаванага, генія ў поўным сэнсе гэтага слова...

Гутаркі з ім дапамаглі мне лепш разабрацца ў мностве поглядаў на літаратуру і філасофію... Гэта чалавек, які стаіць на адным узроўні з еўрапейскай цывілізацыяй, які ўмее надзвычай добра спалучаць сухую рэальнасць жыцця з узвышанымі думкамі паэзіі і філасофіі, які валодае чысцейшымі намерамі і жаданнямі, а разам з тым — шырокага розуму, што ахоплівае ўсе навукі і ўсе віды мастацтва, чалавека тонкага меркавання аб палітычных, навуковых рэчах, ціхага, непахіснага розуму ў справах паўсядзённых, спакойнага характару; бачна, што прайшоў школу пакутаў.

Ён абсалютна пераканаў мяне ў тым, што шуміха з'яўляецца глупствам як у дзеяннях, так і ў размовах і ў пісанні, што ў наш час праўда і толькі праўда можа быць цудоўная і прыцягальная, дзе ўсе ўпрыгожанні, кваціstasць стылю — нішто, калі няма думкі, што ўсё заключана ў думцы, і, калі хочаш чым-небудзь быць зараз, трэба вучыцца, вучыцца і вучыцца, і ўсюды шукаць праўды, не даючы падмануць сябе бліскучай мішурой, якая блісне, як светлячкі ў майскай траве, і навечна знікне..."

***Вісарыён БЯЛІНСКІ, рускі крытык:***

"Больш за ўсё засмучае мяне зараз выхадка супраць Міцкевіча ў гадасным артыкуле пра Менцэля: як! адбіраць у вялікага паэта свяшчэннае права аплакваць падзенне таго, што даражэй яму за ўсё ў свеце і вечнасці — яго радзімы, яго айчыны, і праклінаць карнікаў яе, і якіх жа карнікаў!"

***Жорж САНД, французская пісьменніца:***

"Гэта найвялікшы чалавек, поўны сардэчнасці, геніяльнасці і энтузіязму, які выдатна валодае сабой у паўсядзённым жыцці і разумее са свайго пункта гледжання ўсё вельмі незвычайна, але схільны да экзальтацыі па самой натуры сваіх вераванняў, з прычыны сваіх бурных, трохі дзікіх інстынктаў, з прычыны разумення няшчасцяў сваёй айчыны. Дзівосны палёт душы паэта, якая не ведае перашкодаў для сваёй сілы і дасягае калі-нікалі тых межаў вымяральнасці і бясконцасці, дзе пачынаецца экстаз".

***Аляксандр ГЕРЦЭН, рускі пісьменнік і крытык:***

"Ён стаяў ля каміна, абапершыся локцем на мармуровую дошку. Шмат дум і пакутаў збаразніла яго хутчэй літоўскі, чым польскі твар. Яго фігура, галава з пышнымі сівымі валасамі і стомленым позіркам перадавалі перажытае няшчасце, унутраны боль, экзальтацыю жалю; гэта быў пластычны вобраз лёсаў Польшчы".

***Юліуш КЛЕЙНЕР, даследчык польскага рамантызму:***

"Міцкевіч сапраўды ўзняўся да велічы як чалавек і як прадстаўнік калектыўных памкненняў... Ён хоча цалкам захаваць нацыянальны незалежны характар дзеянняў палякаў і надае ім міжнароднае значэнне. Вызваленне ад прыгнёту захопнікаў ён хоча аб'яднаць з сацыяльнай і маральнай рэвалюцыяй..."

**Падрыхтаваў**
**Валерый ШЫХАНЦОЎ**

## ДРУГАЯ АДГАДКА ПАХОДЖАННЯ НАЗВЫ ЗАВОССЯ



Помнік-абеліск у Завоссі.

Што і казаць, частка мясцовых людзей чамусьці гэтае месца называе Заоссе або Заось. І на помніку-абеліску ў Завоссі назва пазначана, як Заоссе.

Тапанімічная версія назвы аказалася вельмі простая. У старажытныя часы на Беларусі дрэва асіну называлі ось, оса, так гавораць і пішуць у сваіх кнігах вучоныя-мовазнаўцы. За гэтымі осямі, осамі, або ў іх пабудавалі насельнікі сваё паселішча, якое і атрымала найменне Заоссе, а потым перайшло ў сучасны назоў. Раней на Наваградчыне было каля 10 гэтых Заоссяў, дык амаль што ўсе яны стаялі ў асінніку або за імі ці перад імі...

Што цікава, у шмат якіх мясцінах нашай краіны падасінавікі завуцца асавікамі, гэтакую назву яны маюць і на Баранавіччыне.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*г. Баранавічы*
**Фота Васіля МАЙСЮКА**




В.Мікіта. "Радавод Адама Міцкевіча". Каляровая літаграфія.



У.Кожух. "Радкоў адвечная плынь... (Гётэ і Міцкевіч)". Пал., алей.



А. і М. Колас. "Возера Свіцязь". Габелен.



А.Няхайчык. "Пушкін і Міцкевіч". Пал., алей.



А.Фралянкоў. "Развітанне". Пал., алей.



Л.Густава. "Восень". Габелен.

# МІЦКЕВІЧУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

*24 снежня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася рэспубліканская выстава, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам музея, народным мастаком Беларусі Васілём ШАРАНГОВІЧАМ і папрасіў яго расказаць пра асноўныя прынцыпы экспазіцыі выставы.*

**— Васіль Пятровіч, у чым асаблівасць гэтай выставы ў параўнанні, скажам, з аналагічнымі мастацкімі мерапрыемствамі адыходзячага ў гісторыю 1998 года?**

— Як вядома, гэты год згодна з рашэннем ЮНЕСКА прайшоў пад знакам Адама Міцкевіча не толькі на Беларусі, але і ў Польшчы і Літве, з якімі паэт быў звязаны шчыльнымі сувязямі. І завяршаецца ён таксама пад знакам Міцкевіча. 23 снежня ў Навагрудскім музеі адбылася вечарына, прысвечаная аўтару "Пана Тадэвуша": туды я прадставіў 27 малюнкаў алоўкам да паэмы. 25-га — падчас Дзён культуры Беларусі на Смаленшчыне адкрываецца выстава ў Смаленску, таксама прысвечаная Міцкевічу. Мы адаслалі туды калекцыю беларускага жывапісу, графікі і скульптуры — усяго больш за 100 твораў. А ўчора адкрылі выставу і ў нашым Музеі сучаснага мастацтва...

**— Хто быў яе арганізатарам?**

— Міністэрства культуры Беларусі, якое, дарэчы, падпісала спецыяльна да гэтай выставы некалькі дамоў. А таксама Беларускі Саюз мастакоў. Шчыра кажучы, спачатку я сумняваўся: ці атрымаецца экспазіцыя? Бо на яе арганізацыю было дадзена вельмі мала часу. На шчасце, я памыліўся. Выстава, на мой погляд, атрымалася. Працаваў выставачны камітэт на чале з намеснікам міністра культуры Валерыем Гедройцам. І мяркую, што гэтая, крыху забытая структура — выставачны камітэт — прынесла свой пазітыўны плён.

**— У якім сэнсе?**

— У сэнсе якаснага адбору твораў. Бо як было ў апошнія гады? Мастакі неслі на выставы ўсё, што заўгодна, нават дылетанцкія, паўпрафесійныя, а іншы раз і самадзейныя творы. У дадзеным выпадку, калі б не было выставачнага камітэта, хто б здолеў узяць на сябе адказнасць асабіста адхіліць тую альбо іншую слабую работу? Карацей кажучы, наш выставачны камітэт, як мне здаецца, прыняў правільнае рашэнне, адхіліўшы больш слабыя творы...

**— Што прадстаўлена ў экспазіцыі?**

— У трох залах музея прадстаўлены практычна ўсе асноўныя віды і жанры выяўленчага мастацтва: жывапіс, графіка, акварэль, скульптура, габелен, ёсць і кераміка. Сярод яе ўдзельнікаў — мастакі розных пакаленняў і стылёвых накірункаў. Назаву, прынамсі, такія імёны, як Гаўрыла Вашчанка, Георгій і Наталля Паплаўскія, Віктар і Вячаслаў Вярсоцкія, Васіль Сумараў, Віктар Мікіта, Уладзімір Кожух, Мікола і Наталля Апіёк, Аляксандр Фралянкоў, Мікалай Кірэеў, Юрый Піскун, Рыгор Таболіч, Ларыса Густава, Алена і Мікола Колас, Валерый Шкаруба, Жана і Ала Няхайчык, Павел Татарнікаў, Мікола Назарэнка, Уладзімір Голуб, Павел Лук і многія іншыя. Карацей, выстава, з майго пункта гледжання, атрымалася разнастайнай і цікавай.

**— Васіль Пятровіч, тваё мастацкае афармленне "Пана Тадэвуша" ў 1985 і ў 1998 гадах сталася шырока вядомым далёка за межамі нашай краіны. На маю думку, ты з'явіўся годным суаўтарам вялікага паэта. Як ты прыйшоў да Міцкевіча?**

— Сувязь з паэзіяй Міцкевіча ў мяне даўняя. Упершыню я пачуў гэтае імя яшчэ ў дзяцінстве з вуснаў мамы: яна скончыла польскую школу. Мама любіла паэзію Міцкевіча, шмат ягоных твораў ведала напамяць і чытала мне папольску. Тады перакладаў на беларускую мову я не сустракаў. Пазней, ужо ў тэатральна-мастацкім інстытуце, я больш глыбока "ўвайшоў" у паэзію Міцкевіча. У 1969 годзе я праілюстраваў ягоны зборнік "...Зямля Навагрудская, краю мой родны", а праз тры гады выканаў гравюру паводле матываў паэмы "Гражына". Ну, а потым, напрыканцы 1983-га я пачаў працу над "Панам Тадэвушам" у перакладзе Язэпа Семяжона. Кніга была выдадзена ў 1985 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" накладам 13 тысяч паасобнікаў.

**— У верасні ў памяшканні Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай паэме "Пан Тадэвуш". Разам з тым гэтае мерапрыемства стала своеасаблівай прэзентацыяй выдання кнігі А.Міцкевіча на трох мовах — польскай, беларускай (у перакладзе Пятра Бітэля) і рускай. Твае ілюстрацыі да паэмы выклікалі велізарную цікавасць як гледачоў той вераснёўскай імпрэзы, так і чытачоў гэтага шыкоўнага выдання. Гэта проста шчасце мець у сваёй бібліятэцы такую кнігу з такімі ілюстрацыямі. Калі мы здолеем пабачыць персанальную выставу тваіх твораў?**

— 14 студзеня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі — Палацы мастацтва — адкрыецца мая выстава...

**— І ў гэты дзень ты адзначыш свой 60-гадовы юбілей... Я віншую цябе, Васіль Пятровіч, з гэтай знамянальнай датай. І хай Бог дае табе творчага здароўя і натхнення!**

— Дзякуй.

**Б.К.**

П.Лук. "Эмілія Плятэр. 1831". Бронза.







В.Шаранговіч. Ілюстрацыі да паэмы А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Акварэль.




МАЛадзёжныя ПАлосы

# МЭТААДЧУВАННІ, ВЫЯЎЛЕНЫЯ НА ПАЛАТНЕ



Я.Бахар. "Пагружэнне ў сон".



Я.Бахар. "Дэнтальная галюцынацыя, выкліканая фантомным болем".

Пры сталічнай бібліятэцы № 18 працуе мастацкая галерэя "Вільнюс". Як паведаміла загадчыца бібліятэкі і аднначасова кіраўнік галерэі Алена Ляпіч, у выставачнай зале ў асноўным будуць прадстаўляцца праекты маладых, яшчэ невядомых мастакоў і творцаў з нетрадыцыйным мастацкім мысленнем.

І вось 17 снежня тут адкрылася выстава мінскага мастака-сюррэаліста Яўгена Бахара "Метамарфозы". Найперш, Яўген Бахар вельмі неардынарная асоба. Ён закончыў Беларускі універсітэт культуры па спецыяльнасці тэатральны рэжысёр. А пісаць карціны — гэта было яго прыроджаным імкненнем і ўменнем. Апошняе ён, безумоўна, удасканальваў, аднак адкрываў свае ўласныя шляхі пазнання мастацкага майстэрства. Яго ідэйны настаўнік — Сальвадор Далі. Калісьці, яшчэ ва універсітэце, Яўген Бахар падрыхтаваў даклад па творчасцы вялікага іспанца і ўвогуле па сюррэалізме. У часе гэтага спавешчання ён выкарыстаў і свае карціны, якія ці не ўпершыню наважыўся паказаць публічна. Пасля былі выставы ў Палацы культуры прафсаюзаў "Сюррэалізм: ілюзія рэальнасці" (1991 г.), у Доме работнікаў мастацтва "Сюррэалізм. Сімвалы і жаданні" (1991 г.), у галерэі Альтэрнатыўнага тэатра "Свет невымоўнага" (1993 г.), персанальная выстава ў кавярні "Сустрэчы", Джаз-клуба г.Мінска (1995 г.).

"Для мяне СЮРРЭАЛІЗМ — кажа Яўген Бахар, — гэта сапраўдная творчасць. Ён пераўтварае ў нешта новае ўсё тое, да чаго ён дакранаецца. Для яго няма абмежаванняў ні ў чым, ці гэта пэўныя эстэтычныя нормы, лібіда, палітыка, рэлігія, маральныя прынцыпы, усведамленне, страх, пайменні пра дабро і зло, ці прывычная жыццёвая логіка. А галоўнае ў ім — Чалавек, як змесцішча ўсяго прыгожага і агіднага. Гэта ўзвядзенне іншага свету, які да твайго дакранання не існаваў. Ён чымсьці падобны да гэтага, рэальнага, але ж усё-ткі іншы. І стварыў яго ты. Гэта д'ябальскі прыемна. Мне б хацелася, каб мае карціны і бянтэжылі свядомасць, і прыносілі асалоду ад сузірання, і прымушалі думаць. І каб яны, як музыка, стваралі настрой".

І насамрэч, творы Яўгена Бахара ўражваюць сваім прыцягненнем у іншую рэчаіснасць, у іншапрастору, дзе блукаеш, але не заблытваешся, у сюрлагічных алгарытмах натхнення жывапісца і трапляеш у трапяткі дождж мастацкіх дэталяў, з якіх і складаецца звышкарціна (альбо надкарціна) мастака.

**С.М.**

# ТАНЦЫ? СПОРТ? РОК-Н-РОЛ!

***Акрабатычны рок-н-рол упершыню ў Мінску станцавалі ў 1987 годзе. У горадзе існуюць усяго тры клубы акрабатычнага рок-н-рола. Адзін з іх — "Чорны кот", які ўтварыўся ў 1994 годзе на базе клуба "Шанц". У наступным годзе клуб адзначыць свой першы маленькі юбілей — пяцігоддзе. Сёння клуб налічвае каля 50 чалавек, а гэта лічба немалая.***

— Раз ці два на год, як дазваляюць сродкі, мы выязджаем на спаборніцтвы, — расказвае дырэктар клуба Аляксандр Кузьміч. — Масква, Санкт-Пецярбург, Іванава... Нашыя пары пастаянна ўваходзяць у дзесятку лепшых, не раз выходзілі ў фінал. Я са сваёй партнёркай таксама ўваходзіў у дзесятку лепшых.

**— Няўжо да вас у клуб можна трапіць проста з вуліцы, без аніякай спецыяльнай падрыхтоўкі?**

— Менавіта так, да нас можа прыйсці любы чалавек, ад 7 — 9 гадоў і нават да 50. У нас ёсць чатыры групы, тры пачаткова-падрыхтоўчыя, дзе можна набыць асноўныя навыкі, і чацвёртая група, у якую пераходзяць з першых трох і дзе адбываецца непасрэдная падрыхтоўка да спаборніцтваў.

**— А на якія сродкі існуе клуб? Бо, зразумела, для ўдзелу ў спаборніцтвах патрэбны, як мінімум, касцюмы, абутак...**

— Канешне, нам дапамагае выканкам Савецкага раёна, аднак, у асноўным, усё робіцца на ўласныя грошы: і касцюмы, і запіс фанаграм, і шмат іншага. Не так даўно мы ўпершыню наладзілі спаборніцтвы на прыз клуба "Чорны кот". Спонсарам выступіў усё той жа выканкам Савецкага раёна, за што ім вялікі дзякуй. Але, калі б знайшліся іншыя фундатары, магчыма, нашы выступленні былі б больш частымі.

**— Што ж такое акрабатычны рок-н-рол? Танец? Спорт?**

— Раней гэта быў звычайны танец, гэтаксама як і бальныя танцы. Потым ён стаў спартыўным. А сёння ўжо ёсць прапановы зрабіць яго алімпійскім відам спорту.

**— Дык дзе ж можна пабачыць вашыя выступленні?**

— Ёсць у нас свая традыцыя — 31 мая мы штогод ладзім выступленні, на якіх паказваем усё, чаго дасягнулі за год. Выступаем і на зборных канцэртах, на свяце горада, на канцэртах рок-гуртоў.

***Да нас падышла Алена Сусіна. Яна толькі што скончыла гадзінную трэніроўку, адпусціла сваіх пачаткоўцаў і далучылася да размовы.***

— Я як прыйшла сюды на першым курсе, так і засталася. Цяпер са старажылаў засталіся толькі я ды Саша. Я трэнірую пачаткоўцаў, а Саша — "спартыўныя" пары. Акрамя чыстай спартыўнай праграмы, мы рыхтуем і танцавальныя нумары. Усё ўпіраецца ў тое, што ўсе мы ў клубе не прафесіяналы. Улічыце, што практычна ўсе мы — "тэхнары". Саша — інжынер-робататэхнік па адукацыі, я — інжынер-сістэматэхнік.

**— А што вам, Лена, больш цікава: танцаваць самой ці трэніраваць іншых?**

— Апошнім часам мне падабаецца трэніраваць. Пры гэтым я выціскаю з іх усе сокі, дрэсірую іх, вывяраю кожны рух. Але самае прыемнае — у нас растанцоўваюцца нават самыя закамплексаваныя, сутуласць знікае, з'яўляецца бляск у вачах. Канешне ж, і самой танцаваць цікава. Аднак, у нас, як і ва ўсіх іншых клубах, існуе праблема з партнёрамі.

**— І як жа вы яе вырашаеце?**

— Мы адразу папярэджваем дзяўчат, каб прыходзілі з хлопчыкамі. Бывае, што партнёры адшукваюцца самым нечаканым чынам. Адзін знайшоўся праз камп'ютэр: дзяўчаты далі аб'яву, а ён пісаў дыплом, убачыў аб'яву і прыйшоў да нас.

**— Усё ж рок-н-рол — гэта яшчэ і акрабатыка. А як у вас у клубе з траўматызмам?**

— Апошнія некалькі гадоў не было ніякіх сур'ёзных траўм. Сінякі — гэта ўжо традыцыйна, а больш — ні-ні... Мы стараемся сачыць за тэхнікай бяспекі.

Бываюць смешныя выпадкі, калі выходзіш на сцэну і не ведаеш, што рабіць. Зусім нядаўна адна наша пара выступала на свяце горада. Перад ёю выступаў цяжкаатлет з гірамі, дык ён праламіў сцэну, і давялося танцаваць і думаць, як бы не ўваліцца ў дзірку.

**— Вы ўжо не першы год займаецеся разам? Відаць, танцы перараслі ўжо ў нешта большае?**

— І сапраўды, нашы трэніроўкі — гэта не проста сумесныя заняткі. Мы ўжо сталі амаль роднымі. Мы разам сустракаем святы, збіраемся агульнай кампаніяй і весялімся. Кожны з нас мае свой асноўны занятак: працу ці вучобу — а рок-н-рол стаў ужо стылем жыцця.

**Таццяна КОМАНАВА**

# ЗАПРАШАЕМ З ГАЛАВОЙ У ВУЛЕЙ!


вулей прэзэнтуе

СОТЫ

№0 (пробны) 15 кастрычніка 1998 году

УВАГА! МЫ ПАЧЫНАЕМ!



Нарэшце можна сцвердзіць, што працэсы жыццядзейнасці літ-культуры Беларусі пачынаюць "выразацца", гэта значыць, выразней праяўляцца. Тры гады рух Бум-Бам-Літ біў у тазік, як у набат, будзіў і здзіўляў, раздражняў і абліваў усіх цікаўных і пабочных фантанамі ідэй. Тры гады — гэта была, так бы мовіць, працяглая новая з'ява літ-культуры (а не толькі літаратуры) Беларусі. І вось нарэшце Бум-Бам-Літ атрымаў статус спраўджанасці.

А здарылася гэта таму, што з'явіўся на Беларусі Вулей — навейшая сфера, аб'яднанне, сукупнасць, судзеянне маладых творцаў, апірышчам для якіх служыць беларускае слова і думка. Вось што яны, а пераважна гэта вучні старшых класаў мінскіх школ, пішуць у сваім творчым маніфесце:

*"Мы — маладыя носьбіты ідэй нон-канфармізму — ствараем дзеля сябе зону бяспекі, свой уласны сусвет. Гэта новая сфера беларускае культуры. Мы — яе стваральнікі — далі ёй назоў Вулей.*

*ВУЛЕЙ — не арганізацыя й не месца для збору. Гэта людзі, якія аб'яднаны аднолькавым пачуццём безвыходнасці, якія згубіліся ў пошуку выйсця й забыліся на свае імёны. Гэта творцы, натхненне якіх пасяляецца ў тонкае матэрыі сноў. Гэта вандроўнікі, якія хаваюцца ад хаслераў у бетонных джунглях. Гэта атмасфера бяссонных начэй. Гэта сумненні, у якіх нараджаецца будучыня. Гэта крок за край. Гэта... стан душы.*

*НЕКТАР — тое, што мы бачым, чуем, удыхаем штодзень. Гэта тое, што адбываецца вакол нас, у нас, дзеля нас і без нас. Нектар на экранах тэлевізараў, на вуліцах, у галовах вышэйсядзячых, у кроплях дажджу, нават у паветры. Зачыніце вочы — і вы ўбачыце пурпуровыя пералівы.*

*МЁД — гэта тое, што мы робім з нектару, нашая творчасць. Творцы ў сваёй сутнасці, мы накіроўваем усе моцы на стварэнне мёду. У гэтым і заключана нашая праца. Мы — ПЧОЛЫ, мы лётаем, мы збіраем, мы ствараем, мы будуем, мы жуж-жым. Мы хочам будучыню й мы хочам яе З А Р А З!"*

Ідэя Бум-Бам-Літа — вельмі простая — стварыць узоры літ-культуры і мастацтва, якія зробяць бум (boom), а калі не зробяць, то можна зрабіць бам — цюкнуць у тазік. Ідэя Вулея таксама вельмі простая і вельмі прыгожая. У Вулею жывуць творцы — пчолы, пчолы "натхняюцца" нектарам і ствараюць мёд. А мёдам могуць пачаставацца чытачы, назіральнікі, слухачы, прахожыя. А куды збіраецца мёд? Вядома ж, у соты. Сотамі, вельмі лагічна, і назвалі маладыя творцы-пчолы сваё выданне.

*"СОТЫ" — для тых, хто лётаў, лётае й будзе лётаць у любое надвор'е; гэта неад'емная частка новае маладзёвае субкультуры".*

Таксама як і Бум-Бам-Літ, Вулей — сфера адкрытая. Кожны можа стаць яго пчалой (пры-носьбітам мёду) ці Пчалой (жыхаром сферы Вулей). І ствараць можа што заўгодна.

*"Не мае значэння што — верш, эсэ альбо кулінарны рэцэпт, — дасць штуршок для разумення нашага жыцця. Якім бы абсурдным ні быў прадстаўлены матэрыял, ён будзе ўсяго толькі недакладнай копіяй культурнае прасторы, у якой мы знаходзімся і якую хочам з дапамогай тёду зрабіць больш спрыяльнай для існавання".*

Гэтая адкрытасць — яўная прыкмета постмадэрнісцкага адчування, але вось мэта ці жаданне "зрабіць прастору, дзе мы ўсе знаходзімся, больш спрыяльнай для існавання" — яўна мадэрнісцкая, пераўтваральная. Падобна, быццам постмадэрнісцкіх творцаў-пчолаў накрываюць зверху каўпаком, ці, лепей сказаць, сачком мадэрнізму. Застаецца спадзявацца, што моцы і колькасці гэтых пчолаў хопіць, каб сваімі крыламі ўзняць гэты сачок і перанесці альбо пераарыентаваць яго такім чынам, каб нам было добра.

Адрозніць пчалу ад пчалы вельмі цяжка нават спецыялісту. Хутчэй за ўсё з гэтай прычыны ў Вулею прыняты тэзіс, што пчолы "забыліся на свае імёны". І ўсе творы ў "Сотах" прадстаўлены псеўданімамі. І прытым псеўданімамі "непразрыстымі" (не замацаванымі пастаянна за канкрэтнымі асобамі). А гэта ўсё ж насцярожвае, бо страчваецца індывідуальнасць, а з ёй і індывідуальная адказнасць. Але ж у пчалы, не забывайце, ёсць джала, якое яна выпускае, сляпа падпарадкоўваючыся закону калектыўнага розуму, не думаючы пра тое, што страта джала нясе ёй смерць.

А ў Вулея ёсць творы, вартыя імён аўтараў. Вось, напрыклад, самавітыя радкі:

*Скразняк нявятлівы госць*
*закалмуціў мроі...*

*(Аксіся Ай)*

І Вулею патрэбны свае героі — свае маткі і свае трутні (дарэчы, апошніх на мове пчаляроў зрэдчас называюць "музыканцікамі").

Стваральнікі Вулея — пакаленне Інтэрнета, грамадзяне свету. І "Соты" яны выдаюць на чыімсьці камп'ютэры, карыстаючыся міжнародным "Word'ам". Таму натуральна, што сярод беларускай мовы на старонках "Сотаў" узнікаюць выспы на міжнароднай ангельскай гаворцы. Натуральна, што творчасць Джона Ленана ім такая ж блізкая, як і творчасць Максіма Багдановіча. Ім аднолькава дарагія "нашаніваўцы" і амерыканскія бітнікі.

Так, яны грамадзяне планеты, але лятак іх знаходзіцца тут, на Беларусі. "Галоўнае — не забывацца на крылы".

**Серж МІНСКЕВІЧ**

**P.S.** Пакуль гэты матэрыял рыхтаваўся да друку, выйшаў новы (першы пасля нулявога) нумар "Сотаў", дзе можна азнаёміцца з новымі паэтычнымі творамі Пчолаў, а таксама з публіцыстыкай. А галоўным рэдактарам "Сотаў" выступіў Антон Тарас.

**С.М.**

КАМЕРТОН №2

# ПРА САМАЕ СТРАШНАЕ, АЛЕ З КЕПІ-ЭНДАМ

***Ён выплыў з фіялетава-маразнай цемры і здолеў ператварыць яе ў фіялкавае прадчуванне вясны — нават не дакранаючыся да раяля. Проста сядзеў насупраць, піў гарбату і, неахвотна выціскаючы словы, адказваў на пытанні гэткім глухім-глухім голасам. Затое цішыня паміж словамі гучала — амаль што музыкай Шапэна, а часам Брамса. Можа, словы проста паджэнтльменску сыходзілі на апошняе месца, каб саступіць музыцы першае? І ўвогуле, хто вымяраў працягласць шляху паміж апошнім і першым?***



**— Андрэй, ты нарадзіўся ў апошні дзень адыходзячага года. Ніколі не было крыўдна (тым больш у дзяцінстве), што не ў першы дзень новага?**

— Я не звяртаў на гэта асаблівай увагі. Хіба што павестка ў армію прыйшла на год раней: яшчэ калі ў Музычным ліцэі вучыўся. А так — якая розніца? Першы, апошні...

**— А на конкурсе?**

— У Амерыцы на конкурсе я іграў усе туры апошнім...

**— ... А стаў у выніку першым. Значыць, самае страшнае не апошні нумар, а лік 13?**

— Чаму ж? Не забывайце: мой дзень нараджэння — 31-га. Тыя ж лічбы, толькі, у адпаведнасці з поліфаніяй, у люстэркавым "правядзенні тэмы".

**— А што тады самае страшнае?**

— Іграць тут, на радзіме.

**— Дзе нават сцены дапамагаюць?**

— У Амерыцы слухачы адразу настроены на самае лепшае, яны прыходзяць атрымаць асалоду, чакаюць ад майго выканання радасці. А ў нас — свядома шукаюць слабае месца ў музыцы, і гэта перадаецца з залы.

**— Ды ўсё ж куды больш перадаюцца камплІменты. А ці ж бываюць камплІменты, якія б не спадабаліся?**

— У мяне — бываюць. Нават не тое, каб не спадабаліся, а проста крыўдна становіцца, калі кажуць: "О, як гучаў у цябе раяль!" І не заўважаюць нечага больш важнага для мяне.

**— Але ж і мне здавалася, што адметнасць твайго выканання найперш у каларыстыцы гуку, калі ён нараджаецца яшчэ ў цішы, пакуль нават пальцы не кранулі клавіш.**

— Вы проста не чулі, што можна зрабіць на сапраўдным інструменце. У той жа Амерыцы тэрмін эксплуатацыі раяля "Steinway" усяго 6 гадоў на сцэне: прытым, што за ім увесь час сочыць майстар. А ў нашай філармоніі аднаму раялю 40 гадоў, другому — 20. А новы каштуе 80 тысяч долараў. Таму пасля канцэрта адчуваю нейкую віну за тое, што з-за інструмента не змог дасягнуць магчымага.

**— А чаго б ты ўвогуле ў жыцці б не змог?**

— Жыць у нашым інтэрнаце.

**— А што б змог, як табе здаецца?**

— Магчыма, здолеў бы быць педагогам. Напэўна, атрымалася б. Бо асабісты вопыт выканальніка бывае часам больш каштоўным, чым нават выкладчыцкі.

**— А кім марыў стаць у дзяцінстве? Супермэнам? Музыкантам-суперзоркай?**

— Стаць кімсьці — не, іграць лепей — так. Хаця класа да 7-га асабліва іграць не хацеў, а "супермэнныя" жаданні ў тым жа 7-ым класе прывялі да заняткаў баскетболам, у-шу.

**— А ёсць якасці, якімі ты, на ўласную думку, абдзелены? Вось як наконт духу спаборніцтва?**

— Відаць, яго ў мяне няма. Бо выходзячы на сцэну, думаю толькі аб адным: каб атрымалася музыка.

**— Пачыналі мы наш дыялог з "самага страшнага". А што ў жыцці было самым прыемным?** *— я ўладкавалася ў крэсле і падрыхтавалася ў чарговы раз паслухаць, як прыемна было атрымліваць конкурсныя ўзнагароды і асабліва І прэмію на Міжнародным конкурсе імя Уільяма Кэпэла ў Амерыцы, як цудоўна прайшлі два нядаўнія канцэрты ў Вашынгтоне і Нью-Ёрку.*

— Самае яркае ўражанне — два сёлетніх тыдні ў Балгарыі. Я першы раз быў на моры. Але галоўнае нават не ў гэтым. Два тыдні я мог нічога не рабіць, а проста гадзінамі глядзець на мора. Гэта было так здорава! Шчыра кажучы, я люблю ні аб чым не думаць, але апошнім часам стараюся ад гэтага пазбаўляцца. Так мала часу нам адлічана.

*І тут я ўспомніла, што ён марыў за год вывучыць усе канцэрты Бетховена і што днямі яго чакае сесія з грозным іспытам па эканоміцы. А ён, скарыстаўшы момант маёй разгубленасці, нацягнуў спартыўную кепачку — адну з такіх, што сёння носяць усе, — і яна, бы шапка-невідзімка, схавала яго ў фіялетавай цемры. А фіялкавае прадчуванне вясны — засталося. І толькі тады я спахапілася, што так і не звярнула асобнай увагі на яго рукі, хаця звычайна кідаю пагляд найперш на іх, тым больш, у музыкантаў. Можа, усё таму, што музыка ў яго нараджаецца нават не на кончыках пальцаў, а ў тым патаемным куточку душы, што завецца Гармоніяй: з самім сабой і з сусветам. Імя той гармоніі — АНДРЭЙ ПАНАЧЭЎНЫ.*

**Разважанні Надзеі БУНЦЭВІЧ**
**Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА**

# ПРЫЕМНА!

Незадоўга да навагодніх святаў міністр культуры краіны Аляксандр Сасноўскі прымаў у сябе лаўрэатаў шматлікіх міжнародных музычных конкурсаў. За "дарослым" авальным сталом міністэрскага кабінета нашыя таленавітыя піяністы, скрыпачы, трубачы, гітарысты, віяланчэлісты і вакалісты расказвалі пра свае творчыя клопаты. Міністр уручыў кожнаму з прысутных памятны падарунак. І напрыканцы сустрэчы — агульны фотаздымак на памяць. Прыемна!

Пакуль Валянцін Елізар'еў займаўся аднаўленнем балета "Стварэнне свету", Маргарыта Ізворска-Елізар'ева знайшла камерцыйны цэнтр "РАЙ" і пры падтрымцы "Белгазпрамбанка" і Дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа выдала накладам 500 асобнікаў сваю кнігу "Міф. Музыка. Моцарт: "Чароўная флейта" — касмаганічная міфалагема". Гэта праца з'яўляецца яе кандыдацкай дысертацыяй, асобныя раздзелы ўжо выдаваліся ў навуковых зборніках Беларускай акадэміі музыкі, таму можна спадзявацца, што вельмі хутка яшчэ адным кандыдатам філасофскіх навук станей болей.




**Наш кар.**

# ЯШЧЭ МОЖНА ПАСПЕЦЬ

Не паспеў сысці тытул "прэм'ера" з афіш апошняй opернай навінкі — "Шлюбнага вэксаля", як Беларуская опера зрабіла новы падарунак сваім слухачам. 24 снежня першыя шчасліўцы ўжо паспелі наведаць прэм'еру оперы Р.Леанкавала "Паяцы".

Гэты твор быў напісаны больш за сто гадоў таму па матывах рэальных падзей, якія здарыліся ў 1865 годзе з маленькай трупай вандроўных італьянскіх камедыянтаў. Каханне, рэўнасць, забойства — што можа ўзрушыць болей?

"Паяцы" — гэта мора музыкі, выразнай кантыленнай мелодыі і захапляльных эмацыйных кантрастаў. Таму яна зусім не губляе сваёй прывабнасці і ў канцэртным выкананні — без касцюмаў і дэкарацый. "За" і "супраць" такой формы існавання музычнага твора відавочныя, але не будзем наконт іх спрачацца: не далей як у наступным сезоне опера набудзе яскравае сцэнічнае ўвасабленне. Цяперашняя ж прэм'ера падрыхтавана спецыяльна для замежных гастроляў тэатра, якія маюць адбыцца наступным летам. Другі год Беларуская опера запрашаецца на адзін з прэстыжных еўрапейскіх фестываляў "Classic openair", які праходзіць у Швейцарыі. Канцэртнае выкананне твораў опернай класікі — умова фестывалю. Яно задавальняе самы вытанчаны слых і густ, бо дазваляе слухачам цалкам засяродзіцца на прыгажосці музычнага гучання.

Прэм'ера "Паяцаў" стала падзеяй яшчэ і таму, што дырыжыраваць першымі спектаклямі прыехаў музычны кіраўнік тэатра Аляксандр Анісімаў, які не так даўно паставіў гэты твор у Ірландыі. Рэдкая ўдача пачуць маэстра ў Мінску магчыма заўтра ўвечары, 26 снежня, на другім выкананні оперы "Паяцы". Майстэрства вядучых салістаў тэатра — Сяргея Франкоўскага, Таццяны Ціўновай, Віктара Стральчэні, Юрыя Бастрыкава і Уладзіміра Мароза — абяцае прынесці асалоду ўсім аматарам опернага мастацтва.

**Алена КАЗЛОЎСКАЯ**

# АХ, ІМПРАВІЗАЦЫЯ!

Даўно мінулі часы, калі, вымаўляючы слова "джаз", мы разумелі — "імправізацыя". Публіка перастае верыць неакадэмічным музыкантам, усіх падазрае ў "перавучанасці" і схільнасці да "хатніх загатовак" (і тут нашкодзілі праслаўтыя "папсовыя" праграмы!).

Але, магчыма, менавіта мінулы, 1998 год будзе паваротным у масавай свядомасці ў стаўленні да джазавага мастацтва. І ўсё — дзякуючы некалькім фестывалям, якія "зацэментавалі" беларускі джазавы год. Справа нават не ў тым, што іх было больш, чым зазвычай (хаця і гэта — дасягненне), а ў тым, што яны — розныя, і ўзгадаць пра іх я прапаную выключна з прычыны наяўнасці ў кожным фестывалі імправізацыі.

Зыходзячы з вышэйпамянёнага, пра V Міжнародны джаз-фестываль скажу караценька: нягледзячы на ўдзел у ім выдатных музыкантаў розных стыляў і ўзростаў, імправізацыя не ўваходзіць у ягоныя традыцыі. Гэта не значыць, што яе няма, але яна існуе толькі ў межах невялікіх сольных эпізодаў (тут, безумоўна, прыярытэт мае гурт "Яблычная гарбата" пад кіраўніцтвам Ігара Сацэвіча).

Варта ўзгадаць "Славянскі базар у Віцебску", бо ягоная закулісная джазавая частка сёлета набыла рысы самастойнага фестывалю. Заслуга тут належыць нязменнаму вядучаму джаз-клуба Уладзіміру Феертагу, які сфармаваў некалькі вельмі цікавых тэматычных праграм. І тыя, каму пашчасціла зрабіцца сведкамі гэтага міжнароднага "абмену джазам", з цікаўнасцю назіралі, як "адвязанае", так бы мовіць, трыо англійскага піяніста Джона Лоу сплятала з тэмаў Гершвіна штосьці бясконца-канцэптуальнае ў выглядзе імправізацый хвілін на сорак. А адкрыццём для беларускай джазавай публікі на "Славянскім базары" стаў дуэт маладых пецярбургскіх музыкантаў — Гасана Багірава (гітара) і Роберта Пілякальніса (кантрабас) — узор надзвычай арганічнага спалучэння двух раўнапраўных інструментаў, двух талентаў, якія разумеюць адзін аднаго з паўгука, поўных фантазіі і свабоды музычнага мыслення.

Дарэчы, музыка — музыкай, але не адзначыць вядучага і гэтых, і многіх іншых фестывальных праграм на тэрыторыі СНД — Уладзіміра Феертага — у гутарцы пра імправізацыю нельга. Ён, без сумнення, з'яўляецца яе найбліскучым прадстаўніком у галіне вербальнай творчасці, дадаючы імправізацыйны пачатак нават у тыя джазавыя мерапрыемствы, дзе музычная частка не ўтрымлівае ў сабе нічога спантаннага. І таму ў кожным горадзе былога СССР ведаюць: прыехаў Феертаг — будзе джаз.

Пра гродзенскі фестываль "Grodno-Union-Fest" з ягонай імправізаванай арганізацыяй мы ўжо распавядалі. Хачу толькі падкрэсліць, што выступленне ансамбля "Dream's factory" пад кіраўніцтвам вядучага польскага джазавага авангардыста Войцеха Чайкоўскага (кантрабас) уявіла сабой надзвычайны ўзор калектыўнай імправізацыі. Было адчуванне, што ў гурце ніхто не акампаніраваў, кожны інструмент — ад саксафона да барабанаў — вёў сваю лінію. Слухаць гэта было вельмі нязвыкла, але ў многіх беларускіх музыкантаў выклікала захапленне.

"Блюз жыве ў Мінску", які завершыў год, — фестываль, не звязаны непасрэдна з джазам, але імправізацыі, у тым ліку і джазавай, у ім было дастаткова. З сольнай праграмай выступіла піяністка Лена Ледофф (жонка Войцеха Чайкоўскага і шмат у чым — ягоная вучаніца); этнічныя і жанравыя імправізацыі (праўда, цалкам загадзя падрыхтаваныя) прадэманстраваў ва унікальнай taping-тэхніцы крымскі гітарыст Энвер Ізмайлаў; імправізацыйна далучыўся да беларускай "Крамы" ў блюзавым экстазе лідэр маскоўскай "Лігі блюза" Мікалай Аруцюнаў; бліскучыя гітарныя сола Леаніда Вярэніча ў суправаджэнні гурта "Яблычная гарбата", як заўсёды, "узрывалі" залу. Элемент спантаннасці пастаянна прысутнічаў на гэтым фестывалі, бо без яго не можа быць блюза.

Але самае галоўнае імправізацыйнае мерапрыемства сёлета наладзіла вакальная група "Камерата". Гэта быў, напэўна, першы выпадак у мінскім канцэртным жыцці, калі наяўнасць імправізацыі была самамэтай для арганізатараў імпрэзы.

Тое, што адбывалася ў Вялікай зале філармоніі 5 — 6 кастрычніка, звонку таксама нагадвала фестываль, але, нібыта адмаўляючы ўсялякую пампезнасць маючай адбыцца падзеі і прадвызначаючы асаблівую, цёплую і добразычлівую атмасферу, на афішах было напісана: "Камерата" запрашае сяброў". І на гэты раз да нас прыехалі сапраўдныя майстры імправізацыі: Анатоль Вапіраў (саксафон), Юрый Кузняцоў (фартэпіяна), Сяргей Манукян (клавішы, вакал).

Госці, запрошаныя "Кameратай", прадэманстравалі нам некалькі ўзораў вольнага музіцыравання. Самы незвычайны з іх належыць Анатолю Вапіраву — быламу пецярбуржцу, які ўжо шмат гадоў жыве ў Балгарыі і ў Мінску быў у апошні раз каля дваццаці гадоў таму. Гэта унікальны музыкант-віртуоз, не прывязаны ні да воднага стылю, які не мае патрэбы ў пастаянным партнёры (пра гэта, верагодна, больш за ўсё сведчыць той факт, што адзіным яго партнёрам на працягу некалькіх гадоў быў эпатажны Сяргей Курохін). Анатоль Вапіраў заўсёды шукае штосьці новае — нават падчас канцэртаў, і, паспрабаваўшы на сваіх саксафонах увесь існуючы меладычны матэрыял, знайшоў невычэрпную крыніцу, на якой, на ягоную думку, будзе засноўвацца музыка будучыні: фальклор. Але этнічныя матывы Вапірава — гэта не простая распрацоўка народных тэмаў, гэта паўнавартаснае аўтарскае музіцыраванне, напітанае духам і інтанацыямі фальклору. Тут поўная сканцэнтраванасць на змесце адціснула клопат пра знешнюю афарбоўку гучання.

Іншая справа Юрый Кузняцоў — адэскі піяніст, створаны для сцэны, прыроджаны "ўлюбёнец публікі". Некалі ён лашчыўся ў хвалях рамантычнага піянізму, а потым перайшоў да манеры спантаннай імправізацыі, у якой ягоны прыроджаны артыстызм раскрываецца шматбакова; за раялем Кузняцоў і пагутарыць, і патанчыць можа. На артыстычным змяшэнні жанраў пабудаваныя і кампазіцыі піяніста: тут сустракаюцца астраўкі поліфаніі і джаза, рамантызму і блюза, рэгтайма і санарыстыкі. Усё гэта прэзентуецца ў тэатралізаванай паслядоўнасці і драматургічна непазбежна вядзе да бурных апладысментаў.

А вось трэцяя частка "Кameраты" — Сяргей Манукян — да апладысментаў не заклікаў, хаця самыя гарачыя з іх атрымаў менавіта ён. Надзвычайны музыкант паводле сваёй прыроды, маскоўскі піяніст і вакаліст проста "выдыхае" з сябе прыгожыя мелодыі, аздабляючы іх цудоўнымі тэмбрамі сваіх клавіш. Яго поп-соул-блюз-рок-джазавае музіцыраванне не мае характару чыстай імправізацыі, але, прадыктаванае законамі ўнутранай дынамікі, цячэ вольна і ніколі дакладна не паўтараецца (інтэрв'ю з С.Манукянам чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў нашай газеты).

Сама "Камерата", безумоўна, таксама ўдзельнічала ў праграмах, і кожны канцэрт заканчваўся агульным сейшнам. Імправізацыя перамагала, а публіка, якая запоўніла залу філармоніі ў гэтыя дні, атрымала нямала нагод для роздуму. Верагодна, самая вялікая заслуга "Камераты" менавіта ў тым, што яна падарыла нам не ілюстрацыйны, не ўзорна-паказальны фестываль, а — змястоўны, які клікае да разумовага супрацоўніцтва. І, магчыма, нейкая частка слухачоў, нарэшце, паверыла ў тое, што джазавыя музыканты не толькі выконваюць твор, яны шукаюць, ствараюць, гэта значыць — імправізуюць.

... Ах, імправізацыя! Колькі дзідаў зламана ў спрэчках пра тое, ці робіць яна музыку больш джазавай, а калі і робіць, дык колькі яе трэба дадаць, каб атрымаць сапраўдны джаз? Як і ў кожнай калятворчай дыскусіі, гэтыя паўкулуарныя-паўматэматычныя разлікі працягваюцца да той пары, пакуль... У дадзеным выпадку, пакуль не загучыць музыка. І тады ў чалавека з чуйным слыхам і "незакрытай" свядомасцю знікне жаданне "выцягваць за вушы" з таго, што гучыць, стылі і накірункі. Вынік імправізацыі вопытнага прафесіянала заўсёды — на мяжы, гэта асаблівая, маргінальная галіна творчасці, якая мае мноства афарбовак.

Напэўна, кожнаму неакадэмічнаму музыканту ў пэўны момант варта вырашыць: альбо далей іграць, разважаючы пра чысціню стылю, альбо паспрабаваць вырвацца за гэтыя межы і... Магчыма, — вярнуцца назад, а, магчыма, — знайсці ў сабе новую музыку і зрабіцца імправізатарам.

**Ганна АЛАДАВА**

**КіНО ТЭАТР**

**№ 30**

Рэанімацыя

# РЭНЕСАНС БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ



Сцэна са спектакля "Апошняя пастараль", Мінск.

Амаль праз 12 гадоў фестываль айчынных драматургаў адрадзіўся на сцэне Бабруйскага тэатра імя В.Дуніна-Марцінкевіча.

Новы творчы саюз пад кіраўніцтвам рэктара БелАМа Рычарда Смольскага падчас фестывалю правёў канферэнцыю, у якой узялі ўдзел і рэжысёры, і сучасныя аўтары. Па традыцыі мяркуецца выпусціць зборнік, які будзе складацца з выступленняў удзельнікаў канферэнцыі. Толькі гэтыя падзеі адбудуцца пазней і стануць вядомымі для вузкага кола чытачоў, бо тыраж абяцанага зборніка маленькі — каля 100 асобнікаў. А чытачам "К" паведамляем:

— "Апошняя пастараль" паводле матываў апавядання А.Адамовіча, рэжысёр М.Дзінаў — "лепшы спектакль";

— Віталь Баркоўскі — "лепшая рэжысура" за пастаноўку спектакля "Пестуны лёсу" паводле п'есы Алены Паповай;



Сцэна са спектакля "Рагнеда і Уладзімір", Гродна.

— Уладзімір Шэлестаў — "лепшы выканаўца мужчынскай ролі" ў вышэйадзначаным сцэнічным творы;

— Галіна Букаціна — "лепшая жаночая роля" ў спектаклі "Марлен, Марлен..." і "Таму што люблю...".

З сучасных драматургаў, чые творы стаялі ў конкурснай праграме, прысутнічалі Алена Папова і Аляксей Дудараў. А.Папова атрымала спецыяльны прыз Саюза літаратурна-мастацкай крытыкі за ўнёсак у беларускую драматургію, а аўтар п'есы "Рагнеда і Уладзімір" Аляксей Дудараў — дыплом за распрацоўку гістарычнай тэматыкі.

Прадзвінулі!

# ТЭРМІН-АНІМАТАР II



Перад вамі фотаздымак старшыні Саюза кінематаграфістаў, вядомага рэжысёра-аніматара Ігара Волчака. Днямі завяршыўся з'езд кінематаграфістаў, дзе пасля гарачых спрэчак, дэбатаў і іншых прафесійных "разборак" кандыдатура Ігара Віктаравіча прайшла ўсе туры галасавання, і ён застаўся ў фатэлі старшыні ў другі раз. Нават і не ведаю — радавацца гэтай падзеі ці не? Бо надта ж хочацца, нарэшце, і кіно ўбачыць. А то ўсё з'езды, фестывалі, юбілейныя ўрачыстасці майстроў, прэм'ерныя прэс-канферэнцыі, а фірменнае кіно "Беларусьфільма" так і засталося ў СССР. Дарэчы, гэты здымак не з'ездаўскіх часоў, а з "капусніка" ў Саюзе кінематаграфістаў. Перамога дастаецца сапраўдным змагарам і барацьбітам за справу "найважнейшага з мастацтваў"!

Жанчынам — кветкі, дзецям — спектаклі!

# ХАЙ ЗАЎЖДЫ БУДЗЕ СОНЦА І СПЕКТАКЛІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ!

На апошнім паседжанні журы конкурсу на "Лепшы дзіцячы спектакль" раздаваліся не толькі прызы і дыпломы намінантам. Ішла сур'ёзная размова пра стан тэатральнага мастацтва, якое скіравана на падрастаючае пакаленне. У фае ТЮГа (тэатра краіны дзяцінства ўсіх часоў і народаў) пасля ўступнага слова начальніка аддзела тэатраў Міністэрства культуры РБ Вадзіма Дапкюнаса, у якім прагучаў шэраг прапаноў па паляпшэнні стану як саміх творчых калектываў, што служаць тэатральнаму мастацтву для маленькіх гледачоў, так і драматургіі, рэжысуры, прагучалі і прамовы крытыкаў. Дарэчы, на гэтым сходзе ў дакладах названы і асноўныя хібы, якія вылучыла журы падчас конкурснага агляду:

— адсутнасць эксперымента ў дзіцячых пастаноўках;

— адсутнасць яркіх акцёрскіх прац;





"Жывыя, курылкі!"

Валерый Маслюк, рэжысёр спектакля "Каці-гарошак".

Андрэй Андросік, рэжысёр пастаноўкі "Маленькі лорд Фаўнтлерой".

— недаравальна мала беларускіх п'ес (на ўвазе мелася і мова, і айчынныя аўтары).

Вядома, у спрэчках нараджаецца ісціна, толькі паседжанне па выніках конкурсу на "Лепшы дзіцячы спектакль" хутчэй нагадвала размову прафесіяналаў, аб'яднаных агульнай мэтай. Што радуе. У сталіцу прыехалі дырэктары і рэжысёры з абласных тэатраў. І далёка не ўсе прыехалі за прызамі, а каб пачуць слушныя заўвагі крытыкаў. За апошнія постперабудовачныя часы прафесіяналы ад мастацтва набылі шмат новых традыцый, напрыклад — ладзіць фестывалі і навуковыя канферэнцыі. Але ж і часы, калі крытыкі прыязджалі на прэм'еры ў абласныя тэатры ці то на прагляд рэпертуарных спектакляў, адышлі ў нябыт. А шкада!

Вынікі конкурсу на "Лепшы дзіцячы спектакль":

І прэмія — "Дзюймовачка", спектакль Магілёўскага абласнога драмтэатра імя В.Дуніна-Марцінкевіча;

ІІ прэмія — "Каці-гарошак", спектакль Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа;

ІІІ прэмія — "Маленькі лорд Фаўнтлерой", спектакль ТЮГа.

Прэм'еры снежня

# REVERSIO—1



Сцэна са спектакля "Reversio-1".

Тэатр "Жэст" існуе ў Мінску з 1980 года. Удзельнік фестываляў у Германіі, Швейцарыі, Галандыі. Мінчукам знаёмыя спектаклі, якія паставіў Вячаслаў Іназемцаў: "Вясёлая душа", "Не смешна"... Прэм'ера пастаноўкі "Reversio-1" адбылася на сцэне ТЮГа. Дарэчы, спектакль рыхтаваўся амаль тры гады, і ў снежні мінчукі ўбачылі толькі першую частку новага сцэнічнага твора. Назва пастаноўкі ў перакладзе з латыні азначае — вяртанне. Магчыма, у такой аб'ёмнай назве і крыецца звышзадача рэжысёра, які расказаў нам цудоўную казку, падобную на гісторыю нашага жыцця за апошнія 80 гадоў. Гледачы ўбачылі і дзяўчат — з "ДТСААФ" у характэрных шлемах і уніформе 40-х гадоў, і хлапчука-трансформера, які выпадкова "ачуняў" на незнаёмай Зямлі сярод толькі трох старых — масак... Гратэскавы спектакль "узмацоўвала" і праца вядомага піратэхніка Яўгена Шыфрына. Арыгінальную музыку напісаў Аляксей Еранькоў. Тэатр пластычнага гратэску ў Мінску адзіны, і таму, відаць, усе ягоныя пастаноўкі з цікавасцю ўспрымаюцца гледачамі. Толькі шкада, што на шматлікія тэатральныя фэсты "Жэст" не запрашаюць: не ўпісваецца ў канцэпцыю мерапрыемстваў, хаця ў 1997 годзе ў Брэсце ў пазаконкурснай праграме маскоўскі тэатр пластыкі "Чорнае — неба — белае" дадаў пікантнасці фестывальным святочным дням. А ў гэтым годзе нямецкая трупа акцёраў паўтарыла "подзвіг" маскоўскіх мімаў і толькі ўпрыгожыла спаборніцтва драматычных тэатраў на "Белай Вежы-98".

Made in Гродна

# "НЯБІТКА" ПА НАБОКАВУ

Здавалася б, часы, калі прынята было чакаць традыцыйнай безгустоўнасці ад пастановак аблдрамтэатраў, адышлі ў нябыт. Але ж да гэтай пары ў тых жа абласных тэатрах акцёры, чамусьці, лічаць сябе правінцыяламі. Маўляў, чаго нашая праца на перыферыі і ў правінцыі вартая перад сталічнай крытыкай? А вось і не, спадары Акцёры! Я не скажу за ўсіх крытыкаў ад тэатральнага мастацтва Бацькаўшчыны, толькі як газетчык мушу адзначыць: іншая пастаноўка гамяльчан ці гродзенцаў дасць фору многім сталічным сцэнам. Да чаго гэта я? Адкажу: 12 снежня ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм'ера "Кароль, Дама, Валет". Сцэнічную версію рамана Уладзіміра Набокава ажыццявіў рэжысёр Генадзь Мушперт. Дарэчы, інсцэніроўка твора таксама зроблена Мушпертам. Трупа гродзенскага тэатра адзіная ў лістападзе заслужыла воклічы "Брава!" у публіцы падчас фестывалю нацыянальнай драматургіі ў Бабруйску. Тады творчы калектыў прадставіў у конкурсную праграму спектакль Валерыя Мазынскага "Рагнеда і Уладзімір" паводле п'есы Аляксея Дударава... Удалы акцёрскі ансамбль, актуальнасць тэмы спектакля



адразу ж зрабілі гродзенцаў адметнымі сярод удзельнікаў форуму.

І вось праз месяц — зноў аншлаг! У тэатральных калідорах я чула, што рэжысёр хутка, амаль за некалькі рэпетыцый пабудаваў сцэнічны малюнак набокаўскага твора. Брава, Мушперт! Не. Хутчэй: жывы, курылка! Здзіўляцца акцёрскаму таленту Людмілы Волкавай — усё адно, што здзіўляцца калядным марозам. Я доўга чакала знаёмых нотак Норы — гераіні п'есы Ібсена, менавіта пасля гэтай ролі фартуна дакранулася да заслужанай артысткі Беларусі Людмілы Волкавай. Дык вось, дакладваю, персанаж Марты Драер — самастойная і самадастатковая роля Волкавай. На працягу дзвюх з паловай гадзін Драер (заслужаны артыст РБ С.Курыленка), Марта, Франц (артыст А.Шалкаплясаў), інтрыгуючы, вялі свае партыі. Мастакі Ф.Розаў і А.Розава стыльна пабудавалі месца дзеяння гісторыі, пра якую расказаў калісьці Набокаў. Чорна-белыя фарбы, здаецца, апанавалі не толькі свет высокай моды ў гэтым годзе, але плаўна з парыжскіх вуліц перайшлі на сцэну, якую "апранаюць" мастакі-сцэнографы... Безумоўна, пра прэм'еру такога "класа" трэба і пісаць адпаведна. Толькі, нас, газетчыкаў, хвалююць падзеі і тэрміны. Дык вось, спектакль "Кароль, Дама, Валет" — падзея ў тэатральным жыцці Беларусі, а не ў перыферыйным тэатры.





**Аўтар матэрыялаў і вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ**

**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА**

КіТ

Аляксей БЯСПАЛЫ:

# “ПОСПЕХ — АДЗІНСТВА ЎСІХ...”

***Учора на сцэне мінскага Тэатра-студыі кінаакцёра адбыўся бенефіс акцёра і рэжысёра Аляксандра Бяспалага. Каманда “К” віншуе майстра сцэны з юбілеем! Жадаем здароўя і высокіх ганарараў за таленавітую працу.***

**— Аляксандр Сяргеевіч, кім хацеў стаць школьнік Саша Бяспалы?**

— У раннія школьныя гады гэты чалавечак мяняў прафесіі, як пальчаткі, амаль што кожны тыдзень. Быў юным пажарнікам. Потым збіраўся стаць вадалазам. Запісваўся ў школьную секцыю бокса... І паралельна з усім гэтым вельмі любіў тэатр. З маленства.

**— Колькі гадоў вам было, калі вы ўпершыню прыйшлі ў тэатр?**

— Гады чатыры, напэўна. Першым тэатрам у маім жыцці быў віцебскі. А сваю першую ролю я сыграў у трэцім класе, у школьным драмгуртку. Пасля восьмага класа я ўпотай паехаў у Калінінград паступаць у мараходку. На жаль, мяне не прынялі. Пасля гэтай няўдалай спробы паступіў у Полацкі нафтавы тэхнікум на механічнае аддзяленне.

**— І тэатральная кар’ера перарвалася?**

— На першым курсе пайшоў у Полацкі народны тэатр, сыграў там сем або восем роляў... І ў 1968 годзе мне было нададзена высокае званне — артыст народнага тэатра. На гэтым усе мае званні заканчваюцца. Пасля тэхнікума я паехаў у Гомель, на хімзавод, стаў слесарам першага разраду. Прапрацаваў паўгода і зразумеў: усё, больш не магу — абрыдла звычайнасць. Пайшоў у Гомельскі абласны тэатр прасіцца на працу — кім возьмуць. І раптам даведаўся, што ва “ВГИК” набіраюць беларускую групу, а першапачатковы адбор праходзіць па абласных цэнтрах. Я цвёрда ведаў, што гэты інстытут не для простых смяротных. На ўсякі выпадак пайшоў на папярэдняе праслухоўванне, якое адбывалася ў Гомелі. Прайшоў адзін тур, другі, трэці... Потым экзамены. І здарыўся цуд: конкурс быў вялікі — 115 чалавек на месца, пасля засталося ўсяго 9 чалавек, і я ў тым ліку. І мы паехалі ў Маскву... Л.Мардачова, Н.Разанцава, С.Міхалькова, І.Грыцэўскі, Г.Січкар, П.Юрчанкоў... Усе маладыя і шчаслівыя.

**— Як прыняла вас Масква? Аглушыла?**

— Не. Масква мяне не аглушыла. Аглушыў “ВГИК”. Ён забраў мяне ўсяго, без астатка.

**— Кажуць, што “ВГИК” сёння зусім іншы, чым быў у вашыя гады...**



— Так, той дэмакратыі, якая была тады, больш няма. Абодва мае сыны пайшлі вучыцца ва “ВГИК”: Дзяніс скончыў акцёрскае аддзяленне і зараз працуе ў Маскве, малодшы вучыцца на рэжысёра. Я прыязджаў да іх, пахадзіў па калідорах... Усё ўжо не тое. З’явілася нейкае раз’яднанне паміж студэнтамі. Прайшлі заняткі і разышліся, кожны сам па сабе. А мы былі адзінай сям'ёй. І да гэтага часу, калі прыязджаю на іншыя кінастудыі і сустракаю “вгиковцев”, адчуваю гэтую дзіўную блізкасць.

**— Што было пасля таго, як вы скончылі інстытут?**

— Пайшлі прапановы, і вельмі прыемныя. Нам прапанавалі застацца ў Маскве, запрашалі ў розныя тэатры. Мы дружна адмовіліся, таму што нас чакалі дома, у Беларусі. За паўгода да заканчэння інстытута да нас з Мінска прыязджалі Паўлёнак і Дабралюбаў, расказвалі, як мы патрэбныя, як шмат працы нас чакае — дай Бог з усім справіцца! У нас нават думкі не ўзнікала аб тым, каб застацца ў Маскве. Мы свята верылі, што нас чакаюць на радзіме. Прыехалі ў Мінск усім курсам. І трэба сказаць, што на студыі “Беларусьфільм” нас уладкавалі за 20 хвілін, адразу выдалі службовыя пасведчанні. Мы пахадзілі па кінастудыі, паглядзелі павільёны і вельмі задаволеныя выйшлі на прыступкі галоўнага ўваходу. Было прыгожае лета — 11 ліпеня 1973 года. Быў канец працоўнага дня, з “Беларусьфільма” выходзілі людзі... І тады нас як аглушыла: стоп, а дзе мы будзем жыць?

У першую ноч прытуліліся ў скверыку, насупраць крамы “1000 дробязей”. На другую ноч нас пусцілі ў гасцініцу каля завода гадзіннікаў, потым выгналі. Тыдзень жылі на кватэры брата начальніцы акцёрскага аддзела. Вярнуўся гаспадар — і мы зноў апынуліся на вуліцы...

**— Не ўзнікала жадання ўсё кінуць і паехаць у Маскву пасля такога прыёму на радзіме?**

— Узнікала. Але было позна. Потым нас пасялілі ў інтэрнат. Праз сем гадоў вылучылі дзве трохпакаёвыя кватэры.

**— Атрымліваецца, што вы тут нікому не былі патрэбныя?**

— Абсалютна! Давалі час ад часу маленькія ролі, але было іх вельмі мала.

Вось Віктар Цімафеевіч Тураў умудраўся важдацца з артыстамі. Многія ўспамінаюць яго добрым словам. Віктар Цімафеевіч працаваў на поўным даверы да выканаўцы ролі. Ён запрасіў мяне ў сваю майстэрню ў Акадэмію мастацтваў выкладаць акцёрскае майстэрства. Я адпрацаваў тры гады і вельмі ганаруся сваімі вучнямі. Яны такія маладыя, а ўжо так шмат паспелі зрабіць. Спадзяюся, што іх лёс будзе не такім, як наш...

**— Як вы ўспрынялі нараджэнне Тэатра-студыі кінаакцёра? Ён не здаваўся ратаваннем у той няпростай сітуацыі?**

— З самага пачатку асабіста для мяне ён быў абузай. Я абурыўся: пасля “ВГИК”а запісалі ў драмгурток! Тэатру тады споўнілася паўгода, мы рэпеціравалі “Камуніста”, а мне якраз на здымкі трэба: далі галоўную ролю на Адэскай кінастудыі. Які тут тэатр? А потым, калі мы з Уладзімірам Грыцэўскім паставілі наш дыпломны спектакль “Фантазіі паводле Гогаля”, ва ўсіх з’явілася няссмелае адчуванне, што ў гэтым тэатры можна нешта рабіць.

**— Вы з Грыцэўскім стварылі і свой асобны тэатр, які існаваў паралельна з тэатрам-студыяй.**

— Так. Ён меў назву “Каўчэг”. Мы знайшлі спонсара. У нас быў свой штат, усім плацілі заробак, большы, дарэчы, чым у нашым тэатры. “Каўчэг” праіснаваў год, больш не працягнуў, бо былі фінансавыя праблемы. За гэты год мы з аншлагам адыгралі спектакль па п’есе Міхлеева “І трэці анёл затрубіў...” — пра Чарнобыль.

**— Колькі ўсяго спектакляў вы з ім паставілі?**

— Шэсць. Сярод іх такія, напрыклад, як “Выкраданне Алены”, “Апошняя жанчына сеньёра Хуана”, “Тэатр купца Япішкіна”... Нам добра працуецца разам. Наколькі я ведаю, нашы пастаноўкі падабаюцца гледачам. У Валодзі, у адрозненне ад мяне, хапае нерваў і цярплівасці ўсё даводзіць да канца. Вывярае кожную дробязь, усё фіксуе і памятае. Вельмі карпатліва працуе з тэкстам, са святлом. Я магу распсіхавацца, махнуць рукой, а ён абавязкова дапрацуе, дашукаецца...

**— Вы добра ведаеце прафесію акцёра, ведаеце па ўласным вопыце, што такое рэжысура. Як вы думаеце, ад каго больш залежыць поспех спектакля: ад рэжысёра ці ад акцёра?**

— Поспех — гэта адзінства ўсіх, хто складае спектакль, дакладнае выяўленне акцёрам думак рэжысёра. Я магу задумаць Бог ведае што, але калі артысты не зразумеюць і не зробяць таго, што я хачу, значыць, я не растлумачыў ім сваю звышзадачу.

**— У вас ніколі не бывае адчування “цяжкай” залы?**

— Бывае. Калі ў зале сядзяць людзі, якія належаць да мастацтва або лічаць сябе такімі. Снабізм, які ідзе ад іх, вісіць у паветры.

**— Адкажыце, каго больш у Аляксандры Бяспалым: акцёра тэатральнага ці акцёра кіно? І ўвогуле — гэта адна прафесія або дзве розныя?**

— Гэта — адна прафесія, толькі розныя спосабы існавання.

**— А дзе вам утульней існаваць: на сцэне ці на здымачнай пляцоўцы?**

— Вой, мне так цяжка на сцэне!.. На пляцоўцы значна лягчэй...

**— Я ведаю, што многія акцёры не любяць, калі ў зале прысутнічае хтосьці са сваіх, — гэта прымушае іх хвалявацца яшчэ больш. А як вы?**

— Я таксама хвалююся больш, таму што блізкія людзі больш патрабавальныя, чым проста гледачы. Вельмі суровым крытыкам была мая жонка. Я хваляваўся, калі яна прыходзіла на спектаклі. Ведаў, што дома будзе вельмі сур'ёзная размова, без усялякіх скідак.

**— Вы з жонкай знайшлі адзін аднаго ва “ВГИК”у?**

— Так, мы пажаніліся за два тыдні да майго дыпломнага спектакля. Яна была студэнткай эканамічнага факультэта. Пражылі разам 25 гадоў, яна была для мяне ўсім. Ужо год, як яе не стала, але я пастаянна яе адчуваю...

**— У вас было шмат страт у жыцці?**

— Так, на жаль. І да гэтага немагчыма прызвычаіцца...

**— Вы па натуры добры чалавек?**

— Хачу думаць, што так. Неяк мая маці казала: “Ніколі не апраўдвайся! Сябры твае і так зразумеюць цябе, а ворагі — ніколі. Калі вінаваты — трэба каяцца, а не апраўдвацца”.

**Размову вяла**
**Святлана БАРТОХАВА**
**Фота Віктара**
**ЗАЙКОЎСКАГА**

# “Я ХАЧУ БЫЦЬ КАНКРЭТНЫМ”

***18 снежня Гомельскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб стварэнні Маладзёжнага эксперыментальнага тэатра-студыі. У афіцыйных дакументах не зафіксавана, што новы тэатр-студыя ствараецца на базе “Незалежнага тэатра”, які існаваў як прыватная ўстанова. Ну і хай сабе, назавіце хоць гаршком, толькі не стаўце ў печку. Трупу тэатра з чатырох чалавек узначальваў мастацкі кіраўнік, акцёр Андрэй Троіцкі. Менавіта з ягоным прыходам пастаноўкі “НТ” звярнулі на сябе ўвагу крытыкаў і журы міжнародных конкурсаў. З прычыны матэрыяльных цяжкасцей увосень 1998 года Андрэй ад’язджае працаваць у Расію... Прафесіяналам і аматарам сцэны зразумелая сітуацыя: калі зоркі знікаюць з памостаў — тэатр памірае. Не! Трупа і тэатр нібы існуюць, толькі блукаюць зусім па іншай траекторыі. “К” неаднойчы пісала пра ўзлёты і падзенні “Незалежнага тэатра”, і сёння мы ра...ія, што Троіцкі вяртаецца на Беларусь і тэатр Галіны Шофман будзе жыць у 1999 годзе, няхай сабе і пад іншай назвай.***

**Ж.В.**

**— Андрэй, як выпускнік вядомай расійскай тэатральнай школы апынуўся ў Гомелі?**

— Калі з самага пачатку, дык, як было ў добрыя старыя часы, з Масквы я трапіў па размеркаванні ў абсалютна іншы горад — Ульянаўск. Выбраў яго, праўда, сам, тады якраз пачалася дэмакратыя. Едзь куды хочаш, вось табе выбар: Талды-Курган, Караганда, Махачкала, яшчэ бог ведае што. А ва Ульянаўску — Волга, магутная рака. Ну, “окает” народ, што зробіш. Але ўсё ж такі, калі служыць тэатру, дык правільную мову захаваць можна. Да таго ж хацелася ў тым узросце адарвацца ад дому, ад маці... Дзесяць гадоў я там добра адпрацаваў. Потым — Вільнюс. З тэатра да таго часу я ўжо сышоў, год працаваў скульптарам. Чаму сышоў? Усё “завязана” на бытавых праблемах. У мяне былі жонка, сын, потым мы разышліся... Затым мяне запрасілі ў Гомель.

**— Напэўна, гэтыя дзесяць гадоў не прайшлі для вас бясследна...**

— Так, ва Ульянаўску адукаваныя і прафесійныя, класныя акцёры. І там я зразумеў самае галоўнае: неабходна быць шчырым на сцэне. Я гатовы расстацца са сваёй справай, як толькі пазбаўлюся магчымасці быць шчырым у прафесіі. Гэта як каханне: калі ты кахаеш па-сапраўднаму, дык змірыцца з чымсьці, што абсалютна табе агідна, нельга. Поўная адкрытасць і шчырасць і тое, што мы не можам дазволіць сабе ў жыцці, з прычыны ўмоўнасцей ва ўзаемаадносінах. А кожны сцэнічны матэрыял табе дае такую магчымасць — можна прыкрыцца, маўляў, гэта не я кажу, гэта кажа нехта, каго я ў дадзеным выпадку іграю. На самой справе ты выяўляеш перажыванні і думкі героя, якія супадаюць з тваімі.

**— Вы задаволены тым, што працуеце ў Гомелі?**

— Я сябе адчуваю рэалізаваным па мінімуме. Хаця праблемы нашыя ў тым, што мы і па мінімуме не рэалізоўваемся. Калі ты згаджаешся, што дасягнутага табе дастаткова, значыць, далей ужо ісці няма куды. Я гэтага не адчуваю і таму магу лічыць сябе часткова здзейсненым акцёрам у няпоўныя 40 гадоў. У Незалежным тэатры спачатку былі цяжкасці ў стасунках трупы і рэжысёра. Затым ужо, калі так можна сказаць, сама сітуацыя вылучыла мяне ў якасці мастацкага кіраўніка тэатра, цяжкасці перайшлі ў іншую катэгорыю. Але што такое мастацкі кіраўнік? Пасада. Заўтра я ім не буду, але акцёрам буду заўсёды.

Цяпер я хачу пабудаваць рэпертуар такім чынам, каб ставіць п’есы толькі пра каханне. Рэпертуарная палітыка, на мой погляд, павінна быць абазначана як “ракурсы кахання”. Паказаць яго з самых розных бакоў. Прычым трэба ўлічваць, што тэатр — гэта не злепак з жыцця, а нешта абвостранае, выдуманае дзеля таго, каб выявіць на сцэне эмоцыі “як у жыцці”. Класічны тэатр — гэта “Рамэа і Джульета”, гісторыя, якой на самой справе няма. Такога неверагоднага, чыстага, бясконцага кахання не існуе.



**— Як наогул жывецца сёння “Незалежнаму тэатру” на Беларусі?**

— Казаць, што мы зусім ужо бедныя, я не магу. Маўляў, ведаеце, такія бедныя, што лапік на лапіку. З нас бяруць крыху менш за арэнду, чым трэба было б браць. Умовы для працы не вельмі адпавядаюць інстытуту класічнага тэатра. Да прыкладу, з ацяпленнем дрэнна, і арэнда бярэцца з улікам такіх вось “няўвязачак”. Што ж тычыцца ўвагі з боку гарадской прэсы... Зноў-такі нельга сказаць, што яны ўпарта нас не бачаць. І я думаю, што ўсяго гэтага дастаткова, каб захоўваць незалежнасць “Незалежнага тэатра”. А калі скардзіцца і мяняць умовы, дык незалежнасці не застанецца.

**— Цікава, які, на ваш погляд, узровень беларускага тэатра?**

— Не палічыце гэта за асцярожнасць, але я скажу, што вельмі мала ведаю беларускі тэатр. Кудысьці выязджаць, акрамя як на фестываль “Маладзечанская сакавіца” і нешта глядзець, акрамя спектакляў гомельскіх тэатральных калектываў, я не маю магчымасці. Таму меркаваць я проста не маю права. Дый потым, я магу і павінен абараняць свае ўласныя спектаклі і пастаноўкі, у якіх я ўдзельнічаю як акцёр, але выказвацца з нагоды — не мая прафесія. Мая прафесія — іграць.

**— Вас не намагаліся “сасватаць” іншыя беларускія тэатры?**

— Не, такіх прапаноў не было. Я б, напэўна, мог іграць на беларускай мове. Але не ведаю, ці змагу пасля такой волі, такіх магчымасцей, як зараз, працаваць у іншым месцы, не ўмешвацца ў працэс стварэння спектакля, не прапаноўваць нешта сваё. У мяне ж у самога ёсць за плячыма свае пастаноўкі. Не ведаю, я і не думаў пра ўсё гэта. Напэўна, калі разваліцца “Незалежны тэатр”, дык я не змагу працаваць тут, але заракацца не хачу.

**Гутарыла**
**Аксана ПІВАВАР**
**Фота Віктара**
**ЗАЙКОЎСКАГА**



# ЯК МОЖНА ЦЭЛЫ ТЫДЗЕНЬ СВЯТКАВАЦЬ ТРЫ ЮБІЛЕІ Ў АДНЫМ

130 гадоў таму, 29 кастрычніка 1968 года ў Віцебску адкрыўся першы музей, заснаваны на матэрыялах, сабраных пры вывучэнні гэтага краю. Большасць экспанатаў увайшла ў новы Віцебскі губернскі музей, створаны 12 лістапада 1918 года. А 60 гадоў таму, разам з утварэннем Віцебскай вобласці, губернскі музей стаў абласным краязнаўчым. Днямі Віцебскі абласны краязнаўчы музей святкаваў тры гэтыя даты.

На ўрачыстае свята ў Віцебск прыехалі музейшчыкі з усёй рэспублікі: калегі з Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Рэспубліканскага аб'яднання літаратурных музеяў, абласных музеяў, загадчык аддзела музеяў Міністэрства культуры Сяргей Маслоўскі і, канешне ж, прыйшлі прадстаўнікі ўсіх культурных устаноў Віцебска. Урачысты юбілейны вечар адбыўся 16 снежня, аднак музейнае свята доўжылася цэлы тыдзень, на працягу якога жыхары горада маглі пазнаёміцца з шэрагам выстаў, што адбыліся ў самім музеі і яго філіялах.

— Адной з галоўных падзей гэтага тыдня, — расказвае намеснік дырэктара музея па навуковай працы Валянціна Кучарэнка, — стала адкрыццё ў Ратушы першай залы пастаяннай экспазіцыі "Віцебск IX—XIV стст. Калекцыя археалогіі". Дагэтуль мы не мелі пастаяннай экспазіцыі ў сувязі з тым, што з 1982 да 1992 года Ратуша была зачынена на сур'ёзную рэканструкцыю, усе старыя экспазіцыі дэманціраваныя і размешчаныя па розных памяшканнях. Аднак за гэтыя гады быў напрацаваны значны тэарэтычны матэрыял, грунтоўная аснова для стварэння пастаяннай экспазіцыі.

Дзесяцігадовая адсутнасць музея ў горадзе, канешне, наклала адбітак на фарміраванне маладога пакалення. І дзеля таго, каб адсутнасць гэтая не стала згубнай, мы пайшлі па шляху стварэння хуткай змены выстаў. Акрамя ўсяго, гэта дало багаты экспазіцыйны вопыт, які ў спалучэнні з тэарэтычнай базай прынёс значны плён. Пра аб'ёмы і значнасць гэтай працы сведчаць наступныя лічбы: у 1997 годзе мы правялі 44 выставы ў Ратушы і філіялах. Параўноўваючы з 1994 годам, у 1997 годзе колькасць наведнікаў музея вырасла амаль удвая і склала 136 тысяч чалавек. І сёння практычна кожны жыхар Віцебска ведае, што ў горадзе існуе музей і што тут можна ўбачыць шмат цікавага.

І сапраўды, цікавага было шмат. У фае Ратушы — фотавыстава "Гісторыя музейнай справы на Віцебшчыне", якая адсылала нас у далёкае XIX стагоддзе, час, калі закладваліся асновы музея. У другой зале Ратушы адкрылася выстава віцебскага мастака Фелікса Гумена "Па Германіі акварэльнай", дзе ў пейзажных і гарадскіх замалёўках аўтар увасобіў свае ўражанні ад Нямеччыны.

Пад гэтым жа дахам адбылася яшчэ адна выстава з паэтычнай назвай "Аб прыгожым, аб светлым, аб зыбкім". На ёй была прадстаўлена калекцыя фарфору і шкла XIX стагоддзя. Сярод экспанатаў — фарфор кітайскі, нямецкі, аўстрыйскі, італьянскі, французскі, англійскі. Шырока прадстаўлены рускі фарфор вырабамі Імператарскага завода і прыватных заводаў Гарднера, Папова, Міклашэўскага, Кузняцова. Побач з фарфорам можна пазнаёміцца з узорамі беларускага шкла Налібоцка-Урэчскіх мануфактур. Келіхі, шклянкі, чаркі, падсвечнікі — гонар калекцыі. Паводле дадзеных, яны лічацца мясцовымі творамі, аднак такое сцвярджэнне патрабуе асобнага даследавання. Цалкам верагодна, што іх аўтарамі з'яўляюцца мясцовыя майстры, бо, як вядома, у ваколіцах Віцебска існавала шмат гут. А дапаўняюць выставу творы мясцовых вышывальшчыц XIX стагоддзя з пастаральнымі сюжэтамі.

"Шкляную" тэму падтрымаў Музей прыватных калекцый выставай "Імгненні стагоддзяў праз магію шкла". У цэнтры цікавасці гэтай выставы аказалася бутэлька і яе гісторыя. Тэма, згадзіцеся, рэдкая. Усяго прадстаўлена каля 70 бутэлек другой паловы XIX — першай паловы XX стагоддзя. Яны падзяляюцца паводле свайго прызначэння: вінныя, піўныя, бутэлькі для моцных напояў ці мінеральнай вады. Прадстаўлены такія знакамітыя старыя кампаніі, як Шустаўская. Побач — комплекс піўных бутэлек слыннай віцебскай фірмы Лівенбрэй. Бутэлькі выраблялiся ў Баварыі, затым іх везлі ў Віцебск, напаўнялі півам Лівенбрэй і зноў адпраўлялі ў Германію.



*Навуковыя супрацоўнікі музея Таццяна Дашкоўская і Вера Рогач.*

Адзін з цікавых экспанатаў — бутэлька з кладам. Сама бутэлька датуецца канцом XIX стагоддзя, грошы ў ёй — мікалаеўскія. Аднак яна так і засталася не адкаркаванай і захоўваецца ў такім жа выглядзе, у якім была знойдзена.

Дзве выставы адкрыліся ў Мастацкім музеі. Адна з іх — "Паэзія пячной кафлі" — распавядае пра эвалюцыю ад ранняй гаршковай, місачнай і каробчатай кафлі XIV—XVI стст. да прадукцыі Віцебскага кафельнага маёлікавага завода, заснаванага ў 1877 годзе. Аснову калекцыі склалі экспанаты, знойдзеныя падчас раскопак у Віцебску, Полацку, Браславе, Друі. Аднак ёсць і экспанаты, перададзеныя музею прыватнымі асобамі. Сярод гэтых экспанатаў — кафельны дэкор печы (завод Браніслава Лісоўскага, канец XIX — пачатак XX стагоддзя), падораны музею мастаком В.Н.Вальновым. Фрагменты кафельнага дэкору яшчэ двух пячэй былі знойдзены сярод руін узарванага будынка на плошчы Свабоды.

А ў суседняй зале размясцілася выстава "...Гэты цёмна-вішнёвы шаль". Яе аснову склалі экспанаты Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Відаць, мала хто ведае, што мода на шалі прыйшла да нас з Усходу, пасля паходаў Напалеона ў Егіпет. У канцы XVIII стагоддзя шалі трапляюць у Расію, а ў XIX стагоддзі становяцца ўжо часткай нацыянальнага касцюма. На выставе прадстаўлены творы майстрых XIX — пачатку XX стагоддзя. Можна толькі дзівіцца ўмелай пабудове кампазіцыі, каляровай гаме, пластычнасці саміх шаляў.

Літаратурны музей, што адкрыўся ў траўні гэтага года, зрабіў акцэнт на дзіцячую аўдыторыю. Тут адбыўся ранішнік "Джын Хатабыч з вуліцы Падзвінскай", падчас якога юныя наведнікі музея даведаліся, што Лазар Лагін, аўтар знакамітай казкі пра Хатабыча, родам з Віцебска. Дзеці маглі пазнаёміцца з шэрагам цікавых дакументаў, перададзеных музею дачкою Лазара Лагіна.

Штодня на працягу святочнага тыдня ладзіліся самыя розныя мерапрыемствы. А ў нядзелю 20 снежня адбыўся дзень адчыненых дзвярэй. І Віцебскі абласны краязнаўчы музей у Ратушы, і яго філіялы: Літаратурны музей, Музей прыватных калекцый, Мастацкі музей і Музей-сядзіба І.Я.Рэпіна "Здраўнёва" — прымалі ў гэты дзень усіх жадаючых.

**— Якое значэнне мае гэтае свята для горада і для музея?** — запытала я дырэктара Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Вольгу Іванаўну Акуневіч.

— Для нас гэта сапраўдная падзея. Па-першае, мы нарэшце апраўіліся пасля рэканструкцыі. А па-другое, у нас з'явілася новая дата нараджэння. Яшчэ да нядаўняга часу афіцыйным годам заснавання музея лічыўся 1918 год. Аднак мы правялі вялікую навукова-даследчую працу і высветлілі, што нашы вытокі ідуць менавіта ад першага музея ў Віцебску, што быў адкрыты ў 1868 годзе. Гэта, пагадзіцеся, факт немалаважны.

**— Такім чынам, музей адразу пастарэў на 50 гадоў. 130 гадоў для музея — гэта многа ці мала?**

— Для музея гэта, безумоўна, многа. На сённяшні дзень Віцебскі абласны краязнаўчы музей — адзін са старэйшых у Беларусі. Побач з Магілёўскім, які свае 130-годдзе адзначыў летась.

**— Падчас юбілейнага тыдня ў музеі і яго філіялах адбыўся шэраг выстаў, святочных мерапрыемстваў, канцэртаў. А што вы рыхтуеце сваім наведнікам надалей, у будучым годзе?**

— Асноўныя нашыя намаганні ў наступным годзе будуць скіраваныя на далейшую распрацоўку пастаяннай экспазіцыі. Мяркуем адкрыць залу, прысвечаную гісторыі Віцебска XIV—XVIII стст. Акрамя гэтага, хацелася б адкрыць новыя выставачныя залы, залу для цырымоній і, калі дазволіць фінансаванне, залу прыроды.

**— А ці мяркуеце вы ладзіць такія ж святы надалей?**

— Безумоўна. Найперш, мы, музейшчыкі, маем свае прафесійныя святы. Вось ужо трэці год запар у траўні мы адзначаем яго днём адчыненых дзвярэй. Летась мы адзначылі 400-годдзе Ратушы, а з намі гэты дзень святкавалі ўсе віцябляне. Хацелася б, каб Дзень Ратушы адзначаўся штогод і каб ён стаў святам усяго горада.

І яшчэ. Нягледзячы на тое, што нашы ВНУ рыхтуюць спецыялістаў па аддзяленні музеязнаўства, сапраўдны музейшчык — гэта, у першую чаргу, практык. Чым жа можна затрымаць у нашай прафесіі людзей? Вядома ж, не заробкамі. А дзякуючы такім мерапрыемствам, як гэты тыдзень музея, і падымаецца прэстыж нашай прафесіі, прафесію музейшчыка паважаюць і шануюць.

**Таццяна КОМАНАВА**
**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

*"Галёрка"*

# ЖЫЦЦЁ НАВУКОВАЕ — ЖЫЦЦЁ АКАДЭМІІ



На міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі "Сучасныя праблемы падрыхтоўкі акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў" узнімаліся пытанні пра сучаснае становішча беларускай тэатральнай школы, былі даклады, у якіх распавядалася пра творчы шлях майстра беларускай сцэны Е. А. Міровіча. У рамках канферэнцыі былі таксама праведзены майстар-класы амаль што па ўсіх спецыяльнасцях і паказаны спектаклі "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча" Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы і "Тэатр купца Япішкіна" Тэатра-студыі кінаакцёра.

На пленарным пасяджэнні канферэнцыі з дакладам выступіў доктар мастацтвазнаўства, прафесар Беларускага універсітэта культуры А. Сабалеўскі. Ён адзначыў асаблівасці творчага метаду легендарнага майстра беларускай сцэны, раскрыў перад намі яскравую індывідуальнасць асобы Міровіча. Выступіла кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Э. Герасімовіч, якая ў свой час вучылася ў Еўсцігнея Афінагенавіча, яна распавяла пра тэатральную педагогіку свайго настаўніка. Дзякуючы гэтаму спавешчанню, можна было атрымаць даволі дакладнае ўяўленне аб педагагічнай школе, якой карыстаўся Е. Міровіч пры выхаванні сваіх вучняў.

Але ж галоўнай тэмай для дыскусій заставалася праблема падрыхтоўкі акцёраў.

Вялікая ўвага надавалася пытанням псіхафізічнага трэнінгу і пластычнай культуры як аднаго са шляхоў да падрыхтоўкі акцёра. Госць канферэнцыі, дацэнт Санкт-Пецярбургскай акадэміі тэатральнага мастацтва М. Александроўская грунтуе сваю методыку трэнінгу на біямеханіцы У. Меерхольда. Удзельнікам канферэнцыі быў паказаны відэазапіс майстар-класаў, якія праводзіліся пры ўдзеле акцёраў і настаўнікаў нацыянальных японскіх тэатраў "кабукі" і "но". Гэта паказала, наколькі біямеханіка Меерхольда сваімі каранямі ўваходзіць у пластычную культуру Далёкага Усходу, у баявыя мастацтвы. М. Александроўская лічыць, што праз складаныя фізічныя дзеянні студэнты-акцёры набліжаюцца да разумення сцэнічнага пераўвасаблення. І не дзіўна, што ў сваім выступе дацэнт Беларускага універсітэта культуры У. Лаўрухін гаварыў аб пластычнай культуры акцёра і рэжысёра ў тэатры і тэатральнай школе, аб значэнні падрыхтоўкі ў галіне пластыкі, аб выразнасці настрою ў руху.

У сваю чаргу, прафесар А. Шагідзевіч лічыць, што ў працы са студэнтамі вельмі важны індывідуальны падыход, з тым, каб вылучыць асабістыя якасці і здольнасці навучэнцаў. Таму метад навучання з кожным павінен будавацца па-рознаму, пры гэтым уключаючы ў сябе асновы агульнай методыкі, адпаведнай той ці іншай тэатральнай школе. Адна справа — нацыянальны японскі тэатр, і зусім іншая — рускі тэатр Станіслаўскага.

У той жа час вядомая тэатразнаўца, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Т. Ратабыльская завастрыла ўвагу на тым, што ў апошнія гады выпускнікі ўсё менш і менш звяртаюцца да класічнай драматургіі. Перавагу мае нумарная пабудова спектакля. Студэнты імкнуцца зрабіць шоу, паказаць у першую чаргу свае пластычныя і вакальныя здольнасці, падчас забываючы на ўнутраны, псіхічны стан. Тут назіраецца пэўны адыход ад сістэмы Станіслаўскага, які прадугледжвае сабой менавіта сцэнічнае пераўвасабленне.

Неафіцыйная, добразычлівая атмасфера панавала ў гасцёўні Еўсцігнея Міровіча. Тут сабраліся яго вучні: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт А. Бутакоў, заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Э. Герасімовіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі У. Станкевіч, заслужаны артыст Беларусі І. Курган. Гэтыя людзі ўспаміналі свае студэнцкія гады. Згадвалі сваю першую сустрэчу з Еўсцігнеем Афінагенавічам. Эльвіра Пятроўна да сёння памятае першую сустрэчу, памятае ўсё да дробязяў. Сустрэча з ім засталася ў яе памяці як значная падзея ў жыцці. Ілля Львовіч успомніў, як у цяжкі пасляваенны час ён прыйшоў да Еўсцігнея Міровіча ў галошах, падвязаных шнурочкам. Успомніліся заняткі майстэрствам акцёра ў памяшканні кухні, якая тады не працавала. Пазней ім далі для заняткаў танцавальны клас у оперным тэатры. Вучні паміж сабой ласкава называлі яго "Міроша".



Тое, што канферэнцыя адбылася, гэта несумненна значная падзея ў тэатральным жыцці Беларусі. Было выказана шмат цікавых прапаноў, абмеркавана вялікая колькасць пытанняў, выслухана больш за 20 дакладаў. Пасля некаторых дыскусій накшталт асабістых момантаў была прынята рэзалюцыя канферэнцыі. Гэты дакумент калі не кардынальна зменіць, дык значна паўплывае на далейшае развіццё беларускай тэатральнай школы. Маюцца на ўвазе прапановы аб распрацоўцы праграмы "Творчыя кадры Беларусі XXI ст.", стварэнні навукова-даследчай лабараторыі, увядзенні новай сістэмы тэатральнай адукацыі. Было таксама прынята рашэнне аб выпуску трохтомнага выдання, змест якога будзе прысвечаны жыццю і творчасці Е. А. Міровіча. Застаецца толькі пажадаць, каб гэты смелы праект не застаўся ляжаць на паліцы, а быў як мага хутчэй пераўтвораны ў жыццё.

**Матэрыял "Галёркі" падрыхтавалі Р. Альшэўскі, П. Васеха, А. Малюк, К. Панамарова, В. Сабалеўская — студэнты 1-га курса аддзялення тэатразнаўства БелАМа, кіраўнікі творчай майстэрні Р. Смольскі, В. Іваноўскі**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*На фота: А. Лабовіч і Э. Герасімовіч — вучні Е. Міровіча.*

**Нашы ў Маскве!**

## АПОШНІЯ ГАСТРОЛІ ДРАМЫ Ў 1998 ГОДЗЕ

З 11 па 23 снежня ў памяшканні Рускага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага адбыліся гастролі Маскоўскага тэатра-цэнтра імя М.Ярмолавай. Масквічы ў Мінску паказалі восем пастановак. У адной з іх ("Скрыжаванне") іграў мастацкі кіраўнік тэатра-студыі Уладзімір Андрэеў разам са славутай зоркай 60-х гадоў Элінай Быстрыцкай.

У гэты ж час на сцэне "ярмолаўскага" тэатра праходзілі гастролі мінчукоў-"горкаўцаў". А нашым артыстам было што паказаць: масквічы ўбачылі дзве прэм'еры гэтага сезона "Ваўкі і авечкі" і "Трагічны аповед пра Гамлета, прынца дацкага".

Дарэчы, пастаноўка па п'есе А.Астроўскага была прызнана лепшай на міжнародным тэатральным фестывалі "Белая Вежа-98", а шэкспіраўскі твор быў вынесены на суд мінскай публікі за тыдзень да ад'езду ў расійскую сталіцу. Адным словам, свежасць бывае, сапраўды, толькі першая...

**Ж.В.**




## ПАДАРУНКІ ДЗЕДА МАРОЗА

І хоць да навагодніх урачыстасцей яшчэ шмат часу, да выхаванцаў рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра ўжо завітаў добры Дзед Мароз. Ён прывёз дзецям падарункі ад Беларускага дзіцячага фонду. Яны атрымалі салодкасці, садавіну і цацкі.

*На здымку: шасцігадовая Насця Данскіх з в.Антонаўка Шклоўскага раёна атрымала падарунак ад Дзеда Мароза.*

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА**

## "ЗВАНЫ САФІІ" Ў ПОЛАЦКУ

***У трэці раз сабраў сваіх прыхільнікаў адзіны ў краіне Міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі". Дзякуючы падтрымцы Міністэрства культуры і Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, якія ўзялі на сябе частку фінансавых выдаткаў, тут прайшло шэсць канцэртаў замежных і айчынных арганістаў. Адбылася прэм'ера 4-й сімфоніі А.Янчанкі "Слова аб палку Ігаравым".***

Да 125-годдзя з дня нараджэння Макса Рэгера была прадстаўлена панарама твораў кампазітара. У музыцы М.Рэгера цудоўна зліліся маштабнасць і філасафічнасць бахаўскай паліфаніі з эмацыйнай выразнасцю рамантыкаў. Тэксты арганных твораў М.Рэгера заўсёды складаныя і адначасова цікавыя як для выканаўцаў, так і для слухачоў.

Госць фестывалю з Аўстрыі І.Трумер прадставіў праграму французскай і нямецкай музыкі эпохі барока. Ён звярнуў на сябе ўвагу асаблівай манерай выканання: што б ён ні іграў, цяжкое сплаценне ліній у паліфаніі пераўтвараецца ў ясную і поўную канкрэтнага сэнсу размову некалькіх галасоў. Мноства музычных сімвалаў, што насяляюць бахаўскія творы, ажываюць і раскрываюць свой глыбінны сэнс. Старажытная музыка з кожным днём усё больш аддаляецца ад нас, і тым больш каштоўнай становіцца сустрэча з тым, хто разумее яе мову.

Упершыню на фестываль "Званы Сафіі" прыехаў выканаўца з Польшчы К.Вількус. Поруч з вядомымі творамі Баха, Рэгера, ён пазнаёміў нас з польскай арганнай музыкай 1-й паловы XX ст. Яскравасць і своеасаблівасць гэтай нацыянальнай кампазітарскай школы пацвердзіла і сачыненне самога К.Вількуса, што прагучала разам з імправізацыяй у заключэнні канцэрта.

Творчыя сувязі Сафійскага сабора з Літвой шматлікія. Не далей як увесну мы мелі шчасце слухаць Літоўскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам С.Сандэкіса. Полацкія старажылы напэўна памятаюць канцэрты аднаго з лепшых савецкіх арганістаў Л.Дыгрыса. На фестывалі "Званы Сафіі" адбылося выступленне маладой выканальніцы з Віцебска, вучаніцы Л.Дыгрыса, Дзіяны Энцене. Нягледзячы на ўзрост, яна скарыла слухачоў здольнасцю глыбокага спасціжэння кампазітарскай задумы як у старажытнай, так і ў сучаснай музыцы. Эмацыйнай кульмінацыяй канцэрта стаў твор В.Бартуліса "Уяўленне, што ўзнікла 17 ліпеня 1750 года", прысвечанае 300-годдзю І.С.Баха.

Самая складаная праграма на фестывалі прагучала ў выкананні Ф.Пахлатка са Швейцарыі. Ф.Пахлатка належыць да пароды ўдумлівых музыкаў, і таму яго артыстызм знаходзіцца ў раўнавазе з чыста тэхнічнымі і стылёвымі аспектамі выканальніцтва. У сябе дома ён выкладае арган у Базэльскай Акадэміі музыкі, мае званне дацэнта. Гэта праца прымушае пастаянна быць у канцэртнай форме. На фестывалі ў Полацку Ф.Пахлатка літаральна зачараваў публіку каларытнымі рэгістроўкамі, непадробнай віртуознасцю і прафесіяналізмам.

Завяршэннем фестывалю сталася выступленне салісткі канцэртнага зала Сафійскага сабора К.Пагарэлай. Яна адзначыла 10-годдзе сваёй творчай дзейнасці ў Полацку. І, зразумела ж, на гэтым канцэрце былі і кветкі, і віншаванні прыхільнікаў і калег, і рэтраспектыва музыкі, якая прыйшлася вельмі даспадобы публіцы. У ліку новых твораў прайшла прэм'ера сімфанічнай паэмы "Эклезіяст" А.Кароткінай. Яе выканалі К.Пагарэлая, Наваполацкі камерны аркестр і салісты Полацкага камернага хору пад кіраўніцтвам Л.Маліноўскага.

**Н.БАРАВІК,**
**музычны рэдактар Сафійскага сабора, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік**

## "12" — ЛІК ШЧАСЛІВЫ

У тэатры "Вольная сцэна" адбылася выстава скульптара Віктара Копача, якая мела назву "Дванаццаць месяцаў". Віктар Копач — прызёр Рэспубліканскай выставы маладых мастакоў 1998 года, а паралельнае маладзёжнае журы прысудзіла яму галоўны прыз у намінацыі "Прафесіяналізм у скульптуры". На сваю персанальную выставу Віктар Копач прадставіў серыю з дванаццаці твораў, якія разам складаюць адзінае цэлае. Выкананы яны ў камені, але камень для аўтара не проста матэрыял — ён адухоўлены. Копач, далікатны і абаяльны мастак, паказаў людзям душу каменя, распавёў навелу пра камень і яшчэ пра штосьці важнае. Дванаццаць месяцаў, дванаццаць скульптур, дванаццаць вобразаў — добрая калядная казка.

Выстава працягнецца да 3 студзеня.

**Іна РЭУТ**

## СВЯТА ЖЫЦЦЯ, альбо ДЗЕЦІ, ШТО ПЕРАМАГЛІ СМЕРЦЬ

Кожны з нас у сваім жыцці хоць раз сустракаўся з хваробай. І якая была радасць, калі нарэшце прыходзіла доўгачаканае выздараўленне. А ўявіце сабе шчасце перамогі над хваробай, якая асуджае сваіх "ахвяр" на смерць. Каб адчуць гэта, варта хаця б раз пабываць на Свяце выздаравелага дзіцяці "Усмешка", на свяце дзяцей, што перамаглі анкалагічныя і гематалагічныя захворванні. Свята гэтае ладзіцца для дзяцей штогод, а ініцыятарам і непасрэдным арганізатарам яго выступае Беларускае рэспубліканскае таварыства "Дзеці ў бядзе" на чале з Яўгенам Украінцавым.

"Усмешка" — гэта свята герояў, свята людзей, што змаглі супрацьстаяць лёсу: дзяцей, бацькоў, медыкаў.

— Мы з дачкою прыходзім сюды ўжо трэці год. Я бачу яе сярод сяброў, яна ўсміхаецца, і мне таксама радасна.

— Не ведаю, для каго гэта большае свята, для дзяцей ці для нас, бацькоў...

— А я дык ужо і не ўяўляю сябе і сына без такіх штогадовых сустрэч. Ці ж можна добраахвотна адмовіцца ад такой колькасці сяброў, добразычліўцаў і проста слаўных людзей?!

Гэта — словы бацькоў, якія радуюцца таму, што іх дзеці жывуць. А самі дзеці... Зрэшты, яны бадай што нічым не адрозніваюцца ад іншых, такія ж цікаўныя, жвавыя і, галоўнае, жыццярадасныя. Яны з задавальненнем прымалі ўдзел у гульнях, чыталі вершы пра сваіх родных, сяброў, глядзелі канцэрт. А на сцэне ў гэты дзень былі таксама дзеці: выхаванцы Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, удзельнікі народнага цыркавога калектыву Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў, узорны ансамбль эстраднага танца "Гарэзлівыя агеньчыкі", ансамбль народнай песні "Валошкі", ансамбль габрэйскай музыкі "Сімха" СШ № 102 і іншыя. Юныя гледачы ўдзячнымі апладысментамі сустракалі і выступоўцаў, і ўсіх тых, хто дапамагае ім жыць не толькі ў святочныя дні: дактароў Навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і гематалогіі і асабіста яго старшыню Вольгу Алейнікаву, бацькоў таварыства "Дзеці ў бядзе", што працуюць не дзеля ўзнагарод, яго старшыню Яўгена Украінцава, прэзідэнта аб'яднаных ініцыятыў зямлі Рэверстан Карлу Аульрых, якая прыняла актыўны ўдзел у лёсе многіх хворых дзяцей, прадстаўнікоў пасольства ФРГ і Вялікабрытаніі, а таксама многіх іншых. Людзей гэтых аб'яднала гора, аднак аб'яднала дзеля таго, каб тварыць дабро.

Людзі, што калі-небудзь сутыкаліся з анкалагічнымі захворваннямі, добра ведаюць таварыства "Дзеці ў бядзе". На жаль, для многіх іншых людзей гэтая назва ні аб чым не гаворыць, хаця таварыства існуе са снежня 1990 года. Пачыналася яно з 15 чалавек, а сёння, на жаль, налічвае 2,5 тысячы хворых дзяцей у Мінску і 18 гарадскіх аддзяленняў па ўсёй рэспубліцы.

— Сама ідэя прыйшла з Захаду, — расказвае Вольга Алейнікава, дырэктар Навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і гематалогіі, чалавек, што ўласнымі рукамі выратавала многіх дзяцей. Менавіта яна стаяла ля вытокаў таварыства. — У 1990-ым годзе я ўпершыню выехала ў Франкфурцкую дзіцячую клініку на стажыроўку. І там я ўбачыла, што ва ўсіх анкалагічных клініках існуюць бацькоўскія ініцыятывы і таварыствы, што дапамагаюць хворым дзецям і іх сем'ям. Канешне, на Захадзе людзі матэрыяльна забяспечаныя, там грошы збіраюцца і ўкладаюцца ў навуковыя распрацоўкі. Я вярнулася дадому, у нас склалася ініцыятыўная група бацькоў. На дапамогу нам прыйшлі аўстрыйцы. З іх боку ўзнікла ідэя арганізаваць калядныя святы і ўсім анкалагічна хворым дзецям у краіне зрабіць падарункі. За два месяцы мы ахапілі больш чым дзве трэці ўсіх сем'яў у краіне. Зразумела, што арганізоўвалася гэта ўсё без аніводнай капейкі, толькі ў вольны час і дзякуючы асабістай ініцыятыве. Усё гэта з'яднала нас, і ўзнікла бацькоўскае таварыства "Дзеці ў бядзе". Цяпер гэта ўжо рэспубліканскае таварыства, і калі раней Цэнтр з'яўляўся заснавальнікам, то зараз ён — партнёр. Аднак, усё роўна, робім мы адну агульную справу.

І сапраўды, дзейнасць Цэнтра анкалогіі і гематалогіі і дзейнасць таварыства "Дзеці ў бядзе" сёння практычна нельга ўявіць паасобку. Таксама, як нельга забыцца пра яшчэ аднаго партнёра — Аб'яднаныя ініцыятывы зямлі Рэверстан, што ў Германіі, і іх прэзідэнта Карлу Аульрых. Гэтую немаладую ўжо, аднак па-сапраўднаму ініцыятыўную жанчыну ведаюць бадай што ўсе хворыя і выздаравеўшыя дзеці (я ўжо не кажу пра іх бацькоў!). На жаль, не прыехала на свята яе калега Хенгард Вэбер — ёй давялося затрымацца, каб прывезці для хворага хлопчыка чарговую партыю медыкаментаў.

— Што рухае вамі, спадарыня Карла, калі вы дапамагаеце нашым хворым дзецям?

— Калі параўноўваць Беларусь і Германію, дык у Германіі людзі жывуць значна лепш. І калі мы запрашаем у нямецкія сем'і беларускіх дзяцей, то робім гэта, найперш, з удзячнасцю Богу за тое, што нашы ўласныя дзеці здаровыя. І мы жадаем падзяліцца з хворымі беларускімі дзецьмі хаця б частачкай сваёй душэўнай радасці.

Першапачаткова гэта была мая прыватная ініцыятыва, цяпер жа я прадстаўляю арганізацыю, заснавальнікам якой, зноў жа, з'яўляюся я сама. А працую я на Беларусі ўжо каля васьмі гадоў. Мы рэгулярна возім сюды гуманітарную дапамогу: абсталяванне, медыкаменты, лекі і іншае.

Сёлета разам з Міністэрствам аховы здароўя мы пабудавалі і адкрылі ў Астрашыцкім гарадку аддзяленне рэабілітацыі для анкалагічна хворых дзяцей з іх бацькамі. Сёння там 15 дзяцей з мамамі ў цудоўных умовах праходзяць курс рэабілітацыі. Наш новы праект — пабудова такога ж цэнтра для рэабілітацыі падлеткаў на базе дзіцячага санаторыя "Баравое", што знаходзіцца на беразе возера Нарач. Ёсць ужо і частка неабходных грошай. А потым — зноў трэба будзе збіраць медыкаменты, грошы для дапамогі таварыству "Дзеці ў бядзе". Уласна кажучы, маё жыццё ўжо цалкам прысвечана дзейнасці дзеля хворых беларускіх дзяцей.



*Яўген Украінцаў.*

Мне пашанцавала, што калегамі маімі ў гэтай справе з'яўляецца таварыства "Дзеці ў бядзе" і асабіста спадар Яўген Украінцаў. Я шмат працавала з гэтымі людзьмі і давяраю ім. Бо я ведаю шмат нямецкіх ініцыятыў, што мелі тут партнёраў, і справы ў іх ішлі далёка не так добра, як у нас...

— Канешне, планы ў нас агромністыя, — гаворыць старшыня таварыства "Дзеці ў бядзе" Яўген Украінцаў, — а вось магчымасці...

Бадай што асноўная наша праблема на сённяшні дзень — адсутнасць адпаведнага заканадаўства аб дабрачыннай дзейнасці. У шмат якіх краінах, утым ліку ў некаторых краінах блізкага замежжа, такія законы існуюць, і калі чалавек ахвяруе грошы на дабрачыннасць, ён ведае, што з гэтай сумы яму не давядзецца плаціць падаткі. А да ўсяго ён мае і маральны стымул, бо дабрачыннасць гэтая ўсяляк заахвочваецца. І ў нас існаваў спіс арганізацый, ахвяраванні якім не абкладаліся падаткам. На жаль, існаваў ён толькі да 1993 года. Я разумею цяжкую эканамічную сітуацыю ў дзяржаве, але ж мы дапамагаем менавіта дзяржаве, падтрымліваючы і клінікі, і сем'і з хворымі дзецьмі. Нельга ж толькі разлічваць і спадзявацца на дапамогу з-за мяжы. І ў нас ёсць досыць устаноў, якія з задавальненнем дапамагалі б нам, але... падаткі.

Між іншым, нягледзячы на ўсе цяжкасці, свята для дзяцей адбылося. Усе яны атрымалі свае падарункі і, што важна, адчуванне таго, што яны не адзінокія ў сваёй бядзе, што ёсць на зямлі добрыя, чулыя людзі.

**Таццяна КОМАНАВА**



*Адказныя супрацоўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ніна Марчанка і Валерый Харавец падчас наведвання Ганны Іванаўны Трасцінскай.*

"Той, што адолела лёс" — ордэн, якім была ўзнагароджана яшчэ ў былым СССР наша суайчынніца Ганна Іванаўна Трасцінская, заслужаны ўсім яе мужным жыццём. Інвалід з дзяцінства (яна нарадзілася без абедзвюх рук), Ганна пераадолела шматлікія перашкоды: паспяхова скончыла сярэднюю школу, Белдзяржуніверсітэт, потым выкладала гісторыю дзецям, якія таксама абдзелены лёсам. Дзякуючы сіле духу, жаданню быць неабходнай людзям Ганна Іванаўна навучылася вышыўцы, але робіць гэта пальцамі ног. Мастацкія творы Ганны Трасцінскай дэманстраваліся на многіх выставах.

Нядаўна яна выканала і падарыла сваю работу Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. Днямі, згодна з даручэннем Прэзідэнта, адказныя супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі наведалі Ганну Іванаўну і ўручылі ёй удзячны ліст Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі і памятныя падарункі.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

**Калектыў Белдзяржфілармоніі смуткуе з прычыны смерці старэйшага работніка Белдзяржфілармоніі, ветэрана Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І.Жыновіча, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны РУДЗЬКО Дзмітрыя Васілевіча і выказвае спачуванні сям'і нябожчыка.**

Лішне казаць

# СЕНСАЦЫІ 98-ГА ГОДА

## ЧАЛАВЕК СТАНЕ НЕЎМІРУЧЫМ

І не ў фігуральным ці фантастычным сэнсе гэтых слоў, а ў сэнсе навукова-практычным. Чалавек набудзе неўміручасць у выглядзе электроннай Е-істоты.

Так сцвярджае амерыканскі прафесар (былы савецкі дысідэнт, вязень сумлення) Аляксандр Балонкін. Аб сенсацыйных выніках сваіх даследаванняў у галіне стварэння электроннага розуму і прадаўжэння існавання чалавека ў новым вымярэнні ён паведаміў нядаўна ў амерыканскіх СМІ. Неўміручасць — блакітная мара чалавецтва, — гаворыць прафесар. — Але гэта проста пабочны прадукт пры даследаванні развіцця глабальнага розуму, будучых цывілізацый у Сусвеце. Я сцвярджаю, што існуе Закон узрастання складанасці сістэм, якія самакапіруюцца, пры пастаянных вонкавых




умовах. Сутнасць вельмі простая. У дадзены момант мы размяшчаем на квадратным сантыметры чыпа сотні тысяч і мільёны электронных элементаў. У бліжэйшыя гады гэта лічба ўзрасце ў тысячы разоў, будзе расці і далей. Чалавечы мозг мае 10 мільярдаў нейронаў, якія лёгка мадэлююцца на камп'ютэры. Як толькі мы зможам змадэляваць усе нейроны і навучымся перапісваць іх сувязі ў чыпы, чалавек стане неўміручым. Чалавек як асоба — гэта не больш чым памяць, праграмы, звычкі. Перапісаўшы ўсю гэту інфармацыю ў чыпы, мы даем яму магчымасць існавання ў новым, электронным абліччы.

Некаторыя жахаюцца: "Як жа гэта чалавеку быць у выглядзе чыпа альбо скрынкі, начыненай электронікай?" Але ж ніхто не гаворыць, што гэта павінна быць скрынка. Наадварот, чалавек можа выбіраць свой воблік па жаданні — ад Шварцэнегера да Мэрылін Манро: прыгожы малады твар, стройную фігуру, пяшчотную скуру, вялізную фізічную сілу. Ён будзе мець шмат пераваг перад звычайнымі людзьмі: не будзе мець патрэбы ў ежы, жытле, паветры, зможа падарожнічаць у пустыні, Арктыцы, па дне акіяна і ў космасе. Ён будзе не толькі неўміручым, але і непадвержаным любой зброі, бо запіс яго мозга можна захоўваць у чыпе і ў выпадку катастрофы ўзнавіць у новым целе. Да таго ж у электроннага чалавека (я яго называю Е-істотай) будуць неабмежаваныя магчымасці ў сэнсе яго навучання і развіцця. Калі навучанне біялагічнага чалавека адымае дзесяткі гадоў, дык навучанне электроннага будзе займаць секунды. Роўна столькі, колькі займае перапіс інфармацыі з чыпа ў чып. Напрыклад, спатрэбілася кітайская мова, калі ласка, цераз пару хвілін вы ўжо размаўляеце лепш за біялагічнага кітайца. Калі зараз чалавецтва 99,9 працэнта сваіх рэсурсаў і часу выдаткоўвае на падтрыманне біялагічнага існавання, дык электронны чалавек 90 працэнтаў свайго часу зможа траціць на развіццё навукі, тэхналогіі.

Якія рэальныя магчымасці стварэння Е-істоты? Разлікі паказваюць, што для стварэння электроннага мозга, супастаўімага з чалавечым, неабходны суперкамп'ютэр магутнасцю ў адзін тэрафлоп — гэта тысяча мільярдаў аперацый у секунду. Зроблены ўжо рэальныя крокі ў гэтым накірунку. Фірмай "Інтэл" створаны першы чалавека-эквівалентны камп'ютэр (ЧЭК). Так што прыкладна да 2030 года будзе створаны суперкамп'ютэр, магутнасць якога перавысіць магутнасць мазгоў усяго чалавецтва. Ну, а калі мець на ўвазе тую акалічнасць, што кожныя два гады ў два разы зніжаецца кошт адной аперацыі і ў два разы змяншаецца аб'ём камп'ютэра (ЧЭКа), то можна зрабіць наступны прагноз: у 2020—2030 гадах неўміручасць стане даступнай для жыхароў развітых краін, а яшчэ праз 10—20 гадоў і для асноўнай масы чалавецтва.

## ШЧАСЛІВЫ БІЛЕТ ВЫПАЎ ПАРТУГАЛЬЦУ

Задоўга да 8 кастрычніка — дня, калі Шведская акадэмія абвясціла імя чарговага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры, літаратурная і чытацкая грамадскасць свету варажыла, гублялася ў здагадках: хто на гэты раз стане ўладальнікам



шчаслівага білета? Хто? Паэт, празаік ці драматург? Хто? Прадстаўнік якой краіны? Выказваліся самыя розныя меркаванні, звязаныя з тым альбо іншым імем. Але прагназаваць больш-менш пэўна было рызыкоўна. Бо, як вядома, механізм прыняцця "нобелеўскіх" рашэнняў — таямніца за сямю пячаткамі. Вылучаць кандыдатуры могуць шмат хто (творчыя саюзы, грамадскія арганізацыі і г.д.). Афіцыйны спіс, які налічвае каля 90 прэтэндэнтаў, як правіла, не агалашаецца, чуткі ды здагадкі пацвярджаюцца рэдка. Вядома было, праўда, што расійскі ПЭН-цэнтр рэкамендаваў шведскім акадэмікам угараваць Фазіля Іскандэра і што, як быццам, у спісе ёсць прозвішча і нашага Васіля Быкава.

Але... Новым нобелеўскім лаўрэатам стаў нечакана для многіх 75-гадовы партугальскі пісьменнік Жазэ Сарамага. Які, паводле вердыкту высокага журы, "сваімі прыпавесцямі, поўнымі фантазіі, спагадлівасці і іроніі, зноў і зноў дае нам магчымасць адчуць смак знікаючай рэальнасці".

Хаця Жазэ Сарамага і не ўваходзіў да гэтага ў лік самых папулярных сучасных пісьменнікаў, ён усё ж атрымаў шырокае прызнанне як у сябе на радзіме, так і за яе межамі. Яго творы перакладзены на многія мовы свету. Да прыкладу, яго раман "Евангелле ад Ісуса" быў надрукаваны летась у часопісе "Иностранная литература" ў перакладзе на рускую мову. Менавіта паводле яго твора Мігель дэ Алівейра зняў шырока вядомы фільм "Манастыр". Да сюжэтаў і вобразаў пісьменніка з цікавасцю прыглядаўся таксама Федэрыка Феліні.

Асноўная тэма творчасці Жазэ Сарамага — гістарычны лёс і сучаснае жыццё яго роднай краіны. Так што і ў гэтым сэнсе выбар Шведскай акадэміі зразумелы і апраўданы.

## ДРАМА І МОМАНТ ІСЦІНЫ ПРЭЗІДЭНТА КЛІНТАНА

Набліжаецца да завяршэння сенсацыйны меладраматычна-палітычны серыял на тэму "Прэзідэнт і стажорка", які разам з Амерыкай глядзеў цэлы год увесь свет, а разам з тым блізіцца да развязкі разгляд "Справы Клінтана" ў Кангрэсе ЗША. У гэтыя перадпавагоднія дні будзе вынесены вердыкт адносна таго, застанецца Клінтан прэзідэнтам ці пазбавіцца ў выніку імпічмента ўлады.

Але чым бы ні скончыўся разгляд пытання ў Кангрэсе, самым адказным і цяжкім днём ва ўсёй прэзідэнцкай кар'еры Біла Клінтана было 17 жніўня г.г. У гэты дзень прэзідэнт выступаў з паказаннямі перад членамі так званага Вялікага журы. Яму задавалі пытанні і яго слухалі 23 суддзі — 18 жанчын і 5 мужчын (з іх — 9 афраамерыканцы і 14 белыя). Клінтан мусіў адказваць на пытанні следчых пяць з паловай гадзін. І потым адразу, пасля дачы паказанняў па "справе Монікі Левінскі", звярнуўся з пакаяльным пасланнем да нацыі. Вось яго змест:

"Я адказваў на іх пытанні праўдзіва, уключаючы пытанні аб маім асабістым жыцці, пытанні, на якія ні адзін амерыканскі грамадзянін не схацеў бы калі-небудзь адказваць. Аднак я бяру на сябе ўсю паўнату адказнасці за ўсе мае ўчынкі як у якасці дзяржаўнага дзеяча, так і прыватнай асобы. Менавіта таму я сёння і звяртаюся да вас...

Сапраўды, у мяне была сувязь з міс Левінскі, што не лічу прыстойным. На самой справе гэта было памылкай. Гэта ўяўляла сабой крытычна няправільнае меркаванне з майго боку і асабістую памылку, за што толькі я ў поўнай меры нясу адказнасць.

Аднак я заявіў сёння Вялікаму журы і я гавару гэта зараз вам, што ніколі я не прасіў нікога хлусіць, утойваць ці знішчаць сведчанні ці ўчыняць якія-небудзь іншыя незаконныя дзеянні. Гэта справа — справа толькі мяне і двух самых любімых маіх людзей — маёй жонкі і нашай дачкі — і Бога.

Нават у прэзідэнтаў ёсць асабістае жыццё. Час спыніць персанальныя пераслед і ўварванне ў асабістае жыццё і заняцца жыццём нашай нацыі".

Несумненна, што гэта пакаяльнае пасланне ўвойдзе ў гісторыю, у прыватнасці, у падручнікі па маралі пад рубрыкай, скажам, "Палітыка і мараль" альбо "Выбар паміж хлуснёй і праўдай".



## ПАТАЙНЫЯ ДЗВЕРЫ ВЯДУЦЬ У ІНШЫ СВЕТ

У Стакгольме — археалагічная сенсацыя: пад каралеўскім палацам выявілі раптам тайны і даўно забыты падземны ход, праз які ў госці да манархаў маглі проста завітаць невядомыя асобы. Дзверы ў падзямелле выявілі падчас работ па будаўніцтве новага палаца.

— Без сумнення, гэтым тайным ходам карыстаўся кароль Карл XI (ён сядзеў на троне ў 1660—1697 гадах), — гаворыць супрацоўніца музея Чэрстын Сёдарлунд. — У нас маецца сведчанні на гэты конт. Аднак падземны ход, відавочна, быў пракладзены яшчэ раней, пасля перабудовы палаца, якую рабіў Юхан III яшчэ ў канцы XVI стагоддзя.

Па падземным ходзе кароль мог выйсці з палаца, сесці на каня і адправіцца ў шлях, не прыцягваючы ўвагі пабочных асоб. Хто ведае, можа, ход выкарыстоўваўся для тайных любоўных спатканняў. Але глухія сцены падзямелля цяпер ужо нічога пра тое не раскажуць.

Дарэчы, сам каралеўскі палац быў пабудаваны ў сярэдзіне XIII стагоддзя вакол крапаснай вежы "Трэ крунур" — "Тры кароны". За работы адказвалі вядомыя ў Швецыі людзі — рэгент Біргер Яра і яго сын Вальдэмар. Кароль і яго сям'я займалі толькі невялікую частку будынка, а ў астатніх памяшканнях жылі і працавалі слугі ды рамеснікі.

Сенсацыйнае адкрыццё не абмяжоўваецца толькі падземным ходам. Адна з галоўных знаходак — рэшткі невялікіх драўляных хатак, якія збудаваныя ў тым жа стагоддзі. Яшчэ ў падзямеллі знайшлі старажытны калодзеж, сцены якога выкладзены вялізнымі камянямі. Ён забяспечваў жыхароў палаца свежай вадой.

## СКРАДЗЕНА КНІГА МІКАЛАЯ КАПЕРНІКА

З бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве выкрадзены рукапіс кнігі Мікалая Каперніка "Аб абарачэннях нябесных сфер", якая была выдадзена ў Нюрнбергу ў 1543 годзе — незадоўга да смерці вялікага вучонага. Гэта здарэнне з'яўляецца ці не самым скандальным крадзяжом у гісторыі навукі.

Пакуль у інтарэсах следства паліцыя паведамляе толькі самыя скупыя падрабязнасці. Твор Каперніка быў узяты пад залог па скрадзеным пашпарце, а затым тайком вынесены з чытальнай залы.

Па пальцах адной рукі можна пералічыць кнігі, якія па сваім значэнні, па ўплыве на развіццё цывілізацыі можна было б параўнаць з працай Мікалая Каперніка "Аб абарачэннях нябесных сфер". І вучоныя лічаць, што прапажа яе арыгінала — вялікая страта не толькі для культуры, але і непасрэдна для самой навукі. Таму што ў перавыданнях твора Каперніка шмат памылак, а арыгінал поўны загадак. Перш за ўсё, так і не высветлена за некалькі стагоддзяў пытанне, што менавіта падбіла Каперніка на яго высновы.

Заўсёды лічылася, што ў


NICOLAI CO
PERNICI TORINENSIS

кнігі "Аб абарачэннях нябесных сфер" шчаслівы лёс. Яна была забаронена святой інквізіцыяй толькі праз 73 гады пасля выдання. Па сутнасці, кніга — гэта ўсё, што засталося ад Мікалая Каперніка. Магіла вучонага не захавалася. Дзе цяпер бясцэнны рукапіс, невядома. Інквізіцыя прагледзела кнігу, злодзеі — ацанілі.

## ЭКСПАЗІЦЫІ РОБЯЦЬ ФУРОР

Жыхары і госці Берліна атрымалі нядаўна рэдкую магчымасць наведаць дзве надзвычай цікавыя і зусім непадобныя адна да другой выставы. Адна з іх, што мае назву "Sensation" ("Сенсацыя"), адкрылася ў залах музея сучаснага мастацтва Hamburger Bahnhof. Тут прадстаўлена багатая калекцыя шэдэўраў сучаснага англійскага "супермадэрновага" мастацтва, якая сабрана мецэнатам Чарльзам Саатчы. Летась у Лондане гэта экспазіцыя сталася сапраўднай сенсацыяй: залы акадэміі мастацтваў наведала тады больш за 350 тысяч чалавек!

Другая экспазіцыя, размешчаная ў будынку Brücke—Museum, прысвечана творчасці мастакоў, якія ўваходзілі на пачатку стагоддзя ў вядомую групу "Блакітны коннік". Для агляду прадстаўлены 146 работ мастакоў-наватараў Васіля Кандзінскага, Раберта Дэлонэ, Поля Клее, Франца Марка і інш. Шмат берлінцаў — прыхільнікаў жывапісу ідзе ў залы Брук-музея.

**Падрыхтавана паводле матэрыялаў замежнай прэсы.**



**На пачатку снежня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Марыі Калас. У выдавецтве "Чатыры чвэрці" рыхтуецца да друку альбом-кніга Уладзіміра Шэліхіна "Сэрца памятае".**

**Прапануем вашай увазе главу з будучага выдання, у якой аўтар прыгадвае сваю сустрэчу з вялікай спявачкай.**

# ТРЫ ЎСМЕШКІ

## І ПАРТРЭТ БОСКАЙ МАРЫІ



Марыя Калас — член журы конкурсу імя Чайкоўскага. 1970 год.

Найвялікшая спявачка і трагічная актрыса, дзіўная з'ява опернай сцэны нашага стагоддзя Марыя Калас пайшла з жыцця ўвосень 1977 года. Прайшло больш за дваццаць гадоў. Як ляціць час! Агульнавядомы адказ славутага дырыжора Туліа Серафіна на пытанне, чаму Марыя Калас найбольш знакамітая за ўсіх сучасных оперных артыстаў? — "Таму што яна Марыя Калас". Бадай, лепш і не адкажаш.

Жыццё гэтай непаўторнай спявачкі здаецца мне трагічнай легендай. "Вялікая", "Боская" яна неяк у канцы сваёй кар'еры прасіла прабачэння ў публікі за тое, што не змагла дасяваць сваю партыю ў адным са спектакляў. Чалавек агнявога тэмпераменту, прыгожая жанчына, Калас была не надта шчаслівай у асабістым жыцці. Яе раптоўная смерць у пяцідзесяцічатырохгадовым узросце стала вялікім горам, асабліва для тых, хто любіць оперу.

Мне лёс падарыў нямала сустрэч з вялікімі артыстамі. Але нават самая дзёрзкая фантазія не адважылася б прадказаць сустрэчу з той, якую паклоннікі вакальнага мастацтва лічаць багіняй.

А жыццё нечакана паднесла мне такі бясцэнны падарунак. Упершыню я пачуў голас Марыі Калас па сваім маленькім прыёмніку у студэнцкім інтэрнаце на пачатку 50-х гадоў. Мяне вабілі своеасаблівасць яго тэмбру, здзіўляючае майстэрства і бязмежны дыяпазон ад кантральтавага гучання да "касмічных вышынь". "Блукаючы" па эфіры, я часта сустракаў гэты незвычайны голас, які прыцягваў да сябе, як магніт. Прозвішча спявачкі не ведаў, а голас пачаў пазнаваць. А аднойчы па польскім радыё прагучала: "Спявала Марыя Калас". Калі ж я набыў першую плыту з яе запісамі, дык назаўсёды стаў палоннікам незямнога таленту спявачкі.

І вось летам 1970 года мне выпаў гонар удзельнічаць у IV Міжнародным конкурсе імя Чайкоўскага ў Маскве ў якасці акампаніятара маладога беларускага спевака Валерыя Кучынскага. Хваляванняў больш чым занадта. Але неяк пасаблівому забілася сэрца, калі я даведаўся, што членамі журы будуць славутыя спевакі, кумір маёй маладосці Ціта Гобі і сама Марыя Калас. Конкурс — гэта конкурс, з усімі ўласцівымі яму страсцямі, але Калас стала "пунктам". Неадвязнай ідэяй. Нарэшце стаў вядомы час яе прыезду ў Калонную залу Дома Саюзаў, дзе праходзіць праслухоўванні вакалістаў. Я, натуральна, ля самых дзвярэй. Нацяты, як струна. Пад'ехала машына, з яе выйшлі людзі, і сярод іх ЯНА! Яе твар добра знаёмы мне па фатаграфіях у часопісах і газетах. Як выбух вырвалася ў мяне "Evviva Maria Callas!" ("Няхай жыве Марыя Калас"). Мой дыктарскі голас узляцеў над гулам натоўпу, і боская Марыя, глянуўшы на мяне, усміхнулася. Як удзельнік конкурсу ўлятаю ў Калонную залу і бачу: у суправаджэнні паклоннікаў па фае ідзе Ціта Гобі. Не такі ўжо малады, як у фільмах "Паяцы" і "Любімыя арыі", але ж гэта ён! Падбег да яго і ўзяў аўтограф на сваім конкурсным пасведчанні. А вось і Марыя Калас з "ганаровым эскортам" Свешнікава і іншых членаў журы.

Бадай яна была першай жанчынай, якую я са здзіўленнем убачыў апранутай у штаны. Прабіцца ж да яе праз бурлівы натоўп не было ніякай надзеі. Тады, прабегшы праз службовы пакой я апынуўся за знакамітай госцяй, а ўся людская маса — перад ёю. Нехта, сагнуўшыся, падставіў спіну, і на такім імправізаваным своеасаблівым стале легенда падпісвае лісткі паперы, праграмкі конкурсу, плыты. Конкурс спыніўся. Уражанне такое, быццам гэта жанчына раздае індульгенцыі на бессмяротнасць. Як і многія, кладу сваё конкурсное пасведчанне на спіну таго бедалагі, якому не даюць разагнуцца, і сама вялікая Калас засведчвае мой удзел у конкурсе. І зноў мой узнёслы стан выказаўся ў воклічы "Evviva Maria Callas!" Яна глянула на мяне як на знаёмага і з усмешкай вымавіла: "Nuovamente voi" ("Ізноў вы"). Я атрымаў у падарунак другую ўсмешку ў той дзень. Далей займаю месца ў ложы ўдзельнікаў конкурсу і не адрываю вачэй ад багіні, якая сышла з нябёсаў. Толькі краем вуха чую галасы прэтэндэнтаў на тытулы пераможцаў. Гэта ж трэці тур. Калас па-ранейшаму не дае мне спакою. Не спускаю з яе вачэй. Вось яна зняла акуляры. Цяпер нешта піша. Далей нешта шапнула на вуха Ціта Гобі, які сядзіць побач, а потым зноў уважліва слухае канкурсантаў. Напэўна, толькі маці так глядзіць на любімае дзіця, як я на Марыю. О, калі б яна магла адчуць тую хвалю цеплыні і абагаўлення, якую выпраменьвала мая душа. Але я ўсяго толькі адзін з многамільённай арміі яе паклоннікаў.

І вось, конкурс завершаны. На прыёме ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, дзе сабраліся лаўрэаты, дыпламанты, члены журы, розныя знакамітасці, я бачу ЯЕ! Усё вырашаецца імгненна — зараз ці ніколі. Калас размаўляе з Аленай Абразцовай і міністрам культуры Фурцавай. Набліжаюся да іх, а ўсё ў сярэдзіне дрыжыць. Няцяжка ўявіць мой стан. Невялікі запас слоў з італьянскай мовы, якую калісьці вывучаў у кансерваторыі, калі быў студэнтам вакальнага аддзялення, акрамя фартэпіяннага, даў мне магчымасць спачатку папрасіць прабачэння, а потым сказаць самае добрае, што толькі змог. Закончыў свой мадрыгал усё тымі ж словамі "Evviva Dea Callas!" (Няхай жыве багіня Калас!) — толькі ўжо не вельмі гучна, з пачуццём глыбокай пачцівасці. Яна глянула на мяне, усміхнулася і, як мне падалося, з адценнем суму ўдакладніла: "Donna Callas" (жанчына, ці пані Калас). Я працягнуў конкурсны буклет, на якім яна паставіла свой подпіс, схіліўся і пацалаваў руку жывой легендзе, адчуўшы цяпло яе прыгожых пальцаў з манікюрам колеру слановых біўняў. А трэцяя ўсмешка назаўсёды застанецца ў памяці.

Праз некалькі гадоў я веў у Мінску канцэрт грэчаскай піяністкі Васо Дэвецы. Калі ён закончыўся, мы доўга размаўлялі з гэтай прыемнай, мілай жанчынай. У гутарцы (з дапамогай набору слоў з розных моў) высветлілася, што яна закадычная, як гэта гавораць, сяброўка Марыі Калас. І ў мяне імгненна ўзнікла ідэя. На другі канцэрт прынёс і папрасіў перадаць маёй багіні да дня нараджэння керамічную фігурку самазабыўна спяваючай жанчыны ў беларускім нацыянальным адзенні і выказаў сваю мару — мець партрэт Калас з дарчым надпісам. (Між іншым, такую ж статуэтку я падарыў раней Зары Далуханавай. Калі расказваў ёй па тэлефоне, што перадаў такі ж сувенір у Парыж для Калас, спытаў: "а вы не раўнуеце мяне да яе?" "Што вы, —усклікнула Зара Аляксандраўна, — я сама яе абагаўляю".) Ну, а Васо запэўніла мяне, што партрэт абавязкова будзе, і паехала ў свой Парыж.

Праз нейкі час атрымліваю адтуль ліст. Няцяжка здагадацца, што са мной было. Трапяткімі рукамі дастаю з канверта фота і бачу на ім усмешку... Васо Дэвецы. Тут жа і візітная картка яе мужа — Жана Руара, прэзідэнта і генеральнага дырэктара сусветна вядомай фірмы "Шак дзю Монд", якая выпускала плыты. На картцы быў адрас, тэлефон і добрыя пажаданні ад Васо. Я адшукаў чалавека, які ведае французскую мову і, падзякаваўшы сяброўку маёй багіні, сціпла нагадаў ёй пра абяцанае фота Калас. Прайшло гады два, і піяністка-грачанка зноў прыехала ў Мінск. Сустрэча была вельмі радаснай. Пасля ўзгаднення праграмы госця дастала доўгі папяровы пакет і, перадаўшы яго мне, сказала: "Это вам от Марии, а это — от меня", і дала яшчэ туалетную ваду. Ці знайду я словы, каб перадаць мой стан? Пачуў толькі яшчэ, што гальштук мяне ўпрыгожыць, а вада зробіць маю асобу яшчэ і араматнай. Я горача дзякаваў і бясконца цалаваў рукі той, што адразу так лёгка ўскінула маю душу ў паднябессе. Публіка, канешне ж, не магла здагадацца, чаму я так прыўзнята прадстаўляў ёй выканальніцу праграмы. Канцэрт прайшоў добра. Потым мы зноў доўга размаўлялі. На маё пытанне, як Марыя перанесла смерць Анасіса, які, як мне сказала раней сама Васо, быў адзіным чалавекам, па-сапраўднаму любімым яе вялікай сяброўкай, піяністка, седзячы за раялем, чамусьці шырока ўсміхнуўшыся, выпаліла "Трэ б'ен" — вельмі добра. Моўчкі парадаваўшыся таму, што Калас не вельмі пакутавала, я далей завёў гаворку пра абяцанае. Каму што, а мне партрэт. "Як, вы не атрымалі? — усклікнула Васо. — Сама чула як Марыя загадала сакратару даслаць вам фота!" Мы палаялі сакратара, і, абнадзеены новымі запоўненымі ў здзяйсненні маёй мары, я стаў чакаць. Прайшло яшчэ колькі часу і — зноў доўгачаканая вестка з Парыжа. Адкрываю канверт і бачу жанчыну ў доўгай белай сукенцы-хітоне. Вырашыў, як след не разгледзеўшы, што гэта Калас у ролі Нормы. Потым прыгледзеўся ў твар — ды гэта ж зноў Васо. Ну і забаўна. Зноў ствараю падрабязнае пасланне. У мяне захаваўся чарнавік на рускай мове. Прыводжу цытаты з яго. "Милая, дорогая Васо! Нетрудно себе представить, что делалось с моим сердцем, когда я получил ваше новогоднее поздравление. Правда, я подумал вначале, что на фото Мария в "Норме". Но потом узнал знакомое лукавое личико, которое я не так давно видел, и очень развеселился. Спасибо вам за добрые пожелания и еще одно фото. А я поздравляю вас с весенним женским праздником и желаю никогда не терять бодрости духа и оптимизма. Ваш привет убеждает меня в том, что обещанное фото великой Марии недостижимое Счастье, что обрести его не может мне помочь сама Васо Деветци? Правда, у нас говорят — обещанного три года ждут. Тогда у меня еще есть немного времени. А может быть, мне приехать в Париж и на месте выяснить в чем дело? Это, конечно, шутка (адрас і візітоўка ў мяне былі, а падхалімаж мой, думаю, яўна адчуваецца). А кот еще играет на гитаре (такую цацку я падарыў Васо)? Передайте ему привет". Далей я пісаў: "Не верьте секретарю Марии. Это коварный человек (не знаю он или она). Лучше возьмите, пожалуйста, фото, и сами пришлите его мне по известному вам адресу. Когда вы снова приедете к нам? Встречи с вами всегда вспоминаю с огромным удовольствием и, может быть, опишу их когда-нибудь в мемуарах". Тады мне і ў галаву не прыходзіла, што і на самой справе гэтым займуся. Ды вось жа пішу! А Васо сапраўды — добрая піяністка і вельмі цікавая субяседніца — вясёлая, смяшлівая. Мы з ёю прыемна пасябравалі. Пасля ўсялякіх слоў падзякі і пажаданняў я закончыў ліст так: "Сердечный привет мсье Руару (гэта зноў падхалімаж) и вашей великой подруге. Скажите ей, что я на всю жизнь сохраню верность двум выдающимся греческим женщинам — Васо Деветци и Марии Каллас. (Тут яўна адчуваецца стогн — маленне аб партрэце.) Склоняюсь в низком поклоне и целую ваши ручки. Радуйте меня иногда своим приветом. В.А.Ш.".



Гэтая "спявачка" паехала ў Парыж у якасці майго падарунка Багіні.



Злашчаснае трыо — Анасіс (злева), Калас, Менэгіні (муж Марыі).

Пасланне адправіў і вырашыў не травіць сябе больш хісткай надзеяй. Але ў хуткім часе дастаў з паштовай скрыні вялікі канверт. Тут ужо сумненняў у мяне не было. Сапраўды, у ім паміж двума кардонкамі — ЯНА. І глянула мне прама ў душу, якая расквітнела невыказна. Вы ўяўляеце, што такое — атрымаць партрэт ад спявачкі-легенды?! Ды яшчэ ўбачыць напісанае яе рукой ваша прозвішча і словы падзякі. У гэтыя дні, напэўна, не было больш шчаслівага чалавека. Я не хадзіў, я лётаў... Так у мяне з'явілася рэліквія, што стала амаль іконай.





Доўгачаканая Багіня жыве ў маім доме.

Які ж сум і адчай ахапіў маю душу, калі даведаўся пра смерць Калас. Яна памерла раптоўна. Збіралася на сустрэчу з кінарэжысёрам. Калі ўжо ляжала на смяротным ложы, яе камерыстка скрозь слёзы прамовіла: "Яна пайшла да свайго Арыка". Так, мульці-грэк Анасіс быў яе вялікай страсцю. Калас марыла стаць яго жонкай і нават (падумаць толькі!) на доўгі час дзеля гэтага пакідала оперную сцэну. А ён аддаў перавагу Жаклін Кенэдзі. У магутных гэтага свету свае смуткі. І багатыя таксама плачуць, і ім бывае горка. А мне пасля смерці Калас падалося, што позірк маёй "іконы" стаў больш сумным і задуменным. Але вялікія творцы — выбраннікі Бога — не паміраюць. Калас, як і Шаляпін — цэлая эпоха ў оперным мастацтве. Дастакова ўключыць запісы яе голасу — і ажыве трапяткая душа, заб'ецца мяцежнае сэрца Вялікай Марыі.

**Уладзімір ШЭЛІХІН**










# МАНАЛОГ ЕЛАЧКІ

Вось і зноў надыходзіць Новы год. Зноў я буду ў фаворы. На некалькі дзён. Зноў мяне ўпрыгожаць мішурой, гірляндамі, цацкамі і цукеркамі. І прывядуць да мяне Дзеда Мароза і Снягурачку. І дзеткі разам з бацькамі будуць спяваць і вадзіць вакол мяне карагоды...

А потым — мяне выкінуць. Як гэта добра паказаў калісьці Май Данцыг у сваёй журботнай карціне.

Дарэчы, пра жывапіс. Вось цікавае пытанне ўзнікае: а якую ролю я адыграла ў гэтым відзе выяўленчага мастацтва? Вы зараз здзівіцеся: самую малую! Проста мне не пашанцавала... Так, я з'яўляюся сімвалам Новага года — у астатнія трыста шэсцьдзесят дзён пра мяне ніхто і не ўспомніць. Такі вось чалавечы фактар. Не верыце?

Ці многа мяне малявалі беларускія мастакі? Дык не!

Вось бярозы, таполі, дубы, клёны, рабіны, вербы і іншыя ліставыя — гэта так! Хаця ў якасці другараднага атрыбута пры гэтых дрэвах я часам прысутнічаю, скажам, у пейзажах В.Бялыніцкага-Бірулі, В.Цвіркі, С.Лі, І.Карасёва, І.Дмухайла, Ф.Дарашэвіча.

Дзеля справядлівасці павінна сказаць, што да мяне вельмі ўважлівы Леанід Шчамялёў, адзін з нямногіх жывапісцаў, хто знаходзіць ува мне тую "пластычнасць", якую не прымаюць іншыя мастакі, кажучы, што "елачка — дрэва не пластычнае, мулкае", і таму не ўкладваюся ў жывапісную прастору.

А заўважце, як Шчамялёў малюе мяне ў палотнах "Налібоцкая пушча", "Новы год", "Асенні вечар", "Першы дзень міру", "Прысяга".

А вось што кажа пра мяне іншы беларускі мастак — Іван Кліменка: "Для мяне вобраз елкі звязаны з дзяцінствам, і там елка была апраўданнем існавання фарбаў і маім першым колеразнаўствам. Навокал белая снежная прастора. Маці прыносіць свежыя, з пахам, акварэльныя фарбы. Цэлы дзень ходзім мы з дзедам, выбіраючы самую прыгожую елку. Яе ўсталёўвалі паміж дзвюма сінімі вячэрнімі вокнамі, запальвалася жоўтая лямпачка, і тут пачыналася чараўніцтва ўпрыгожання. Сцягваўся з паддашку чырвоны драўляны куфар з цацкамі і ўрачыста адчыняўся. І яна, елачка, духмяная і халодная, апраналася ў чырвоныя, зялёныя, жоўтыя і фіялетавыя шары. Верхнія галінкі пакрываліся караламі са шкляных ледзяшоў, а ўнізе спляталіся рознакаляровыя карункі, як на цыганскіх спадніцах. І яна ажывала...

А цяпер елка — гэта як сустрэча з прыгожай дамай, у якую адразу закахаешся, і на некалькі дзён яна закрые сабой увесь свет. І ў такія ночы чуецца дзесьці шорхат падрастаючых новых елачак для нашых будучых сустрэч".

Вось так паэтычна і цёпла напісаў пра мяне мастак! Нездарма Уладзімір Даль ласкава называў мяне "елинушка", "елишка", "елинка". Нездарма ж так любіў мяне і Іван Іванавіч Шышкін. А колькі песень пра мяне складзена і казак прыдумана!

Так што дарэмна большасць мастакоў мяне ігнаруе.

Шаноўныя майстры пэндзля! Прыглядзіцеся да мяне больш уважліва, і вы знойдзеце ўва мне не толькі колерамузыку, дынаміку і ажур ліній і рэфлексаў, але і сімволіку своеасаблівую, і метафарычнасць казачную, як гэта зрабіў той самы Май Данцыг. Альбо спецыяльна для газеты "Культура" Аляксандр Зіменка, Іван Кліменка і Уладзімір Правідохін...

Шчасця вам у Новым, 1999 годзе!

**Занатаваў Барыс КРЭПАК**








***Н.Паплаўская. "Газету "Культура" віншую з Новым годам!"***

***К.Хацяноўскі, дырэктар выдавецтва "Кавалер Паблішэрс", віншуе газету "Культура" з Новым годам. Аўтар паштоўкі — В.Валынец.***

***Л.Шчамялёў. "Новы год". Пал., алей.***

***М.Данцыг. "Нацюрморт з елачкай. Пасля Новага года". Пал., алей.***

***У.Правідохін. "Любіце, любіце і яшчэ раз... сячыце...". Акв.***

***А.Зіменка. "Навагодні прывід". Малюнак.***

***І.Кліменка. "Елачка — мая цудоўная дама..." Акв.***

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Анатоль ВЯРЦІНСКІ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ, Аляксей ДУДАРАЎ, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Вольга ІПАТАВА, Міхаіл ПТАШУК, Алесь РАЗАНАЎ, Віктар СКОРАБАГАТАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Надзея БУНЦЭВІЧ, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК, Алесь ФІЛІПОВІЧ, Валерый ШЫХАНЦОЎ**
Спецкарэспандэнты: **Ганна АЛАДАВА, Таццяна КОМАНАВА, Сяргей МІНСКЕВІЧ, Ілля СВІРЫН**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3221.

Падпісана ў свет 23.12.98. у 17.35.

Замова 7415.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**